Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 40 (4686) 5 кастрычніка 2012 г.

Думка пісьменніка

## СЛОВА ПРА НАСТАЎНІЦУ



Цяперашні прагматычны час не залічвае прафесію настаўніка ў шэраг прэстыжных, а калі прэстыж мераць заробкам, то ўвогуле становіцца шкада сучасных настаўнікаў і крыху сорамна за іх вучняў. А з іншага боку, ролю настаўніка цяжка пераацаніць. Калі ўявіць іерархічную лесвіцу каштоўнасцей, то асоба яго ў душы чалавека зойме ці не адну з самых вышэйшых і значных прыступак. Нават сіроты, воляй лёсу пазбаўленыя бацькоў, не пазбаўлены настаўнікаў.

Напярэдадні прафесійнага свята хочацца ўспомніць добрым словам і маю першую настаўніцу Клаўдзію Філімонаўну Токараву, якая працавала ў Люсінскай сярэдняй школе, што на Ганцаўшчыне. А вёска, у якую бацьку паслалі на працу, аказалася славутай, на будынку школы — мемарыяльная дошка з надпісам, што "тут настаўнічаў народны паэт Беларусі Якуб Колас". Пагаворвалі нават, што паэт "пабудаваў школу на свае грошы", а дзве старэнькія бабулькі, па-вулічнаму — "Жмуровыя", у якіх мы кватаравалі, з гонарам распавядалі, што Якуб Колас іх вучыў і, што ім асабліва запомнілася, — быў вялікім аматарам хадзіць у грыбы. Дарэчы, школа цяпер носіць імя Якуба Коласа, мае музей паэта, а вёска Люсіна (Цельшына) і яе жыхары апісаны творцам у аўтабіяграфічнай трылогіі "На ростанях".

Але вернемся да Клаўдзіі Філімонаўны, празорлівасці якой з гадамі даводзіцца ўсё болей здзіўляцца. Трэба сказаць, што я быў звычайным школьнікам, не праяўляў ніякіх асаблівых здольнасцей і спадзяванняў, якія бацькі маглі б ускласці на свайго "вундэркінда". Шарагоіы падлетак, можа, крыху арыгінал. Тым больш нечаканым і невытлумачальным становіцца "прароцтва" настаўніцы. Зусім не збіраўся звязваць свой лёс з літаратурай, тым больш — з паэзіяй, неяк само жыццё выкруцілася так і скіравала мяне на гэты шлях. Але яшчэ ў першым класе Клаўдзія Філімонаўна па сакрэце сказала маёй маці: "Толя ў вас надзвычай башкавіты, у яго фенаменальная і ўчэпістая памяць, калі выклікаю першага да дошкі — двойка, нічога не ведае, не рыхтуецца. А выклікаю другім — дык ён слова ў слова паўтарае тое, што гаварыў вучань перад ім. Калі б ён не ленаваўся, то мог бы стаць нават паэтам".

Толькі сапраўдны настаўнік можа разглядзець у дзіцячай душы затоенае, якое праявіцца праз дзесяцігоддзі.

Калі я думаў пра сябе,
што я там нешта значу —
Я быў па сутнасці — ніхто.
Калі я ведаю цяпер,
што я па сутнасці ніхто,
Гавораць мне: "Ты нешта значыш".

**Анатоль КУДЛАСЕВІЧ**

# Чалавек у стыні часу

"Закончыўшы беларускае аддзяленне філфака ўніверсітэта, на вялікі жаль і сорам, мала хто з маіх аднакурснікаў быў знаёмы з творчасцю Івана Пташнікава. <…> Помню, яго імя прагучала на лекцыі па сучаснай беларускай літаратуры ў пераліку аўтараў, якія "пішуць пра вайну". У "абойме"!" Гэта — з артыкула Любові Ламекі "У рэчышчы нацыянальнай традыцыі".



**Алена КАРП,**
**фота Уладзіміра Крука**

Вылучыць месца ў абойме ды вызначыць цэтлікі "пра вайну і пра вёску"… Гэта нават можа быць апраўдана бягучымі задачамі літаратуразнаўства (тэматычны падзел, стварэнне кантэксту). Аднак варта толькі на крок адысціся, каб убачыць, наколькі гэтыя абмежаванні, агульныя спісы несправядлівыя ў дачыненні да сапраўды таленавітага і цікавага аўтара. "Пра вайну і пра вёску" — не самыя лепшыя для сучаснага чытача рэкамендацыі. Хоць, безумоўна, праўдзівыя. Але сёння, напярэдадні 80-гадовага юбілею творцы, варта вылузнуць іх з абоймы, падысці бліжэй і прыглядзецца ўважлівей.

Як бы банальна ні гучала, ды ўсё ж варта прагаварыць яшчэ раз: Іван Пташнікаў піша не толькі пра вайну і вёску, ён піша пра чалавека, быццё, экзістэнцыю. "Пташнікаў паказвае жыццё, жыццё звычайнае — звычайнага чалавека. Але жыццё ў нейкі пераломны для чалавека момант, у якім нейк засяроджваецца ўсё — успамінаецца толькі самае істотнае, усе падзеі, учынкі ацэньваюцца самымі высокімі маральнымі крытэрыямі, духоўная атмасфера — высокай чысціні: самая дробная несправядлівасць ёй заўважаецца адразу". Гэтыя словы Серафіма Андраюка пра раман "Алімпіяда" пасуюць да ўсёй творчасці Івана Пташнікава. Ён, як і Алесь Адамовіч і Васіль Быкаў, належыць да таго тыпу пісьменнікаў, якія не баяліся думаць. Думаць шырока, глабальна. Таму і такія маштабныя тэмы: вайна, рэпрэсіі, Чарнобыль… Бо пісьменніцкая праца для гэтых аўтараў была адказнасцю і перад сабой (твор мусіць быць на самым высокім узроўні), і перад светам, і перад асобным чалавекам.

Працытуем яшчэ раз Любоў Ламеку: "Неаднойчы крытыкі папракалі І. Пташнікава ў тым, што ён зрабіў сваім героем "нічым не адметнага чалавека" (гэта пра Андрэя Вялічку!), што "нічога сацыяльна значнага ў жыцці героя не адбываецца", што "праблемы, перад якімі стаіць герой І. Пташнікава, не маюць вялікага грамадскага значэння", што "грамадзянская нязначнасць героя пазбаўляе твор дзейснасці", а ён, не зважаючы на гэтыя несправядлівыя абвінавачванні і папрокі, ізноў вяртаўся да свайго любімага героя, каб паказаць свету яго сапраўдную духоўную веліч і харатво — асноўу асноў жыцця".

Адна з лепшых аповесцей Пташнікава нездарма мае назву "Тартак". Тартак — лесапілка. Дзе дровы сякуць, там трэскі лятуць. І калі заплюшчыць вочы на "трэскі", на адзінкі, на "звычайнага" чалавека, то ўжо і лесу не заўважыш, не ўбачыш трагедыі ў яе сапраўдным маштабе. Таму Іван Пташнікаў і паказвае чалавека перад молахам (вайны, улады, катастрофы), чалавека неабароненага, слабога і адначасова моцнага перад халодным, непрытульным, бязлітасцівым часам.

Ці пазнае сучаснік сябе ў героях Пташнікава? Цяжка адказаць адназначна. Сёння чалавек нібыта не кінуты ў вір такіх жорсткіх выпрабаванняў, але пытанні, што стаяць перад ім, не менш сур'ёзныя і складаныя. Можа, і больш, бо думаць пра іх страшна, і прывучыць сябе да той найчысцейшай духоўнай атмасферы, якой патрабуе такое думанне, складана.

**(Заканчэнне на стар. 7.)**

# Веды — сіла, сіла — веды

*7 кастрычніка — Дзень настаўніка*

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ,**
**фота Кастуся Дробава**



*Дырэктар Празароцкай школы Глыбоцкага раёна В. Гінько з вучнямі ў музеі Ігната Буйніцкага.*

Дзень настаўніка — адно з самых хвалюючых свят. Бо чым больш аддаляюцца школьныя гады, тым больш ясна разумееш, што калі б не настаўнік, іншым было б жыццё. Менавіта гэты чалавек некалі так захапіў вас сваім прадметам ці сваёй асобаю, што вы зрабілі выбар будучай прафесіі задоўга да выпускнога балю. Менавіта ён сваім прыкладам паказаў, як трэба ставіцца да любімай справы. Менавіта з ім вам хацелася раіцца ва ўсіх жыццёвых і нават рамантычных сітуацыях.

У нядзелю многія з нас скажуць словы ўдзячнасці сваім любімым настаўнікам альбо абавязкова ўспомняць іх…

У кожнай з 3,4 тысячы сярэдніх школ рэспублікі ёсць зоркі педагагічнай справы, якія, як магніт, прыцягваюць вучняў сваім цікавым, змястоўным жыццём. Іх імёны ў гэтыя дні прагучаць на ўрачыстых сходах і нарадах. У нашых школах нямала здабыткаў, але, на жаль, яшчэ і нямала праблем. Напрыклад, не выпрацаваны дакладныя крытэрыі ацэнкі працы настаўніка, каб педагог разумеў, чаго ён павінен дасягнуць і за што ён будзе атрымліваць грошы. Падзенне цікавасці да педагагічнай прафесіі асабліва заўважана сярод мужчын.

Не трэба вызваляць настаўніка ад творчасці. Трэба вызваліць яго ад бясконцага марнавання свайго часу праз не ўласцівыя яму функцыі: арганізацыя "занятасці" ў вячэрні час і на канікулах, кантроль сем'яў і выпускнікоў, добраўпарадкаванне вуліц і фермаў, ахова правапарадку… Усё гэта павінна рабіцца, але не высілкамі настаўнікаў, а ўстановамі культуры, мясцовымі органамі ўлады, камунальнымі гаспадаркамі. Перагрузка дадатковымі мерапрыемствамі, якія не маюць дачынення да вучэбна-выхаваўчай работы, прыводзіць да таго, што сярод настаўнікаў назіраецца асабістая неўладкаванасць, а гэта, несумненна, адбіваецца на дзецях. Прыкладна 30 працэнтаў жанчын-настаўніц не маюць уласнай сям'і. Не дадаюць лёгкасці ў рабоце школы таксама разнастайныя праверкі і справаздачы.

На наш погляд, трэба радыкальна змяніць — зменшыць, літаральна звесці да нуля — дадатковую нагрузку на настаўніка. Сёння ж пералік яго абавязкаў займае не адну старонку: ён павінен і карміць, і сачыць, і забаўляць, і выхоўваць бацькоў і вучняў — пералік бясконцы. Гэтая нявызначанасць абавязкаў работніка адмоўна ўплывае на яго статус. І яшчэ адна заўвага: у нашых школах недаравальна мала гадзін адводзіцца на вывучэнне беларускай мовы і літаратуры.

Спадзяёмся, што ў бліжэйшы час гэтыя праблемы будуць вырашаны, а школа зоймецца выкананнем сваёй галоўнай задачы — выхаваннем чалавека.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўдастоіў дзяржаўных узнагарод прадстаўнікоў розных сфер дзейнасці. Ордэнам Францыска Скарыны ўганараваны асістэнт балетмайстра Беларускага дзяржаўнага заслужанага харэаграфічнага ансамбля “Харошкі” Фёдар Балабайка. Медалём “За працоўныя заслугі” адзначаны 51 работнік. Сярод іх — уласны карэспандэнт рэдакцыі газеты “Советская Белоруссия” ў Кітайскай Народнай Рэспубліцы Інеса Плескачэўская, дырэктар Полацкага каледжа Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава Таццяна Палушкіна.

✔ Медалём Францыска Скарыны ўзнагароджаны артысты аркестра — вядучыя майстры сцэны Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Аляксей Вакуленка, Ларыса Ласоцкая і Іван Філіпаў; дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Зінаіда Кучар; загадчык кафедры жывапісу Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Уладзімір Масленікаў; салістка-інструменталістка канцэртнай залы Сафійскага сабора Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музеязапаведніка Ксенія Пагарэлая; загадчык кафедры міжнароднага бізнесу Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта Галіна Турбан.

✔ Па запрашэнні польскага боку намеснік Міністра культуры Рэспублікі Беларусь Віктар Кураш узяў удзел ва ўрачыстым адкрыцці новага будынка Падляскай оперы і філармоніі ў Беластоку. Падчас наведвання былі абмеркаваны магчымасці арганізацыі ў Падляссі гастроляў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, творчых калектываў Беларускай дзяржаўнай і абласных філармоній.

✔ Фотавыстаўка, прысвечаная 1150-годдзю Полацка, адкрылася ў штаб-кватэры ЮНЕСКА ў Парыжы 3 кастрычніка. Юбілей Полацка прызнаны адной з найважнейшых міжнародных памятных дат і ўключаны ў каляндар 2012 — 2013 гадоў. Рашэнне было прынята на 36-й Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА ў Парыжы. Выстаўка будзе экспанавацца да 9 кастрычніка.

✔ Гран-пры VIII Рэспубліканскага фестывалю беларускіх фільмаў атрымала дакументальная стужка “Дрысвяты. Песня и судьба” рэжысёра Міхаіла Ждановускага (студыя “Летапіс” Нацыянальнай кінастудыі “Беларусьфільм”).2 кастрычніка міжнароднае журы падвяло вынікі Брэсцкага кінафестывалю. Стваральнікам фільмаў і акцёрам уручаны больш як 20 узнагарод.

✔ Дом-музей вядомага расійскага мастака Мікалая Неўрава ў вёсцы Лыскаўшчына Круглянскага раёна адновіць працу ў 2013 годзе. Тут плануецца стварыць аграэкатурыстычны комплекс з некалькімі дамамі для турыстаў і спадарожнай інфраструктурай. Сюды з Круглага пройдзе турыстычны маршрут, у які ўвойдзе і наведванне домамузея Мікалая Неўрава.

Падрыхтавала
Ярына РЫТАМІНСКАЯ

## З нагоды

# Ад арт-шоу да гістарычнай рэканструкцыі

**У Міністэрстве культуры Беларусі разгледжаны пытанні работ музейных устаноў у 2009 — 2012 гадах і перспектывы развіцця дзяржаўных музеяў на будучы год. Як было падкрэслена, за азначаны перыяд створаны ўсе неабходныя ўмовы для паспяховай працы.**

Раіса МАРЧУК

Сёння ў нашай краіне наведвальнікаў прымаюць 1914 музеяў. І з кожным годам іх становіцца ўсё больш. У адпаведнасці з даручэннямі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь створаны новыя ўстановы і экспазіцыі: з'явіўся музей сучаснай беларускай дзяржаўнасці, набылі новы статус Замкавы комплекс “Мір” і Палацава-паркавы ансамбль XVI — XIX стагоддзяў у Нясвіжы.

— У рамках рэалізацыі праграмы “Культура Беларусі на 2011 — 2015 гг.” з'явіліся цікавыя экспазіцыі ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту, Бярозаўскім гісторыка-краязнаўчым, Старадарожскім гісторыка-этнаграфічным, Горацкім раённым, Мінскім і Брэсцкім абласных краязнаўчых музеях, Ружанскім палацавым комплексе Сапегаў, Гродзенскім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі, Магілёўскім мастацкім музеі імя П. В. Масленікава, — паведаміла прэс-сакратар Міністэрства культуры Юлія Віскуб.

Набываюць усё большую вядомасць мерапрыемствы з новымі формамі працы: інтэрактыўныя экскурсіі, лялечныя прадстаўленні, тэатралізаваныя мерапрыемствы, гістарычныя рэканструкцыі, касцюміраваныя балі, гульні, міжмузейныя акцыі, творчыя майстэрні і майстар-класы, канцэртныя праграмы, імпрэзы і інш. Актыўна ўкараняе новыя формы працы Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музейзапаведнік: міжнародная біенале акварэлі “Вада + Фарба” (11 краін-удзельніц), канцэрты ў Сафійскім саборы, акцыя “Упішы сябе ў гісторыю Полацка”.

Не адстаюць ад палачан і гамяльчане: летась тут пачалі рэалізоўваць інавацыйную культурна-адукацыйную праграму “Праз культуру і мастацтва — у жыццё” (у мэтах сацыяльнай рэабілітацыі інвалідаў па зроку), беларуска-ўкраінскі “Свецкі раўт”. Падчас правядзення дабрачыннага беларуска-італьянскага вечара “Палацавая Фіеста — 2011” арганізавалі дабрачынны аўкцыён.

Шэраг цікавых праектаў на рахунку музеяў Мінскай вобласці. Супрацоўнікі Вілейскага краязнаўчага музея арганізавалі аўтапрабег па мясцінах, звязаных з падзеямі Першай сусветнай вайны. Да Дня памяці ахвяр стварылі новы праект — “ART-Vileyka”. У Мядзельскім музеі народнай славы распрацавалі адметны цыкл тэатралізаваных экскурсій пад назвай “Край Нарачанскі — край партызанскі”. Цікавая праграма з'явілася ў Любані — “Адзін дзень з жыцця дагістарычнага хлопчыка”.

На Брэстчыне паспяхова праходзяць вечары класічнай музыкі ў Пружанскім палацыку і Музейным комплексе Напалеона Орды ў Іванаўскім раёне, майстар-класы па стральбе з лука ў абласным краязнаўчым.

Адметнымі сталі музычнатэатральныя вечары ў Дваранскай гасцёўні Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея імя Е. Р. Раманава, Мастацкі пленэр па жывапісе, “Рыцарскі фэст” у Мсціслаўскім гісторыка-археалагічным музеі. Сярод новых форм працы ў галіне культурнаадукацыйнай дзейнасці, арганізаваных сталічнымі музеямі, варта згадаць арт-шоу ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.

На бліжэйшую перспектыву перад музейнымі ўстановамі пастаўлена задача: праводзіць маніторынг эфектыўнасці сваёй дзейнасці, каб пераарыентавацца са сферы ўнутранай на вонкавую. Гэта значыць, працаваць з аўдыторыяй, эфектыўна выкарыстоўваць калекцыі, пашыраць пазабюджэтнае фінансаванне. Маюцца на ўвазе перш за ўсё новыя, яксныя і цікавыя выставачныя праекты.

## Творчы свет

# Гарбата для будучых класікаў

*Пры рэдакцыі часопіса “Маладосць” пачала працу творчая майстэрня*

Святлана ВОЦІНАВА

**Табе 13 — 17 гадоў? Пішаш вершы альбо прозу? Натхнёна вядзеш асабісты дзённік? Марыш стаць журналістам ці пісьменнікам? Не саромейся, не лянуйся, не хавай творы ў сшытку! А завітай лепш на нашы штотыднёвыя сустрэчы!**

Такімі радкамі на вокладцы свежага нумара “Маладосці” абвяшчаецца заснаванне “Творчай майстэрні”. Ідэя, безумоўна, належыць бярозкаўцам: часопіс гэты страціў толькі асобную вокладку, але банк ідэй і захапленняў, як бачым, працягвае папаўняць. Пра намер стварыць такі клуб для падлеткаў, у якім можна было б праводзіць вольны ад урокаў і лекцый час прыгожа і змястоўна, у рэдакцыі загаварылі яшчэ летам. Верасень быў вызначаны не столькі як месяц падрыхтоўкі да штотыднёвага прыёму гасцей, колькі як час, патрэбны вучням і студэнтам для “ўключэння” ў навучальны і творчы працэс. Першае пасяджэнне, такім чынам, адбылося ў першы дзень кастрычніка. Мадэратаркай-гаспадыняй стала ўласна ініцыятар праекта Кацярына Безмацэрных.

— Мы знаёміліся за кубкам гарбаты, распавядалі адно аднаму пра любімыя творы класікаў і сучаснікаў, — дзялілася ўражаннямі Каця. — Уладзіслаў Каленнікаў, студэнт першага курса гістфака БДУ, смела зачытаў новае з напісанага. Майстэрня запрашае ўсіх, хто марыць стаць пісьменнікам альбо журналістам. Мы сустракаемся кожны панядзелак а 19-й гадзіне ў нашай рэдакцыі па адрасе: Мінск, Незалежнасці, 39 (станцыя метро “Плошча Перамогі”). У нас можна зачытаць свае творы і атрымаць водгукі.

Трэба, канечне, дадаць, што ў планах “Майстэрні” пазначана шмат цікавага і карыснага: сустрэчы з выкладчыкамі, літаратурнымі крытыкамі, вядомымі журналістамі, рэдактарамі выданняў і пісьменнікамі, майстар-класы і ўрокі-лекцыі, абмеркаванне новых кніг, спектакляў і кінафільмаў, паходы ў кіно і тэатр, на выстаўкі і імпрэзы.

“Наша мэта — не толькі пошук і матывацыя маладых талентаў, але і стварэнне камунікацыйнай пляцоўкі, інтэлектуальнага асяродку, месца, дзе можна цікава бавіць час і заводзіць новыя знаёмствы”, — сказана ў запрашальнай афішы.

Прыходзьце, вас чакаюць!

# Супольны «Autorsong»

Прэзентацыя незвычайнага творчага праекта з красамоўнай назвай “Autorsong” адбылася ў сталічным “Палацы мастацтваў”. А пачалося ўсё тры гады таму, калі гродзенская мастачка Валянціна Шоба пад уплывам песень Марэка Галонзкі стварыла серыю карцін, выказаўшы не толькі сваё стаўленне да музычных твораў Галонзкі, але і ўласны погляд на навакольны свет. Пасля поспеху гродзенскай выстаўкі “Лісты пра каханне і смерць” (2010), куды Валянціна запрасіла Марэка з канцэртам, можна было ўжо чакаць новага сумеснага праекта.

Вынікам працы беларуска-польскага тандэма сталася стварэнне ўнікальнага паэтычна-музычна-выяўленчага альбома з песнямі Галонзкі ды графічнымі кампазіцыямі Шобы. У назве “Autorsong” не толькі змест, але і сутнасць: мастак і музыка адначасова распрацоўваюць канцэпцыю сваёй творчасці ў межах асобнага праекта і спавядаюцца перад сабой і людзьмі.

Кампазіцыі Марэка дастаткова разнапланавыя: з аднаго боку, гэта творчасць у лепшых традыцыях песень Боба Дылана, Ніла Янга і Леанарда Коэна, а з другога — адгалоскі рокавых каранёў “The Band” і нават “The Beatles”. Музыкант адзначае, што “Autorsong” — гэта даступная назва аднаго з сучасных напрамкаў у бардаўскай песні. Валянціна прадставіла графічныя работы, якія ствараліся паралельна з песнямі Галонзкі. Усе яны аб'яднаны тэматычна і, безумоўна, адпавядаюць светаадчуванню аўтаркі. Акрамя беларускіх музыкаў на імпрэзу завітаў калега Марэка, вядомы прадстаўнік польскага рок-джаз-мастацтва Тымон Тыманьскі.

“Autorsong” — цікавы міжнародны праект, які аб'ядноўвае не толькі розныя віды мастацтва, але і разнапланавых творцаў.

Юлія ШАБЛОЎСКАЯ


## Спяшайцеся выпісаць “ЛіМ”!



*Для індывідуальных падпісчыкаў:*
**1 месяц — 15 800 руб.**
Падпісны індэкс — 63856
*Ведамасная падпіска:*
**1 месяц — 32 699 руб.**
Падпісны індэкс — 638562
*Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў:*
**1 месяц — 9 700 руб.**
Падпісны індэкс — 63815
*Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі:*
**1 месяц — 24 207 руб.**
Падпісны індэкс — 63880

Літабсягі

# «Гэта ўсё для цябе»

Так называлася літаратурная сустрэча з цыкла "Творчыя сем'і ў Доме Коласа", якая адбылася ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Перад гасцямі выступілі паэт і журналіст Навум Гальпяровіч, яго дачка Вольга і сын Максім.

**Дар'я ШОЦІК,**
**фота аўтара**

*І ў ціхіх мроях, і ў самотных снах,*
*Як абярэгі ад бяды і гора,*
*Заўжды са мною вечная Дзвіна,*
*Крынічка ля Сафійскага сабора.*

Дзівосныя радкі з верша паэта, якія прагучалі падчас вечарыны, вельмі дакладна адлюстроўваюць асобу творцы, яго родны край, дзе прайшла значная частка жыцця. Навум Гальпяровіч — галоўны дырэктар радыёстанцыі "Беларусь", прынамсі, яго голас вядомы не толькі беларускаму слухачу, але і замежнаму. Сапраўды, Навум Якаўлевіч шмат часу аддае літаратурнай творчасці, з'яўляецца аўтарам паэтычных зборнікаў "Сцяжына", "Брама", "Востраў душы", "Струна", "Святло ў акне", "Голас і рэха", "Гэта ўсё для цябе". Аказваецца, шмат песень напісана на яго словы!

Навум Гальпяровіч прызнаўся: "Працяг роду, традыцый вельмі важны для мяне і маёй сям'і. Важна, каб родныя дзеці ўспрымалі навакольны свет, а бацькі гэтаму спрыялі. Безумоўна, у сына свой светапогляд, але ёсць нешта такое, што нас яднае, дазваляе называцца сям'ёй. Дарэчы, любоў да беларускага слова, культуры і ёсць галоўнае звяно ў нашай сям'і".

Відэапрэзентацыя, падрыхтаваная Вольгай і Максімам Гальпяровічамі, пазнаёміла прысутных з творчым жыццём бацькі. Дарэчы, Вольга пайшла па бацькавым шляху, яна вядомая беларуская радыёжурналістка, працуе на Міжнародным радыё Кітая, а Максім — гісторык, галоўны рэдактар "Беларускага гістарычнага часопіса".



*Творчая сям'я: Максім, Вольга і Навум Гальпяровічы.*

Узнёслыя словы паэту і журналісту гучалі ад галоўнага рэдактара часопіса "Маладосць" Святланы Дзянісавай, археолага Сяргея Тарасава, паэта Алеся Гібкоўскага, земляка-пісьменніка Янкі Стадольніка.

Галоўны рэдактар штотыднёвіка "ЛіМ" Таццяна Сівец заўважыла, што ўвесь штат радыёстанцыі "Беларусь" — гэта вялікая творчая сям'я Навума Гальпяровіча.

Арт-лінія

# Землякі вяртаюцца...

"Мастакі Парыжскай школы з Беларусі. З карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанка, музейных і прыватных збораў": хіба можна не заўважыць такую афішу! Нацыянальны мастацкі музей Беларусі ажыццявіў праект, які ўжо сёння называюць адной з найярчэйшых арт-падзей не толькі 2012-га, але і наступнага года.




**Арцём КУМЕЛЬСКІХ**

"Парыжская школа". Такім спалучэннем слоў, якое хутка ператварылася ў тэрмін, скарыстаўся французскі крытык А. Варно для пазначэння групы мастакоў, што на пачатку ХХ ст. працавалі ў Парыжы ў майстэрнях А. Бушэ. Маладыя творцы эксперыментавалі ў пост-імпрэсіянізме, кубізме, фавізме... І ўрэшце праславіліся менавіта ўраджэнцы Беларусі, чыя "школа" пачыналася на радзіме.

Толькі цяпер адбываюцца іх увахodзіны ў беларускі гісторыка-культурны кантэкст. Прэлюдыяй гэтага складанага працэсу стала-ся "вяртанне на радзіму" самага знакамітага прадстаўніка "парыжскай школы" — Марка Шагала. А на цырымоніі святкавання 125-годдзя з дня яго нараджэння старшыня праўлення ААТ "Белгазпрамбанк" В. Бабарыка ўручыў дырэктару музея У. Пракапцову два графічныя аркушы М. Шагала — увасобленыя ў тэхніцы акватынты біблейскія матывы "Крыжовы шлях" і "Мроіва Апакаліпсісу" (1967).

Для сваёй карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанк апошнім часам набыў за мяжой некалькі дзясяткаў работ сусветна вядомых (або прызнаных на еўрапейскай прасторы) мастакоў. На выстаўцы, да арганізацыі якой спрычыніліся Міністэрства культуры Беларусі, Нацыянальная камісія па справах ЮНЕСКА, Пасольства нашай краіны ў Францыі — творы адзінаццаці "парыжан". Побач са славутым трыумвіратам Марка Шагала, Хаіма Суціна, Восіпа Цадкіна (Задкіна) — імёны Якава Балглея з Брэста, Роберта Геніна з Клімавіч, Яўгена Зака з Магільна, Сэма Зарфіна (Царфіна) са Смілавіч, Мішэля Кікоіна з Гомеля, Пінхуса Крэменя з Жалудка, Надзеі Хадасевіч-Лежэ з-пад Докшыц, Восіпа Любіча з Гродна.

Экспанатаў каля сотні. Больш як 40 твораў са збору банка, столькі ж з прыватных калекцый Беларусі ды Санкт-Пецярбурга, некалькі работ з фондаў Музея М. Шагала ў Віцебску і НММ Рэспублікі Беларусь. Выстаўка забяспечана пазнаваўчай інфармацыяй; важнае дапаўненне — "антураж" парыжскай кавярні, выпуск мастацкіх паштовак, перавыданне кнігі У. Шчаснага "Мастакі Парыжскай школы родам з Беларусі" (выдавецтва "Чатыры чвэрці").

Сталіцу абляцела навіна: на аснове карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанка, прызнанай найбуйнейшым зборам работ экспрэсіяністаў "парыжскай школы" ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе, будзе створаны Музей прыватных калекцый — па ініцыятыве праўлення банка.

Повязі

# Тры тыдні з «ТЭАРТам»

Пачатак кастрычніка вось ужо другі год запар прыносіць прыкметнае ажыўленне ў асяроддзе прыхільнікаў Мельпамены. У беларусаў ёсць цудоўная магчымасць пазнаёміцца з лепшымі спектаклямі свету — у межах міжнароднага форуму тэатральнага мастацтва "ТЭАРТ".

**Ірына ТУЛУПАВА,**
**фота Кастуся Дробава**

Ідэя такога маштабнага праекта нарадзілася, калі ў краіне яшчэ толькі стварыўся Цэнтр візуальных і выканальніцкіх мастацтваў. Ён малады — датай свайго нараджэння вызначае снежань 2010 года. Каманда складаецца з 9 чалавек — кожны працуе па сваім напрамку.

Ужо на другім форуме цэнтр прадстаўляе сваю працу — спектакль "Ладдзя роспачы" паводле Уладзіміра Караткевіча. Нацыянальная прэм'ера запланавана на 20 кастрычніка. Аўтары ідэі — Вольга Мацкевіч і Ігар Пятроў. У ролях — Андрэй Гладкі, Андрэй Дробыш, Аляксандр Падабед ды іншыя.

Аднак вернемся да форуму. Яго арганізатар — Цэнтр візуальных і выканальніцкіх мастацтваў. Але праходзіць ён пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Стратэгічны партнёр і суарганізатар — Белгазпрамбанк. Такім чынам, дзяржаўныя ўстановы і бізнес аб'ядналі свае намаганні ў падтрымцы беларускай культуры. Як пазначыў на брыфінгу з нагоды пачатку форуму прэс-сакратар МЗС Андрэй Савіных, праекты ў сферы культуры адлюстроўваюць прыгажосць чалавека. Яна натхняе мастакоў, паэтаў, тэатральных дзеячаў, а мастацтва, у сваю чаргу, складае імідж краіны.

Саветнік старшыні праўлення Белгазпрамбанка Уладзімір Сажын падкрэсліў, што падобнае спонсарства — добрая справа. І не варта чакаць ад праекта найперш матэрыяльных выгод, яго асноўная мэта — забяспечанне высокіх патрэбнасцей чалавека, магчымасць падтрымаць яго ў памкненні да спасціжэння шэдэўраў сусветнай культуры.

На афішы форуму — назвы васьмі краін. Адкрылі фестываль "Шербурские зонтики" Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага музычнага тэатра "Карамболь" (спектакль-лаўрэат расійскай прэміі "Залатая маска"). У міжнароднай праграме — польскія спектаклі "Мінус-2" і "Дэзерт (Пустыня)". Апошні — спроба ўбачыць казку "Маленькі прынц" Антуана дэ Сент-Экзюперы вачыма дарослага чалавека. Вільнюскі гарадскі тэатр прапануе спектаклі "Міранда" (паводле "Буры" У. Шэкспіра) і "На дне" (М. Горкага). Латвійскі нацыянальны тэатр прывёз пастаноўку "Мёртвых душ" (М. Гогаль). Беларуская публіка ўпершыню пазнаёміцца з творчасцю лідара сучаснага еўрапейскага тэатра — італьянскага рэжысёра Рамэа Кастэлучы. У Мінску прадстаўляецца спектакль "Пра канцэпцыю ліка Сына Божага". Рускі тэатр Эстоніі прапануе "Адну летнюю ноч у Швецыі". Запланавана таксама маладзёжная "Off-праграма", якая ўключае дзве пастаноўкі сумеснага беларуска-польскага праекта і тэатра з Францыі.



*Сустрэча ў Расійскім цэнтры навукі і культуры ў Мінску.*

З-пад пяра

Міжнародная навуковая канферэнцыя "Літаратура — мова — культура" напрыканцы мінулага тыдня сабрала больш як 150 лінгвістаў і літаратуразнаўцаў з Беларусі, Украіны, Балгарыі, Германіі, Польшчы і Японіі. Прысвячалася яна 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Акрамя непасрэднага ўдзелу ў рабоце сямі секцый, удзельнікі ўсклалі кветкі да помнікаў класікам, пазнаёміліся з беларускай сталіцай, наведалі літаратурныя музеі Мінска.

**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

На гэтым тыдні ў Гомелі прайшлі Міжнародныя навуковыя чытанні "Рэгіянальнае, нацыянальнае і агульначалавечае ў славянскіх літаратурах" памяці народнага пісьменніка Беларусі, акадэміка Івана Навуменкі, яны сабралі навукоўцаў з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Германіі, Вялікабрытаніі і іншых краін. Даклады былі прысвечаны даследаванню спадчыны Івана Навуменкі, актуальным з'явам у культурным жыцці славянскіх народаў, а таксама вызначэнню перспектыў развіцця класічнай літаратуры ў эпоху глабалізацыі. Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Гомельскі дзяржуніверсітэт імя Францыска Скарыны, Гомельскае аб'яднанне "Таварыства Кірылы Тураўскага" і Гомельская спецыялізаваная славянская бібліятэка.

**Алеся БАЦЮСЬ**

1 кастрычніка ў Міжнародны дзень музыкі адбылася прэзентацыя анталогіі кампакт-дыскаў "Музыка Беларусі XVII — XX стст.", якая складаецца з 234 музычных твораў 76 беларускіх кампазітараў. Выданне здзейснена пры ўдзеле Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры, Нацыянальнага камітэта Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА, прадстаўніцтва расійскай кампаніі "Global CD" у Мінску, пры фінансавай падтрымцы бюро ЮНЕСКА ў Маскве. Аб працы над дыскам расказалі дырэктар музея Зінаіда Кучар, доктар мастацтвазнаўства, прафесар Вольга Дадзіёмава і старшыня Нацыянальнага камітэта Беларусі па справах ЮНЕСКА Уладзімір Шчасны. Падчас мерапрыемства студэнты БДАМ выканалі творы XVII — XX стст., якія найлепшым чынам праілюстравалі ўсё багацце беларускай музычнай культуры.

**Ганна СКІНДЗЕРСКАЯ**

У Віцебскім Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа 3 лістапада пройдзе святкаванне 130-годдзя з дня нараджэння Песняра. Загадчыца літаратурна-драматычнай часткі Святлана Дашкевіч распавяла, што свята плануецца правесці ў выглядзе балю. Усе, хто завітае на імпрэзу, будуць непасрэднымі ўдзельнікамі дзеяння. Колькасць квіткоў абмежаваная (каля 100 штук), прыблізны кошт — 50 000 рублёў. Набыць іх можна будзе ў касах горада.

**Кацярына СТАСЁНАК**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырыя спачуванні пісьменніцы Краснеўскай Зінаідзе Якаўлеўне ў сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю МАЦІ.

# У дыялогу з сучаснікамі

## ПРА ВЫНІКІ МІЖНАРОДНАЙ НАВУКОВА-ПРАКТЫЧНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ ДА 130-ГОДДЗЯ КЛАСІКАЎ

Вялікія мысліцелі, выразнікі дум і пачуццяў беларускага народа, тыя, хто дасканала ведаў і імкнуўся раскрыць у сваіх творах нацыянальны характар беларуса, асаблівасці складу беларускай душы і штодзённага побыту беларусаў — гэта далёка не ўсё, што было і будзе сказана пра зробленае Янкам Купалам і Якубам Коласам. Сведчанне таму — вялікая колькасць самых розных юбілейных мерапрыемстваў, якія ўжо прайшлі і яшчэ будуць праходзіць ва ўсіх куточках не толькі Беларусі, але і далёка за яе межамі — усюды, дзе Купалава і Коласава слова кранае душы людзей, неабыякавых да лёсу Радзімы.

**Алена МАНКЕВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук**

Янка Купала і Якуб Колас… Гэтыя імёны заўсёды побач. Нашы вялікія песняры ўвайшлі ў гісторыю сусветнай літаратуры як сімвалы беларушчыны і сталі выразнікамі сацыяльных і нацыянальных ідэй. Для нас яны — не проста пісьменнікі-творцы. Яны нацыянальныя праведнікі і пракокі, спадчына якіх невычэрпная і актуальная ва ўсе часы. Ролю і значэнне зробленага імі для станаўлення і развіцця беларускай мовы, літаратуры і культуры, выхаду яе не толькі на еўрапейскі, але і на сусветны ўзровень яшчэ не хутка ацэнім і мы, тыя, хто нарадзіўся і вырас на зямлі Купалы і Коласа, і сусветнае літаратуразнаўства.

Гэта яшчэ раз засведчыла Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Творчая спадчына Янкі Купалы і Якуба Коласа ў сістэме дзяржаўна-культурных і духоўна-эстэтычных прыярытэтаў XXI стагоддзя", прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры, якая прайшла ў Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, дзе з дакладамі і паведамленнямі выступілі вядучыя беларускія навукоўцы, а таксама іх калегі з Польшчы, Украіны і ЗША.

Ва ўступным слове дырэктар Інстытута мовы і літаратуры НАН Беларусі, доктар філалагічных навук Аляксандр Лукашанец яшчэ раз падкрэсліў неацэнную ролю волатаў беларускага слова ў развіцці літаратурнай мовы.

На афіцыйным узроўні прывітаў удзельнікаў канферэнцыі акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, доктар гістарычных навук Аляксандр Каваленя. У сваім выступленні ён адзначыў: "2012 год незвычайна насычаны юбілейнымі датамі. Гэта і 1150-годдзе заснавання Полацка, 200-годдзе разгрому французскіх захопнікаў, 400-годдзе сканчэння зямнога шляху прападобнай Сафіі Слуцкай, юбілеі Уладзіслава Галубка, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка і многіх іншых выбітных асоб беларускага народа. <…>

Роздум пра нацыянальных класікаў, іх багатую літаратурна-паэтычную спадчыну сведчыць, што агульная большасць нас у свой час адкрывалі багацце і прыгажосць беларускай зямлі, складаны лёс працавітага беларускага народа дзякуючы знаёмству з іх творчасцю. Напэўна, цяжка знайсці чалавека, хто б не захапляўся ліра-эпічнымі паэмамі "Курган", "Над ракой Арэсай", "Сымон-музыка", "Новая зямля", трылогіяй "На ростанях", неўміручымі п'есамі "Паўлінка", "Прымакі", "Раскіданае гняздо". Гэта былі настольныя кнігі кожнага беларускага школьніка і творчай інтэлігенцыі, патрэбна, каб так было і сёння".



*Якуб Колас, Янка Купала і рускі пісьменнік Аляксей Талстой падчас Дэкады беларускай літаратуры і мастацтва ў г. Маскве. 1940 г.*
*Фота з сайта www.archives.gov.by*

Пра тое, што робіцца сёння на ніве ўшанавання памяці народных песняроў, расказалі ў прывітальным слове да ўдзельнікаў канферэнцыі дырэктар музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская і галоўны рэдактар газеты "Літаратура і мастацтва" Таццяна Сівец.

На ўдзел у канферэнцыі было пададзена больш як 60 заявак. Нават пералік тэм сведчыць пра пастаянную жывую цікавасць як пачынаючых, так і вядомых даследчыкаў да творчай спадчыны гэтых выдатных майстроў беларускага слова: "Тэатральныя клопаты Якуба Коласа" (член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар філалагічных навук Сцяпан Лаўшук), "Міфалагічны хранатоп у паэмах Якуба Коласа" (доктар філалагічных навук Таццяна Шамякіна), "Янка Купала і Якуб Колас: учора, сёння, заўсёды" (доктар філалагічных навук Міхась Тычына), "Праблема экалагічнага імператыву ў творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа" (кандыдат філалагічных навук Пятро Васючэнка), "Янка Купала і Славакія" (кандыдат філалагічных навук Мікола Трус), "Дыялагізм купалаўскага паэтычнага дыскурсу: праблема адрасата" (кандыдат філалагічных навук Яўген Гарадніцкі) і інш. Дакладчыкі прывялі шмат новых, цікавых фактаў, невядомых раней не толькі шырокай грамадскасці, але нават і навукоўцам, якія займаюцца вывучэннем і даследаваннем спадчыны Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Кірункі працы канферэнцыі ахоплівалі шырокае кола самых розных тэм, якія прадставілі творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа ў сістэме духоўна-эстэтычных і дзяржаўна-культурных прыярытэтаў сучаснасці, адкрылі новыя факты з жыцця класікаў нашай літаратуры, а таксама іх шматгранный творчай дзейнасці.

Вялася праца чатырох секцый: "Янка Купала і Якуб Колас: новае ў даследаванні творчага дыялогу класікаў", дзе ў параўнальна-тыпалагічным кантэксце былі прадстаўлены новыя дасягненні купала- і коласазнаўства. У другой — "Коласазнаўства XXI стагоддзя: сучасныя аспекты даследавання" — прагучалі даклады пра паэтычнае майстэрства Якуба Коласа. У секцыі "Ад класікі да сучаснасці" гаворка вялася пра традыцыі Янкі Купалы і Якуба Коласа ў творчасці сучасных пісьменнікаў. І ў секцыі "Выданне збораў твораў класікаў: вынікі і перспектывы" былі абмеркаваны тэксталагічныя знаходкі і праблемы, якія актуалізаваліся пры падрыхтоўцы збораў твораў.

Кожная новая эпоха бачыць спадчыну класікаў па-новаму, вывучае ў ёй невядомыя раней грані таленту мастакоў слова, даходзіць да нязведаных глыбінь у спазнанні і разуменні імі складанасцей свету, адкрывае свайго Купалу і свайго Коласа. І хоць добра вядома, што Купала і Колас вельмі розныя па творчай манеры, стылі, асаблівасцях духоўнага свету, яны вельмі блізкія па грамадскіх і эстэтычных ідэалах. Гэта яны ўзнялі беларускую літаратуру да ўзроўню перадавых літаратур свету, стварыўшы сапраўдныя шэдэўры нацыянальнага мастацтва. Думаецца, што навуковы форум садзейнічаў больш глыбокаму асэнсаванню творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа, бо глыбіні скарбніцы іх літаратурнай спадчыны тояць у сабе шмат неадкрытага, не спаўна асэнсаванага і, безумоўна, цікавага і каштоўнага. Вывучэнне творчага дыялогу працягваецца.

## З пошты "ЛіМа"

### БРАВА, МАЛАДЗЕЧАНЦЫ!

Давялося мне сёлета пабываць на канцэрце Рускага хору горада Эсленгена (гэта ў Германіі, дзе я цяпер пастаянна жыву). У праграме ўдзельнічаў калектыў з Маладзечна, г. зв. горада-пабраціма: аркестр народных інструментаў Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага вучылішча. Мінула ўжо колькі часу, але я мусіў перадолець уласную лянноту і знайсці адрас вашай рэдакцыі, бо яркае ўражанне ад выступлення беларускіх музыкантаў, стан свята душы не пакідаюць мяне і па сёння.

Я масквіч, прафесійны музыкант. Падчас навучання ў Музычнай акадэміі імя Гнесіных мы, студэнты-струннікі, з прыемнасцю наведвалі заняткі і выступленні нашых сяброў-"народнікаў". Так што любоў і цікавасць да выканальніцкага мастацтва на народных інструментах — гэта ўва мне "генетычна". Скончыўшы навучанне, я доўгія гады працаваў у Маскоўскай дзяржаўнай філармоніі, неаднаразова бываў на гастролях у Беларусі і назаўжды захаваў цудоўныя ўспаміны пра добрую і чуйную публіку, якая запаўняла залы. Так што на згаданым канцэрце я быў не выпадковым госцем.

Перадусім уразіў мяне высокі ўзровень выканання маладзечанскіх музыкантаў. Цяжка было даць веры, што гэта граюць студэнты, і нават не вышэйшай навучальнай установы. Выдатна падабраны рэпертуар на аснове беларускага і рускага музычнага фальклору. На жаль, я не даведаўся, хто рабіў апрацоўкі ды аркестроўкі тых твораў, аднак, на мой погляд, гэта праца зробленая на годным узроўні і з добрым густам. А што да вядучага саліста, дык ён, думаю, мог бы аздобіць любое айчыннае ці замежнае рэвю. За дырыжорскім пультам стаяла зграбная і абаяльная Тамара Бялькова. Яна жыла музыкай і праз адточаны прафесійны жэст, якому маглі б пазайздросціць многія сімфанічныя дырыжоры, ядналася з маладымі выканаўцамі, і ўсе яны разам стваралі перад захопленай аўдыторыяй тое, што вызначаецца высокім паняццем "сапраўднае мастацтва". Потым публіка стоячы вітала артыстаў, і гэта былі нават не "бурныя апладысменты" — зала (дзе былі пераважна немецкія гледачы), што называецца, проста раўла ад узрушанасці!

Тое зерне дабра і радасці, што сее цудоўны калектыў з горада Маладзечна ў душах сваіх гледачоў, абавязкова прарасце пачуццямі павагі і зычлівасці, шчырай цікавасці да самой радзімы музыкантаў. А гэта вельмі важна ў наш няпросты і трывожны час.

**Якаў АРЛОЎСКІ,**
**заслужаны работнік культуры Расійскай Федэрацыі,**
**г. Штутгарт, Германія**

# Права на цітры

**Анатоль ІВАНЧАНКА**

Добра расказала Аксана Лунінец пра пісьменніка Міхаіла Вольпіна, ураджэнца Магілёва ("ЛіМ", № 28, с. 21). Цалкам, на мой погляд, слушна яна піша, што фільмы паводле яго сцэнарыяў — цэлая эпоха ў кінематографе былога СССР. Але ж сёе-тое трэба дапоўніць ці ўдакладніць.

У спісе кінастужак, створаных з удзелам Вольпіна, лічыцца камедыя "Кубанскія казакі", хаця ён не значыцца ў цітрах фільма як аўтар ці суаўтар сцэнарыя, паколькі Вольпін — не сцэнарыст, насуперак таму, як хтосьці можа падумаць, а аўтар песеннага тэксту (побач з М. Ісакоўскім). Праўда, сцэнарыстам фільма ў шырокім сэнсе, мабыць, можна лічыць аўтара ўсякага значнага тэксту з фільма, напрыклад, песні. У такім выпадку сярод карцін з удзелам Вольпіна трэба перш за ўсё называць камедыю Рыгора Аляксандрава "Вясна" (1947). Вершы да выдатных песень на музыку Ісака Дунаеўскага напісалі Васіль Лебедзеў-Кумач, Сяргей Міхалкоў і Міхаіл Вольпін. Наш зямляк напісаў словы песні "Весна идёт".

Тое, што нібыта першай стужкай паводле сцэнарыя Вольпіна была "Волга-Волга" (1938), — распаўсюджанае непаразуменне. На самай справе першым фільмам быў "Старый наездник" (1940), які выйшаў на экраны толькі пасля Вялікай Айчыннай. Праўда, перад гэтым кінагледачам прадставілі "Актрысу" (1943), у якой дзеянне адбываецца падчас вайны (рэжысёр Л. Траўберг, у ролях Б. Бабачкін, М. Жараў). Сярод іншых фільмаў Вольпіна, якія заслугоўваюць згадкі ў ліку лепшых, — камедыя С. Юткевіча "Здравствуй, Москва!" (1946), "Застава в горах" (1953), "На подмостках сцены" (1956), "Косолапый друг" (1958).

Нядаўна паказалі "Волгу-Волгу" ў колерах: у цітрах замест М. Вольпіна ўказаны "В. Нільсен" (псеўданім Уладзіміра Альпера), які з'яўляўся і аператарам фільма (да гэтага ён зняў з Аляксандравым "Весёлых ребят" і "Цирк"). Аказалася, што пры здымках "Волгі-Волгі" яго ў 1937 годзе арыштавалі, абвінавацілі ў шпіянажы і праз год расстралялі (рэабілітавалі ў 1956-м).

Уладзімір Альпер быў выключаны з Петраградскага ўніверсітэта з-за непралетарскага паходжання. Нелегальна выехаў у Германію, дзе паступіў на вучобу ў політэхнікум і пад псеўданімам У. Нільсен уступіў у Камуністычны саюз моладзі Германіі.

У 1926 годзе ў Берлін прыехаў са сваім "Браненосцем «Потёмкиным»" Сяргей Эйзенштэйн. Нільсен пазнаёміўся з ім і вярнуўся ў СССР, дзе працаваў асістэнтам апаратара на здымках фільма "Октябрь", які Эйзенштэйн ставіў з удзелам Аляксандрава. У складзе дэлегацыі Нільсен ездзіў у Францыю і ЗША для вывучэння кінавытворчасці. Ён ужываў найноўшы вопыт апаратарскага майстэрства, часта выступаў у друку на гэтыя тэмы (у 1933 — 1936 гадах выдаў тры свае кнігі па тэорыі і практыцы апаратарскага мастацтва).

Чаму прозвішча Нільсена як суаўтара сцэнарыя замянілі прозвішчам Вольпіна? Ці з яго згоды гэта зрабілі?

Магчыма, адказы ў архівах.

# Табакерка: ад салдата — арыстакрату

Невялічкая скрыначка, якая каштуе як аднапакаёўка ў Мінску. Прынц Конці меў каля 800 такіх "цацак", а прускі кароль Фрыдрых Вялікі — амаль паўтары тысячы. "Джэймсы Бонды" XVIII стагоддзя з поспехам выкарыстоўвалі іх для сваіх патрэб. Табакеркі. Розных памераў, фактур, прыналежнасцей. У лонданскім Музеі Вікторыі і Альберта (www.vam.ac.uk) знаходзіцца багатая калекцыя табакерак XVII — XVIII стст. — эпохі павышанай прагі да аздаблення асабістай прасторы. Да 4 лістапада ў наведвальнікаў нясвіжскага Палацавага ансамбля (www.niasvizh.by) ёсць магчымасць убачыць частку з гэтага збору на ўласныя вочы.

**Анастасія ПАДДУБСКАЯ**

Першымі ў XVII стагоддзі табакеркі выкарыстоўвалі салдаты і маракі. І калі спачатку галоўнай якасцю была надзейнасць — не даць тытуню сапсавацца ад вільгаці, — то пазней табакеркі набываюць іншыя функцыі. Сацыяльны статус табакеркі імкліва ўздымаецца. На працягу ўсяго XVIII стагоддзя маленькая скрыначка карыстаецца попытам сярод асоб вышэйшага свету. Не толькі грубыя салдацкія рукі трымаюць цяпер табакерку, але і тонкія, арыстакратычна бледныя пальцы найвысакароднейшых еўрапейцаў.

Тытунь у XVIII стагоддзі нюхалі ўсе — старыя і маладыя, імператары і гандляры, кавалеры і дамы, нават зусім юныя дзяўчаты скардзіліся пад уціскам тыранкі-моды. Вышэйзгаданыя лічбы адносна колькасці табакерак у знатных асоб звязаны ў першую чаргу з тым, што скрыначка для тытуню становіцца неад'емнай часткай любога ўбору і падбіраецца індывідуальна згодна з агульнай стылістыкай адзення. Дарэчы, існавалі не толькі партатыўныя табакеркі. Ёмістасці для тытуню змяшчалі нават у падлакотніках фатэляў.




*Аматары тытуню.*

Чалавечая фантазія не мае межаў. Дзякуючы гэтаму табакерка пачынае выконваць не ўласцівыя сваёй прыродзе задачы. Такія, як, напрыклад, сакрэтная пошта. Для гэтага карысталіся скрынкамі з некалькімі аддзяленнямі: адно з іх можна было прапанаваць прыўкраснай даме, а другое — яе законнаму кавалеру.

Табакеркі начыняліся разнастайнымі "сакрэтамі": падзорныя трубы, механічныя салаўі-свістулькі, люстэркі. Пры дапамозе падзорнай трубы можна было незаўважна назіраць за кім-небудзь. Какетлівая, таямнічая атмасфера баляў і іншых не менш вясёлых сустрэч дапускала падобныя свавольствы.

Модныя маленькія скрыначкі, безумоўна, былі жаданым падарункам. У экспазіцыі выстаўкі "Каралеўскія скарбы: еўрапейскія шэдэўры 1600 — 1800", што знаходзіцца ў Нясвіжы, — чатыры цудоўныя табакеркі. Дзве з іх належаць тэматычнай секцыі "Каралеўскае заступніцтва". І сапраўды, у тыя часы меншыя табакеркі, аздобленыя каштоўнымі камянямі альбо выявай уплывовай асобы, лічыліся часам афіцыйнымі дзяржаўнымі ўзнагародамі. Пры расійскім двары табакерку звычайна ўручалі дыпламатам на развітальнай аўдыенцыі — гэта было своеасаблівае пажаданне шчаслівай дарогі.

Для вырабу табакерак выкарыстоўваліся розныя матэрыялы: фарфор, золата і каштоўныя камяні, алюміній (у той час ён каштаваў больш за золата) і сталь, чарапахавы панцыр і акулавая скура (галюша).



*Табакерка Фрыдрыха Вялікага.*

Самай шыкоўнай табакеркай, што прыехала ў Нясвіж з Лондана, лічыцца скрынка для тытуню з цэльнага кавалка хрызапраза — разнавіднасці кварцу светла-зялёнага колеру. Вырабленая ў Берліне каля 1765 года, яна належала прускаму каралю Фрыдрыху Вялікаму. Манарх быў такім заўзятым прыхільнікам снафу — нюхацельнага тытуню, што наладзіў вытворчасць табакерак у Берліне і напрыканцы жыцця меў найбагацейшую калекцыю гэтых аксесуараў. Табакерка аздоблена кветкамі з дыяментаў. Дарэчы, маючы наступныя параметры: вышыня 5 см, шырыня 7,8 см і даўжыня 10 см, гэтая табакерка лічыцца вялікай.



Спынімся на хвілінку, каб дадаць, што фонды Музея Вікторыі і Альберта актыўна фарміруюцца яшчэ не вельмі звыклым для нашага разумення спосабам. Многія каштоўныя экспанаты трапляюць з асабістых калекцый на дэпазіт. На дэпазіце знаходзіцца і ўнікальная калекцыя табакерак XVII — XVIII стст. Разалінды і Артура Гілбертаў, якая налічвае дзве сотні прадметаў мастацтва. Акрамя табакеркі Фрыдрыха Вялікага з гэтага збору ў Нясвіжы экспануюцца яшчэ дзве цікавосткі.

Залатая табакерка з партрэтам караля Англіі, Шатландыі і Уэльса Карла І датуецца 1670 — 1685 гадамі. Гэтая скрынка для снафу з'яўляецца адной з нешматлікіх рэчаў, што былі выраблены раялістамі ў гонар пакаранага караля пасля ўзнаўлення манархіі ў 1600 годзе.

Вытанчанасцю вылучаецца і трэцяя скрыначка з калекцыі Гілбертаў. Асноўныя матэрыялы, папулярныя для берлінскай вытворчасці, — гэта эмаліраваная медзь і гравіраваная пазалота на метале. Лічылася, што эмаліраваныя паверхні найбольш гігіенічныя. На табакерцы знаходзяцца мапы, якія адлюстроўваюць асноўныя кірункі Сямігадовай вайны. Магчыма, яна была задумана як частка палітычнай прапаганды саюзных сіл Прусіі, Ганновера і Саксоніі па святкаванні поспехаў іх вайсковай кампаніі ў 1757 г.

На працягу XVIII стагоддзя табакеркі былі на вышэйшай кропцы сваёй папулярнасці. Іх золата і дыяменты ўспыхвалі ў руках уладных людзей. Але, як усялякая мода, век табакеркі нядоўгі. Напрыканцы стагоддзя змяніўся крой адзення — з моды выйшлі кішэні, а разам з імі зніклі з ужытку і табакеркі, пакінуўшы па сабе бліскучую спадчыну.

**Газета "Літаратура і мастацтва" — інфармацыйны партнёр акцыі "Нясвіж — культурная сталіца Беларусі"**

# Дзяржаўны вектар

**Таццяна ШАБЛЫКА**

Вераснёўскі нумар часопіса "Беларуская думка" вельмі багаты і разнастайны па тэматыцы. Але найперш варта вызначыць дзве публікацыі, якія прысвечаны важным падзеям эканамічнага і палітычнага жыцця краіны. Пад назвай "Праца, стараннасць, ініцыятыва" друкуецца справаздача з нарады ў Прэзідэнта Беларусі, на якой абмяркоўваліся папярэднія вынікі работы эканомікі краіны ў 2012 годзе і прагнозныя бюджэтна-фінансавыя дакументы на год будучы. Іншая надзвычай актуальная публікацыя пад красамоўнай назвай "Выбары — гэта не толькі тэхналогіі" пабудавана па прынцыпе "круглага стала". Яго ўдзельнікі абмяркоўваюць тыя новаўвядзенні, якімі адрознівалася нядаўняя выбарчая кампанія ў беларускі Парламент. Прадстаўнікі кіруючага саставу палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў, айчынных СМІ шчыра, і часам вельмі крытычна, адказваюць на прапанаваныя рэдакцыяй пытанні пра ход выбараў, правядзенне тэледэбатаў і магчымасці пераходу Беларусі ў будучым ад мажарытарнай да прапарцыянальнай ці змешанай выбарчай сістэмы.

Артыкул Сяргея Галоўкі "справядлівасць — вышэй за ўсё" расказвае пра дзейнасць Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь — адзінага ў нашай краіне органа папярэдняга расследавання, які быў утвораны указам Прэзідэнта год таму. Аўтар распавядае пра тыя змены, якія адбыліся ў беларускай прававой сістэме пасля стварэння новага ведамства, акцэнтуе ўвагу на службовых паўнамоцтвах яго супрацоўнікаў. У артыкуле таксама распавядаецца пра крымінальныя справы, якія атрымалі шырокі рэзананс у грамадстве — ужо раскрытых Следчым камітэтам і якія знаходзяцца ў дадзены момант у аператыўнай вытворчасці.

Да ліку актуальных, безумоўна, адносяцца публікацыі раздзела "Саюзны вектар". У першым пад назвай "Шляхі гарманізацыі адукацыйнай прасторы" пытанне абмяркоўваюць эксперты з Беларусі і Расіі. Яны выказваюць сваё меркаванне, як выпрацаваць алгарытм узаемадзеяння па падрыхтоўцы будучых спецыялістаў для эканомік нашых краін у рамках Саюзнай дзяржавы. Прадстаўнікі вузаўскай школы адзначаюць, што Беларусь і Расія, вобразна кажучы, выхадцы з аднаго шыняля — агульнай адукацыйнай прасторы Савецкага Саюза, толькі з часам разышліся, укараняючы свае комплексы рэформаў. Аднак, на іх думку, сёння, калі нашы краіны аб'ядноўвае курс на мадэрнізацыю і тэхналагічнае развіццё, варта імкнуцца да безбар'ернай інтэграцыі ў галіне адукацыі.

"Новы погляд на старыя культуры" — так называецца артыкул, прысвечаны пытанням рэалізацыі праграмы Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі "Інавацыйнае развіццё вытворчасці бульбы і тапінамбура на 2012 — 2015 гады". Аўтар распавядае, якім чынам інавацыйныя распрацоўкі ў рамках праграмы дазволяць паправіць справы ў арыгінальным насенняводстве, вылучыць каштоўныя гатункі на перадавыя пазіцыі і адстаяць рынак насеннай бульбы і тапінамбура абедзвюх краін, разгарнуць маштабную вытворчасць прадуктаў здаровага харчавання, альтэрнатыўнага паліва і высакаякасных кармоў.

Рэдакцыя не абмінула ўвагай такую важную падзею, як 100-гадовы юбілей з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма Танка. Аўтар Ала Нікіпорчык даследуе адну з найбольш яркіх тэм у яго творчасці — тэму Радзімы. Асноўным лейтматывам матэрыялу з'яўляецца сцвярджэнне, што менавіта шчырая любоў і вернасць Радзіме абумовілі тыя высокія духоўныя крытэрыі,




якімі кіраваўся М. Танк у сваім жыцці і творчасці.

У нумары друкуецца і даволі палемічны артыкул на гістарычную тэму "Вайна за тэрміны". Яго аўтар, кандыдат гістарычных навук Аляксандр Гронскі даследуе праблему ўжывання тэрмінаў "Айчынная" і "партызаны" ў дачыненні да вайны 1812 г. У артыкуле паказана эвалюцыя ідэалагічнай трактоўкі тых падзей на працягу 200 гадоў. Асаблівая ўвага нададзена адносінам да вайны ў сучасным беларускім грамадстве.

# Бязлітасная любоў андрагінаў

У серыі "Бібліятэка сучаснай беларускай фантастыкі і прыгодніцкай прозы", заснаванай у 2009 годзе, выдадзена больш як два дзясяткі кніг. Безумоўна, мяне цікавіць, пра што і як пішуць калегі. З задавальненнем чытаю кнігі серыі і хачу падзяліцца ўражаннямі пра дзве з іх: "Клуб города N" Уладзіміра Кулічэнкі і "Дзікія кошкі Барсума" Генадзя Аўласенкі.

**Зінаіда ДУДЗЮК**

Кніга Уладзіміра Кулічэнкі "Клуб города N" прывабіла мяне з першага позірку на вокладку. На ёй намалявана вялікая гіпсавая маска з даволі прыемнымі рысамі, а маленькі (у параўнанні з ёю) чалавек, стоячы на лесвіцы, ліхтарыкам высвечвае пустату цёмных вачніц.

Сюжэт твора цікавы, незвычайны. Малады неўрапатолаг Павел, расчараваны службай у вайсковым шпіталі, хоча пачаць новае цывільнае жыццё, каб выканаць прызначэнне, дадзенае яму вышэйшымі сіламі. З гэтаю мэтаю ён прыязджае ў правінцыйны гарадок, дзе ўсе жыхары ведаюць адно аднаго, але і там, за высокімі платамі і зачыненымі аканіцамі, існуе загадкавае жыццё, якое часам раздражнее, часам палохае. Майстэрства пісьменніка дазваляе яму буйнымі мазкамі ствараць атмасферу быцця. Напрыклад, горад N паказваецца так: "…грязь, облезлые собаки, кудахтанье кур за штакетником, наводящие скуку губернские собрания, слободские кулачные бои, оркестрион полупьяных музыкантов, бренчавших в городском саду погожими вечерами, и старая тоскливая скрипка, солировавшая для одиноких сердец".

На новым месцы жыхарства з першых хвілін сустракае нашага героя шэраг расчараванняў, быццам працяг тых, ранейшых, ад якіх ён хацеў схавацца. Аднак глумачэнне няўдачам ён спрабуе адшукаць не ў вонкавых падзеях, а ва ўласнай душы.

Намагаючыся зразумець сябе, Павел аналізуе свае стасункі з іншымі людзьмі з ранняга юнацтва і адзначае: "Уже в ту пору красота и страсть к упоению жизнью представлялись роковыми, гибельными, ежели им довериться без остатка, но и не отдаваться им было невозможно — вот откуда проистекает моя ущербная раздвоенность, нервозность и раздражительность. Моя юность была отравлена сердечным разладом, в одну минуту я был и не я, всегда как бы заступал за нечто — заступал со страхом, не веря в возвращение…"

З першага знаёмства з героем мы бачым маладога чалавека са стомленаю душою, кволага, які занадта яскрава разумее бязлітасную праўду чалавечага жыцця: "Человек стремится к бессмертию, а умирает от закупорки мельчайшего, с волос, сосуда. Мы наделены лишь даром агонизировать, иезуитскими хирургическими приёмами

> *"Доктар-неўрапатолаг, які з юнацтва быў пакліканы ратаваць людзей, пераплаўляе сваю душу і лепіць з яе нешта процілеглае і страшнае. Міласэрнасць і пачуццё спагады змяняюцца знявагай і пагардай да слабых, хворых і пакалечаных. Урэшце ён даходзіць да краю...*

продлевая агонию. Нет спасения ни в слабости, ни в готовности принять новые несчастья от этого мира, ни в наивно извечном поиске человеческими сердцами радости".

У самотнасці чалавек заўсёды шукае падтрымкі ў блізкіх, калі не па крыві, дык па духу, людзей. Павел адчувае, што вышэйшымі сіламі на яго асобу ўскладзена нейкая місія, толькі не можа зразумець, чаго чакае ад яго свет. І ў гэтай глухмені знаходзяцца правадыры, гатовыя павесці яго ў таемную, цудоўную невядомасць.

Новыя знаёмыя Паўла прадстаўляюцца сябрамі клуба хворых на кантрактуру і просяць у яго, спецыяліста па гэтай хваробе, дапамогі. Кантрактура — нерухомасць, застыласць, якую пераўважваюць не толькі хворыя людзі, але горад N і ўсё грамадства. Пакуль Павел думае, як вылечыць іх целы, клубная суполка спрабуе завалодаць яго душой і пераконвае, што ведае шлях да вечнага




чалавечага жыцця і шчасця. Маўляў, чалавек — гэта толькі згустак энергіі, якая жыве вечна. Шлях чалавека — шлях андрагіна, які спускаецца з іншага свету і шукае на Зямлі сваю палову.

Павел не можа адразу паверыць і ўспрыняць гэтую ідэю, у яго ўвесь час узнікае пытанне: што гэта за людзі, куды яго вядуць? Пазбягаючы адзіноты, ён збліжаецца з тутэйшай дзяўчынай Юліяй, калегам па працы Сумскім, газетчыкам Трубнікавым, трапляе пад іх уплыў — і паступова адбываюцца змены ў яго свядомасці: "Я начал чувствовать, что в моей жизни, доселе в сущности малоценной и бессмысленной, появилась смутная потребность существования".

Аўтар настойліва і ўважліва прасочвае змены ў душы героя, які блукае ў пошуку сябе самога ў гэтым загадкавым і незразумелым свеце і ніяк не можа вызначыцца: хто ён, для чаго жыве. І нарэшце з'яўляюцца праблескі новых адчуванняў і веры: "Я различал лица, будто в пелене, и вдруг резанула внезапная, точно взмах клинка, догадка — я становлюсь нечеловеком! Я давно находил себя лишним среди людей, но только теперь я ощутил всеми фибрами души дыхание иного мира. Вероятно, он был враждебен мне, но разве менее враждебным являлся и тот мир, в котором я ныне пребывал?"

Гэта было ўжо неаднойчы ў гісторыі чалавецтва, калі новыя ідэі авалодвалі галовамі і душамі людзей. Ім пачынала здавацца, што яны ледзь не зраўняліся з багамі, дасягнулі вышыні чалавечага духу і могуць валодаць цэлым светам. Адзін з месіянераў клуба пераконвае Паўла: "Поскольку душа лежит вне всяких энергетических потоков, её природа нам необъяснима, сия ноша чрезмерна для её обладателя, посему человек должен избавиться от неё <…> Однако всякому на этом пути надлежит пройти через боль, а истинное освобождение настаёт лишь тогда, когда андрогин находит свою половину на Земле, и уже вместе слившись воедино, они подымаются в бессмертие".

Прачытваючы гэты тэкст, міжволі згадваеш, колькі ў гісторыі чалавецтва было ўжо ідэолагаў, якія, абяцаючы шчасце ў будучым, кідалі ў пекла пакут тысячы чалавечых жыццяў, калі стараліся перарабіць, змяніць чалавечую сутнасць і прыводзілі цэлыя народы да пакут і вынішчэння. Ды і ў звычайным нашым будзённым жыцці людзі ў калектывах і сем'ях не могуць суіснаваць на роўных, а ўвесь час паглынаюць адно аднаго ў імкненні завалодаць душою, падпарадкаваць сабе.

Мастацтва жыцця і любові да свету невымерна глыбокае і складанае. Як адзначаў вядомы філосаф Эрых Фром, чалавек не абавязкова можа быць злосным, ён становіцца такім толькі тады, калі адсутнічаюць адпаведныя ўмовы для яго росту і развіцця. Зло не мае незалежнага існавання само па сабе, яно ёсць адсутнасць дабра, вынік няўдачы ў рэалізацыі жыцця.

Доктар-неўрапатолаг, які з юнацтва быў пакліканы ратаваць людзей, пераплаўляе сваю душу і лепіць з яе нешта процілеглае і страшнае. Міласэрнасць і пачуццё спагады змяняюцца знявагай і пагардай да слабых, хворых і пакалечаных. Урэшце ён даходзіць да краю, становіцца забойцам, сам здзіўляецца гэтай падзеі, верыць і не верыць.




Павел адчувае сябе ўладаром, узнесеным над нікчэмнымі людзьмі. Акрылены разбэшчаным духам, ён думае, што займеў правы караць і забіваць іншых. І страшэнна палохаецца гэтай магчымасці. Узнікае жаданне знішчыць сябе самога, бо разумее, што яго ранейшага ўжо няма, а нейкая чужая і злая сіла кіруе ім, але і на гэта не здатны. Ён спрабуе зноў схавацца, з'ехаць ад гэтай жудаснай рэчаіснасці, якая ўвасобілася, на яго думку, не толькі ў мярзотных жыхарах горада, але і ў каханай дзяўчыне.

Сапраўднае майстэрства пісьменніка заключаецца ва ўменні разгледзець заганы і хібы грамадства, прааналізаваць і праз мастацкі твор паказаць іх, няхай у фантастычным сюжэце, перабольшваючы і згушчаючы фарбы. На маю думку, Уладзімір Кулічэнка зрабіў гэта бліскуча.

Процілеглую задачу паставіў перад сабою Генадзь Аўласенка ў рамане "Дзікія кошкі Барсума", калі паказаў, як праз спагаду, любоў і каханне ачалавечваюцца самыя дзікія звярыныя інстынкты, знішчаюцца нянавісць і зло, людскімі душамі пераадольваецца парог несправядлівасці і заведзенага спрадвеку заганнага парадку. На фермерскай

> *"Гэта было ўжо неаднойчы ў гісторыі чалавецтва, калі новыя ідэі авалодвалі галовамі і душамі людзей. Ім пачынала здавацца, што яны ледзь не зраўняліся з багамі, дасягнулі вышыні чалавечага духу і могуць валодаць цэлым светам.*

планеце Аграполіс існуе не проста жорсткі патрыярхат, там жанчын успрымаюць толькі ў якасці рабынь. Яны павінны штодня паслухмяна выконваць абавязкі, ускладзеныя на іх гаспадарамі-фермерамі. Работніцы ў большасці пастаўляюцца Фірмай, якая перакупляе іх у касмічных піратаў. Пры гэтым памяць паланянак і свядомасць апрацоўваюцца так, што яны па сутнасці ператвараюцца ў бязвольных і паслухмяных свойскіх жывёл з жаночым аблічам, якія не помняць свайго ранейшага жыцця і нічога не ведаюць пра сябе. У выпадку непаслушэнства мужчына можа бязлітасна пакараць або нават забіць рабыню.

Але здараецца непрадбачанае: адна з жанчын у выніку моцнага стрэсу раптам згадвае сябе мінулую, у яе душы прачынаецца жаночая сутнасць і чалавечая годнасць. "Гэта было штосьці неверагоднае: фермер думаў зараз не аб тым, як пакараць непаслухмяную жонку — ён шукаў спосаб абараніцца ад яе новага нападу! Без усялякіх нават намаганняў шпульнула яна яго праз увесь пакой… шпульнула адной толькі рукой… Але як жа яна магла такое зрабіць?!"

Гэтая рабыня аказалася з таямнічай планеты Барсум, дзе кіруюць жанчыны, якія называюць сябе дзікімі кошкамі. З маленства выхаванню дзяўчынак там надаецца вялікая ўвага. Яны гадуюцца і фізічна развіваюцца так, каб ні ў чым не саступаць мужчынам, а наадварот, пераўзыходзяць іх, надзеленых большай сілай ад прыроды. Хлопчыкі тут нараджаюцца рэдка. Іх з'яўленне на свет — калі не ганьба, дык вялікае няшчасце для кожнай "дзікай кошкі". Лёс гэтых дзяцей быў незайздросны, іх адпраўлялі на іншую планету, дзе аддавалі на выхаванне чужым людзям. Маці ніколі не ведалі, як гадуюцца іх сыны. Далёка не кожнай удавалася вытрываць такое выпрабаванне. Ад гэтага свет жаночай планеты рабіўся яшчэ больш жорсткім і непрытульным.

У рамане сутыкаюцца два светапогляды: мужчынскі і жаночы. І ў гэтай барацьбе не на жыццё, а на смерць перамагаюць каханне, любоў, чалавечнасць. Твор насычаны імклівымі падзеямі, неверагоднымі фантастычнымі з'явамі, чытаецца лёгка і з захапленнем.

У фантастычных кнігах Уладзіміра Кулічэнкі і Генадзя Аўласенкі змешчаны і іншыя цікавыя творы, якія патрабуюць больш грунтоўнага і шырокага разгляду. Мне ж захацелася падзяліцца першымі ўражаннямі з надзеяю, што не толькі чытачы, але і крытыкі знойдуць для сябе нешта адметнае ў гэтых творах і змогуць прафесійна і дасведчана распавесці пра тое, што існуе беларуская фантастыка, самабытная і разнастайная.

# Нюансы фантастыкі




Алена МІКУС

Магічнае фэнтэзі і касмічная сага ў творчасці аднаго аўтара і пад адной вокладкай. Малаверагодна, скажаце вы? Хутчэй, беспройгрышна для першага выдання з серыі "Калекцыя беларускай фантастыкі". Кніга "Сад Замкнёных Гор" Сержа Мінскевіча сканцэнтравана дэманструе патэнцыял гэтага жанру ў беларускай літаратуры. А маштабы фантастыкі абуджаюць цікавасць, жаданне чытаць і натхняцца на чаканне чарговай кнігі.

Як гэта стала магчымым? Калі нехта скажа, што ўся таямніца ў творчай індывідуальнасці пісьменніка, то не памыліцца. С. Мінскевіч віртуозна валодае і шчыра цікавіцца рознымі літаратурнымі жанрамі, а дзіцячая частка яго пісьменніцкага "Я" проста фантаніруе прыдумкамі. Лёгка атрымліваецца ў яго сумяшчаць жанры, паджанры, віды і нават тое, што да славеснай творчасці мае ўскоснае дачыненне. Напрыклад, з'явілася думка структураваць літаратурны тэкст па прынцыпе камп'ютарнай гульні. Так узнік раман "Сад Замкнёных Гор" — квазі-фэнтэзі, у якім ёсць элементы аркады і квеста. Іншымі словамі, тэкст зроблены як камп'ютарная гульня-"хадзілка", у якой герой трапляе ў прыгоды, збірае сілу і пераходзіць на іншы ўзровень.

Несур'ёзна? Выглядае так, калі з'есці толькі першы слой гэтага пірага. Літаратурны гурман мае шанцы дабрацца да тонкіх нюансаў: тэкст напоўнены алюзіямі на біблейскія сюжэты, філасафічнасцю, прыпавесційнасцю. Сад Замкнёных Гор — гэта рай, Даляшорзах і Сэйна ў ім — біблейскія Адам і Ева. Ёсць нават міфалагічны яблык, надзелены чароўнай сілай: калі яго з'есці, адбудзецца тое, на што ён закадзіраваны.

Асобнае месца ў тэксце займае канцэпт шляху. Звяртае на сябе ўвагу яго шматслойнасць, у якой С. Мінскевіч ідзе ад простага да складанага. Гэта і прамы вобраз — шлях-падарожжа. І архетып, які інтэрпрэтуецца як лёс-наканаванасць ("Мой Шлях не адпускае мяне"). І пошук усеагульнай гармоніі, дасканаласці ў межах філасофіі быцця (папулярны з часоў М. Багдановіча "шлях да зор").

Раман "Сад Замкнёных Гор" — квазі-фэнтэзі. У ім актыўна выкарыстоўваюцца міфалагічныя вобразы і артэфакты. Героі блукаюць па патаемных лёхах, чаруюць, вымаўляючы спіральныя замовы, карыстаюцца разнастайнымі абярэгамі і г. д. Аматары фэнтэзі будуць задаволеныя наяўнасцю неабходнага жанравага антуражу. Акрамя таго, чытач адчуе смак казачна-ілюзійнай сувязі з продкамі, архаікай.

Тэкст "Забаўкі для малодшых" цікавы тым, што з'яўляецца сюжэтным працягам рамана "Сад Замкнёных Гор", зробленым, аднак, у іншым жанры — касмічнага фэнтэзі. Тэкст утрымлівае элементы фэнтэзі, прысутнічае магія, напрыклад, дзэйхатон выконвае функцыю, аналагічную той, што мае чарадзейная палачка; кіберпанка: навуковая фантастыка транслюе ідэю манструознасці сінтэзаванага свету і асобы; класічнага прыгодніцкага рамана: выкарыстоўваецца апрабаваная літаратурная формула, згодна з якой прадстаўнік больш высокай цывілізацыі трапляе ў першабытнае асяроддзе дзікуноў, у якім знаходзіць шмат прыгод; баявой фантастыкі: у фінале твора вядуцца зоркавыя войны. Па выніках маем працяг першага рамана і разам з тым новы тэкст, які сінтэзаваў многія формульныя жанры.

Фрайценбрагт Ін-Йорм — сын Даляшорзаха з першага рамана, канцлер планеты Сад Замкнёных Гор — вязе дадому падарунак імператара дзэйхатон — сінтэзатар ідэі, пры дапамозе якога яго бацька збіраецца ажывіць Шэрую пустэльню. На сваім шляху ён трапляе ў шматлікія прыгоды. Часам яны дробныя і камічныя — як прымусовае прабуджэнне на ўласнай касмічнай яхце, калі Хмарка вылівае ваду проста на соннага героя. На працягу і ў фінальнай частцы тэксту — больш глабальныя: палон у першабытным племені, змаганне з алігатарам, падарожжа ў Пустэльню Нябачнай смерці, сустрэча са Старым Д'яблам. І гэта яшчэ не ўвесь пералік авантурных сітуацый, у якія С. Мінскевіч змяшчае свайго героя. Займальнасць — якраз тое, чаго ў рамане дастаткова.

Ці ёсць падтэкст? І як суадносіцца ён з першай часткай дылогіі? Ключ з адказам на гэтыя пытанні змешчаны ў анатацыі да кнігі. У ёй "Сад Замкнёных Гор" прэзентуецца як тэкст, у якім супрацьпастаўлены асоба і закрытая прастора, абмежаванне ў жаданнях і дзеяннях. А раман "Забаўкі для малодшых" ставіць у апазіцыю абсалютна супрацьлеглыя катэгорыі — асобу і бязмежжа — і, наадварот, дэкларуе неабмежаванасць у жаданнях і дзеяннях. Такім чынам, С. Мінскевіч прапануе чытачу параўнаць дзве мадэлі, задумацца над плюсамі і мінусамі кожнай з іх і, магчыма, зрабіць высновы. Ён нібы кідае нажыўку. Ці будзе яна з'едзена і пераварана, залежыць ад волі і магчымасцей самога чытача.

Аповесць "Гіперновы Рабінзон" дакладна адпавядае сваёй назве. Ступень адыходжання ад класічнага сюжэта сапраўды можна абазначыць прыстаўкай "гіпер-". Напачатку тэкст хутчэй нагадвае экзістэнцыйную гісторыю накшталт кінасагі "Куб": чалавек, пастаўлены ў звышэкстрэмальныя і ненатуральныя ўмовы існавання, шукае спосаб выжыць. Пры гэтым ён мае справу не з прыроднымі стыхіямі, дзе ўсё хаця і складана, аднак зразумела, а з "існай, якая недзе побач". Пасля гісторыя выжывання асобы заканчваецца. Гэта адбываецца роўна тады, калі С. Мінскевіч пераходзіць да сваёй улюбёнай тэмы — пра матэрыяльнасць думкі (яна займае адметнае месца і ў "Садзе Замкнёных Гор"). Герой тэксту ненаўмысна забівае істот з іншай планеты праз нядобрыя выявы свойго жахлівага сну. Гэтым жа ён парушае і тэлепатычную сістэму кіравання касмічным караблём. Вяртанне дадому становіцца немагчымым. Працяг фізічнага існавання на караблі выключаны: адсутнічаюць рэсурсы. Так аўтар стварае яркую сітуацыю, якая акцэнтуе цэнтральны філасофскі пасыл — неабходнасць мысліць чыста, без уласцівай чалавеку нянавісці і злосці. Ідэалістычную канцэпцыю тэксту, аднак, ураўнаважвае аб'ектыўнасць ва ўспрыманні чалавека, які цягам стагоддзяў так і не здолеў пазбавіцца сваёй цемры.

Апавяданне "Трайная пастка" цікавае прыпавесційнасцю. Яго героі знаходзяць незямную цывілізацыю, ідэнтычную нашай. Аднак чаканага хэпі-энду з нагоды навуковага прарыву не прадбачыцца. Насельнікі планеты Меска, якія будуюць ідэальную дзяржаву, абвінавачваюць касмічных падарожнікаў у шпіянажы і, нягледзячы на праўдзівасць аргументацыі, прыгаворваюць іх да вышэйшай меры пакарання. Сітуацыя выглядае відавочна абсурднай: пад лозунгам дасягнення Усеагульнай Дасканаласці асуджаным даецца адмысловы статус ахвяр, які прызнае праўдзівасць доказаў на судзе і паралельную немагчымасць юрыдычнага абгрунтавання іх дзеянняў як ненаўмысных. Для такіх выпадкаў у Рэспубліцы маецца свая сістэма ўшанавання — гравіраванне імёнаў ахвяр на залатой стэле барацьбы за Усеагульную Дасканаласць. Па выніках жа выходзіць, што дасягненне эфемерных ідэй і ў перспектыве касмічнай будучыні абапіраецца на абсалютна рэальныя чалавечыя смерці.

Апавяданне "Падарожжа праз…" таксама мае двухслойную арганізацыю. Сюжэтна гэта гісторыя геніяльнага чалавека, які зрабіў сваё захапленне — мадэліраванне гісторыі — жыццём. Седзячы за персанальным камп'ютарам ва ўласным касмічным караблі "Фенікс", Харытон Харынгтан стварае варыянт справядлівай гісторыі (знішчае тыранію, змрок сярэднявечча, развівае матэматыку); гуляе ў яе з радасцю хлопчыка, якому падарылі набор салдацікаў. І толькі пазней пачынае асэнсоўваць немагчымасць нешта змяніць у рэальнасці. Адбываецца гэта на тле адчування ўласнай самотнасці, якую паглыбляюць віртуальныя жонка, кот, сабака, ілюзорныя сад, горы, вадаспад… Таму ён едзе ў экспедыцыю, знаходзіць галерэю, што дазваляе перамяшчацца ў часе, і становіцца яе Ахоўнікам. Другі слой апавядання — гэта фантастычная версія міфалагічнага сюжэта пра Харона. С. Мінскевіч і гэтым разам інавацыйна перарабляе міф. У спалучэнні амаль што галівудскай гісторыі пра амерыканскую мару і міфалагічнага кантэксту выяўляецца віртуозная майстэрства дэканструкцыі.

Фантастычныя раманы, аповесці і апавяданні кнігі арганічна працуюць на фарміраванне ўяўлення пра малаверагоднасць глабальных змен. Звонку яны ўражваюць: касмічныя караблі маюць тэлепатычнае кіраванне, чалавек здольны пранікаць у іншы час і ствараць паралельную гісторыю, планеты населеныя штучнымі чалавекападобнымі істотамі і г. д. Аднак начынне застаецца такім жа, як і стагоддзі таму: імкненне да неабмежаванай улады, стварэнне ідэальнай будучыні на ахвярах сучаснасці, зводкі, злосць, нянавісць. Гэта не пераадолець вонкавым навукова-тэхнічным прагрэсам. Толькі тым, што ідзе з глыбіні, душы чалавека, — думкай, словам, філасофіяй, каханнем.

Падобныя ўзаемадачыненні тэксту і падтэксту робяць кнігу "Сад Замкнёных Гор" лабірынтам, падарожжа па якім стане цікавым і бясклапотнаму мажору, і ўдумліваму сучасніку.

# Чалавек у стыні часу

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)**

Пакаленне І. Пташнікава, падаецца, было больш пэўным, больш верыла ў сябе, магчыма, таму, што ім было складаней праігнараваць выклікі сучаснасці, магчыма, справа ў іншым выхаванні і, адпаведна, менталітэце, а можа, і тое і другое разам. Усе балючыя, вярэдлівыя тэмы, раскрытыя ў творчасці пісьменніка, былі яго сучаснасцю, тым, пра што ён не мог не пісаць. Так, напрыклад, С. Андраюк цытуе рукапісны накід І. Пташнікава: "Трагедыю Дальвы 1944 года я сам перажыў, і яна стаяла ў мяне ў памяці да самых апошніх дзён, калі я пісаў аповесць, яна не дае мне супакоіцца і цяпер і не дасць, відаць, вечна". Гаворка тут пра ўжо названую намі аповесць "Тартак", твор, які ў роўнай ступені дае ўяўленне і пра маральны імператыў аўтара, і пра асаблівасць стылю, почырк. А почырк яго адметны і пазнавальны. І. Пташнікаў не з тых пісьменнікаў, хто, захоплены эксперыментам, кідаецца ад аднаго напрамку да другога. Не, ён строга прытрымліваецца сваёй лініі, выпрацаваўшы і абраны ім стыль толькі распрацоўваецца, удасканальваецца ад твора да твора. Пазнаёміўшыся з дастаткова вялікім корпусам тэкстаў, чытач ужо стане пазнаваць інтанацыю, улюбёныя прыёмы. Але гэтая густая, класічная, у добрым сэнсе традыцыйная проза не набівае аскоміну. Падаецца, яна разлічаная не на халодны аналіз па азнаямленні, а на жывое пачуццё, што ўзнікае непасрэдна пры прачытанні і не адпускае пасля.

У творах І. Пташнікава філасофскія развагі, сентэнцыі сустракаюцца толькі зрэдку, у выглядзе выключэння. Яму не патрэбныя ніякія дадатковыя падказкі для чытача, бо ўсё, што хацеў сказаць, ён выказвае, укладвае ў тэкст, падрабязны, дэталізаваны. За гэтую падрабязнасць аўтара, здаралася, папракалі крытыкі. Сярод іх былі і дастаткова аўтарытэтныя, напрыклад, Віктар Каваленка: "Праўда, часам усё ж здаецца, што ёсць у І. Пташнікава выдаткі празмернай дэталізацыі ў яго творчай манеры". Аднак ён жа і апраўдвае аўтара, знаходзіць адпаведнае тлумачэнне: "Але мы дамовіліся судзіць пісьменніка па законах яго ўласнай творчасці. Мусіць жа, на нешта трэба яму сказаць так, а не інакш. Магчыма, калінебудзь стане зразумела, прасвяціцца з іншых радкоў аўтара, які сэнс схаваны ў гэтай, такой падрабязнай дэталі.

Можна выказаць толькі меркаванне, што гэтая падрабязная дэталізацыя хутчэй за ўсё звязана з асаблівым псіхічным станам чалавека на вайне ў час небяспекі. Менавіта ў страшнай сітуацыі, калі адусюль пагражае смерць, памяць неяк міжвольна фіксуе ўвагу на нязначным і дробязным. Гэта нібы псіхічная самаабарона чалавека…"

Цяжка не пагадзіцца. Сапраўды, дэталь І. Пташнікава "працуе". Па-першае, дзякуючы ёй дасягаецца поўнае суперажыванне чытача герою. Пташнікаў не напіша "яму было балюча" ці "яна была стомленая", ён выпіша, *як* менавіта балюча, *як* стомленая, і зробіць гэта настолькі выразна, што "карцінка" перад вачыма ажыве і ў чытача не застанецца шанцаў на "не веру". Па-другое, такі прыём насамрэч апраўданы з пункту гледжання псіхалогіі герояў. Так, сямёра вяскоўцаў (аповесць "Тартак") увесь час правальваюцца ў мроі-сненні. Прычынай гэтаму і слабасць, стомленасць, і падсвядомае імкненне падманунца, перанесціся ў іншую, мірную ці хаця б прытульнейшую, рэчаіснасць. Ва ўмовах пастаяннай небяспекі, стрэлаў, выбухаў узнікаюць у памяці карціны хатняй утульнасці, мроіцца цяпло, магчымасць аддыхацца, сагрэцца. Той побыт, што калісьці быў натуральным і звыклым, становіцца цяпер жаданым і далёкім, выяўна, аб'ёмна згадваюцца яго атрыбуты: праца на зямлі, дом, песні, арэлі. Яны ўзбуйняюцца, становяцца сімвалічнымі, як Алёшавы арэлі — увасабленне скрадзенага дзяцінства. Ля арэляў Вандзя, як пра нешта будзённае, між іншым, прамаўляе: "Я знаю, што паліцаі і мяне заб'юць, калі зловяць, а я не баюся…", па-старэчы пытаецца: "А бульбы табе не шкода? Аж чатыры гранкі здратавалі праз качэлі…" І яна ж, праз хвіліну забыўшыся на ўсё, зноўку становіцца дзіцём: "— А я ўсё роўна пакалышуся… — сказала — і адразу як падмяніў яе хто. Ускочыла на лавачку, схапіўшыся рукамі за палкі, і крыкнула на ўвесь гарод, Алёша аж спужаўся:

— А ты падбі мяне!.. Пакуль адна раскалышу-уся…"

Дакладнасць, аб'ёмнасць у аповесці дасягаецца яшчэ і тым, што адна і тая ж сітуацыя можа падавацца з розных ракурсаў, вачыма розных людзей.

Пішучы пра сучаснасць, многія аўтары трапляюць у пастку: засяроджваюцца на знешняй атрыбутыцы, якая можа састарэць раней, чым выйдзе кніга. І. Пташнікаў у сілу свайго таленту пазбегнуў гэтай небяспекі, ён адчуваў само паветра свайго часу, ідэі, праблемы. Яго "маленькі" чалавек перарастае прапанаваныя яму межы. І калі аўтараў, што пісалі пра "сацыяльна значнае", прыгадаць цяпер будзе нялёгка, то апавяданні "Танцы", "Французжанкі", "Тры пуды жыта", "Львы", як і многія іншыя творы І. Пташнікава, па-ранейшаму гучаць магутна, сёння яны сталі ўжо хрэстаматыйнымі. Трэба спадзявацца, што хрэстаматыйнасць чытач не ўспрыме як пыльную забранзавеласць і такі пераадолее інерцыю злашчаснай абоймы.



Павел САКОВІЧ

## Бацькоўскі дом

*Прашу я ўсіх дачок, сыноў:*
*Хай будуць цяжкасці любыя,*
*Не прадавайце дом бацькоў —*
*Вас не ўратуюць грошы тыя.*

*Яны дабра не прынясуць,*
*Ніколі не дадуць спакою,*
*Агнём вам рукі апякуць,*
*Нібы праказаю якою.*

*Не прадавайце родны дом,*
*Бо тут раслі вы ў шчасці, згодзе.*
*Бацькоў успомніце дабром —*
*Іх след не сцёрся на парозе.*

*І вашых продкаў горды дух*
*Прыжыўся назаўсёды ў хаце.*
*Яшчэ агеньчык не патух,*
*Што запаліла ў печы маці.*

*Начамі ля ікон святых,*
*Перад далёкаю дарогай,*
*Ціхуткі голас цешыў слых —*
*За вас маліла мама Бога.*

*Не прадавайце дом бацькоў,*
*Бо без яго не пражывеце.*
*Ён будзе сніцца зноў і зноў,*
*Пакуль вы ёсць на гэтым свеце.*

*Вы да яго яшчэ не раз*
*З павіннай будзеце з'яўляцца.*
*Пацягне, як злачынцу, вас*
*У здрадзе некалі прызнацца.*

*Ён вам пад восеньскім дажджом*
*Навее цёплыя ўспаміны…*
*Ды не адчыніць дзверы дом,*
*Хоць і змахне ад вас цішком*
*З вачэй-акон сваіх слязіну.*

## Сны пра вайну

*Хто навучыў лятаць у снах,*
*Разбегу хуткаму і ўзлёту?*
*Мне добра помніцца той страх,*
*Які прымусіў стаць "пілотам".*

*Калі ад "фрыцаў" я ўцякаў*
*І бегчы не было ўжо сілы,*
*То ўшыркі рукі развінаў,*
*Як маладзенькі бусел — крылы.*

*І падымаўся да аблок,*
*На родны край глядзеў з тугою…*
*"Дык гэта ж ты расцеш, сынок", —*
*Казала маці са слязою.*

*Я ў голадзе і страху рос*
*Сярод чужынцаў тых праклятых.*
*Ці можа ў іх турме падрос?*
*(Быў на сястру маю данос,*
*І ўсіх нас кінулі за краты).*

*У тую страшную пару*
*Я ў снах заходзіўся ад енку,*
*Як каты мучылі сястру,*
*А бацьку ставілі да сценкі.*

*Мяне ж нібы хто ратаваў —*
*Будзіў яшчэ да стрэлу немца…*
*Сам Бог ці лёс аберагаў:*
*Мажліва, ад разрыву сэрца.*

*І прачынаўся я ў слязах*
*За цёплай бацькавай спіною….*
*Ў тых снах валодаў мною страх,*
*Бо сны народжаны вайною.*

*Нарэшце зніклі з маіх сноў*
*Вайна, праклятый "фрыц" той самы.*
*Я ўсіх святых маліць гатоў,*
*Каб хоць у сны вярнулі зноў*
*Сястрычку Волю, бацьку, маму…*

## Ляўкі

*З той кручы,*
*што на беразе Дняпра,*
*Дастаць рукою*
*можна да нябёсаў.*
*Яна — бы пастамент*
*для песняра,*
*Да помніка яму,*
*што на адкосе.*

*Глядзеў Купала*
*з гэтай круцізны,*
*Дзе ўсё было*
*так блізка і знаёма:*
*Ў палях аршанскія*
*квітнелі льны,*
*Ляцелі ў вырай*
*сокалы-сыны*
*Са стратэгічнага*
*аэрадрома.*

*А ўнізе хвалі,*
*звіліны ракі*
*На сонцы ззялі*
*ціхай бліскавіцай…*
*Яму сам лёс*
*наканаваў Ляўкі,*
*Прывёў сюды,*
*падалей ад сталіцы.*

*Каб мог пясняр*
*тут адпачыць душой*
*Пасля ўсяго,*
*што перажыў нядаўна.*
*Дзяліўся шчодра*
*дабрынёй сваёй*
*З ім люд сялянскі*
*працавіты, слаўны.*

*І ўсё ж паэт*
*не абмінуў бяды:*
*Нібы хто пхнуў яго*
*з гатэльнай "кручы".*
*Пад тою кручай*
*не было вады,*
*Дняпроўскай хвалі,*
*пругкай і гаючай….*

*Ды з ласкі божай*
*блізка ад Ляўкоў*
*Яго працяг*
*і змена падрастала:*
*Валодзя Караткевіч,*
*Сіпакоў —*
*Нашчадкі духу, таленту Купалы.*

*Шануюць шчыра*
*землякоў Ляўкі*
*І карагоды*
*водзяць на Купалле…*
*Так будзе пэўна*
*доўжыцца вякі:*
*Жывуць Ляўкі, а ў іх —*
*жыве Купала!*



*Фота Кастуся Дробава*



Алесь ДУБРОЎСКІ-САРОЧАНКАЎ

## Апакаліпсіс

**1**

*І вогненны сэнс,*
*і бяссэнсіцы холад магільны —*
*мы ведаем смак усяго.*
*Мы бачылі цемру*
*і ў сонца ўгледаліся пільна —*
*ды ў розуме шэрасці тло.*

*Нянавісць прайшлі*
*і кахання навуку спазналі,*
*а ў сэрцах — нудота адна.*
*І хутка гучацьмуць*
*апошнія ноты ў фінале:*
*на скронях Зямлі — сівізна.*

*Старэе Сусвет,*
*толькі мы ў ім — заўсёдныя дзеці.*
*Ды гульні стамілі і нас.*
*Мы бегчы прывыклі,*
*бы ў нейкай дурной эстафеце,*
*і нават сябе, быццам профіль*
*на пыльным партрэце,*
*ніколі не бачылі ў фас.*

**2**

*І ўстане ўсё перад Суддзёй Вялікім,*
*і ўрэшце запануе цішыня,*
*бо Ён чытацьме Свой прысуд не крыкам —*
*маўчанне — вось Яго прысуд штодня.*

*І ён гучыць, хоць мы не заўважаем:*
*адбыўся апакаліптычны скон.*
*Не плача свет ад страху ці ад жалю —*
*маўчыць ён, і маўчанне як праклён.*

*І неба моўчкі свеціць Шляхам Млечным,*
*трава збірае ў прыгаршчы расу…*
*І ўсё стаіць перад Суддзёй Адвечным,*
*і Ён чытае вечны свой прысуд.*

**3**

*Чалавек чалавеку не брат —*
*чалавек чалавеку вар'ят.*

*Тут не голас — паветра трымценне.*
*Тут не вочы — шкляное каменне.*
*Тут не твар, а бяздушны мур.*
*Чалавек чалавеку абсурд.*

*І тры словы — прывычным здзекам:*
*чалавек чалавеку пекла.*

**4**

І я зірнуў, і вось, конь бледны,
і на ім вершнік, якому
імя смерць; і пекла ішло за ім следам…
**Адкрыццё Яна Багаслова 6:8**

*Замкнёныя розум і дзверы,*
*маўчаць і душа, і планета.*
*Так лёгка ў асобнай кватэры*
*сустрэць канец свету.*

*Так шпарка нясуцца вершнікі*
*па вулках асобнай душы.*
*Ты ці яны будуць першымі?*
*Спяшайся, бяжы!*

*Так страшна вачыма цвярозымі*
*сустрэцца са смерцю…*
*Калі няма Бога ў розуме —*
*не будзе і ў сэрцы.*

**5**

*Цемра можа быць спалена*
*толькі ў агні святла.*
*Вось чаму ў неба глядзяць*
*вочы кожнай з дарог.*
*Вось чаму гэты свет —*
*толькі аскепак шкла,*
*што люстэркам было,*
*у якое глядзеўся Бог.*

*Вось чаму на пытанне*
*толькі адзін адказ.*
*Вось чаму падстаўляць*
*трэба другую шчаку.*
*Цемра можа быць спалена…*
*Паўтарай гэта кожны раз,*
*калі ў неба глядзецьмеш*
*на цёмным зямным шляху.*



Людміла ПАКУЛЕНКА

## Пралеска

*Хто бачыў, як цвіце пралеска*
*У час, напоўнены вясной,*
*Усцешна кліча на прылесках,*
*Як вабіць юнай даўніной?*

*Зялёна-чыстая лістота*
*І аксаміту перазвон*
*Суцішаць прыкрую самоту*
*І думкі пра надрыўны скон.*

*Пазней уздымуцца рамонкі —*
*Над імі будуць уздыхаць*
*Натанькі, Волечкі, Алёнкі:*
*"Сустрэць, забыцца, пакахаць?"*

*А перад ліпеньскім пракосам*
*Лугі між красак замігцяць,*
*Усцешацца кароткім лёсам,*
*Як час накажа адцвітаць…*

*На снежна-роспачнай далоні*
*Пасн уць і кветкі, і лісты,*
*Пакуль пралесак у палоне*
*Не клічуць веснія масты…*

## Скруха

*Як мне вымаліць крылы*
*На парозе канца,*
*Каб ляцець што ёсць сілы*
*У абдымкі Айца?*

*Чым мой боль супакоіць*
*І адвесці бяду?*
*З кім на ціхую споведзь*
*Дабягу-дабрыду?*

*Хто спатоліць мой голад*
*Па хвілінах цяпла,*
*Каб забыцца на холад,*
*Дагарэўшы датла?*

***

*Да цябе прыбягу на спатканне,*
*Захлынаючыся ў пяшчоце.*
*Хай праменіць маё каханне,*
*Служыць радасці і нягодзе.*

*Пакахаеш і ты аднойчы.*
*Я цябе не аддам нікому.*
*Хай салоўкі за намі сочаць,*
*Хай іх спеў адганяе стому…*

*Да цябе прыбягу на спатканне,*
*Захлынаючыся ў пяшчоце.*
*Дай мне, лёс, не дажыць да рання,*
*Да тужліва-зямнога: "Годзе…"*

***

*Наша добрая бярозка,*
*Плачаш сокам напрадвесні.*
*За табой світае вёска,*
*Ціха льюцца яе песні.*

*Сок цячэ слязою чыстай,*
*І гракі, як суцяшэнне,*
*Пераклічкай-перасвістам*
*Затрымаюць бег імгненняў.*

*Хутка ля цябе, як зоркі,*
*Кветкі сцішана збяруцца…*
*Сок цячэ імкліва-гонкі,*
*Слёзы адраджэння льюцца…*

**Пераклад з рускай**
**Тацяны Выскваркі**

## Вячаслаў Ар-Сяргі:

# «Дзеці — самыя ўдзячныя чытачы...»

Народнага пісьменніка Удмурціі Вячаслава Ар-Сяргі добра ведаюць чытачы беларускай літаратурна-мастацкай перыёдыкі. Ён выступаў з вершамі ў “Полымі”, “Всемирной литературе”. Пра Вячаслава расказвалі “Літаратура і мастацтва”, часопіс “Маладосць”, расійска-беларуская газета “Саюз”. Удмурцкі творца працуе і ў галіне дзіцячай літаратуры. Сёння сваімі развагамі пра тое, наколькі складана ўздымаць у мастацтве новыя тэмы для юнага чытача, Вячаслаў Ар-Сяргі дзеліцца з чытачамі “Кніжнага свету”.



Кастусь ЛАДУЦЬКА

**— Вячаслаў, з вышыні жыццёвага, творчага вопыту, як ты ўсё ж такі лічыш: для дзяцей пісаць цяжэй ці лягчэй, чым для дарослых?**

— Для мяне асабіста факт адназначны: добры твор, незалежна ад таго, каму ён адрасуецца, дарослым ці дзецям, — занятак аднолькава працаёмкі. Я не праводжу падзел твораў паводле аўдыторыі іх успрымання ці, наадварот, неўспрымання. Некаторыя дзіцячыя аўтары сцвярджаюць: дзеці — самыя ўдзячныя чытачы з іх здольнасцю хуткага рэагавання, праяўлення эмоцый у адказ на знаёмства з вершам ці апавяданнем. Можа быць. Але такая рэакцыя яшчэ не з’яўляецца сведчаннем таго, што твор адбыўся, здзейсніўся.

**— Калі ўсе гавораць пра тое, што сучасныя дзеці сталі менш чытаць, неўпрыкмет задумваешся, а ці ёсць будучыня ў дзіцячай літаратуры?**

— Будучыня ёсць ва ўсяго стваральнага. Проста будуць змяняцца формы абстрагавання. Да слова, і камп’ютарная прадукцыя для дзяцей — першапачаткова аўтарская. Нехта прыдумвае тэксты, нехта вызначае іх мастацкую відовішчнасць, візуальныя каштоўнасці і г. д. Успомніце, ці ўсе мы чыталі на ноч дзецям казкі? На жаль… А нехта і чытаў! І іх дзеці таксама будуць чытаць сваім дзецям казкі. І старыя, і новыя, не забудуцца і пра Верна, і пра Дэфо, і пра Перо, пра Чырвоную Шапачку… Не знікнуць ні беларускія, ні ўдмурцкія народныя казкі… Хіба яны ў значнай ступені не прысутнічаюць сёння ў камп’ютарнай прасторы? На дысках, на ўмовах доўгатэрміновага захоўвання… Нават пры першаснай адсутнасці друкаванага тэксту на паперы само Слова сваіх пазіцый у блізкай будучыні, упэўнены, не страціць.

**— Пісьменнікі сёння шукаюць самыя розныя навацыі. Імкнуцца дадаць да тэксту як мага больш ілюстрацыйнага цяжару. Вельмі шмат з’яўляецца кніг-малюнкаў. У Швецыі, напрыклад, цэлая індустрыя ў дзіцячым кнігавыданні занятая гэтым. А ці не падаецца табе, што дзіцячыя паэты і празаікі занадта спяшаюцца, стараючыся такім чынам аблегчыць чытацкую працу хлопчыкаў і дзяўчынак?**

— Я не спяшаўся б з адназначнымі высновамі. Тут важна ўлічваць розны плён, розныя памкненні. Калі рэч атрымліваецца запатрабавальна-гуманістычнай, то чаму б і не выкарыстоўваць самыя розныя формы стварэння якаснай прадукцыі. Цэнзарам якасці застаюцца толькі пачуццё меры, густ. Асабіста я — “за” ўсе формы творчых падыходаў да наладжвання літаратурных дыялогаў з падрастаючым пакаленнем. Толькі б — на карысць.

**— Як ты ставішся да пытанняў даверлівасці, тайных размоў паміж пісьменнікам-дарослым і чытачом-падлеткам? Ці магчыма такое?**

— Чаму б і не… Дыялог заўсёды карысны. І пісьменніку-даросламу, і чытачу-падлетку. Але ён будзе пустым, калі не будзе гучаць высокая нотка ўзаемнага даверу. А яе трэба заслужыць.

**— Вячаслаў, хто твае самыя любімыя персанажы з дзіцячых кніг?**

— Безумоўна, знакавы персанаж многіх удмурцкіх фальклорных і літаратурных твораў — Лапшо Педунь, родзіч усходняга Ходжы Насрэддзіна. Гэткі філосаф-перасмешнік, які зброяй смеху, сатыры ачышчае людскія душы і ў нашы захопніцкія, ваяўнічыя часы, калі большасць людзей заклапочана выключна пытаннем уласнага дабрабыту. Лапшо Педунь, які прыйшоў з глыбінь мінулых стагоддзяў, — бедны, але мудры, жыве паўнакроўным жыццём у гармоніі з прыродай і чалавечым сумленнем. На пытанне багацея: “Чаму ты такі бедны, калі такі разумны?”, ён парыруе дастойна: “А чаму ты такі дурны, калі такі багаты?” Кожнаму, відаць, сваё… Мне ж асабіста жыццёвы аптымізм Лапшы Педуня імпануе больш, чым душэўная беднасць сучасных нуворышаў… А яшчэ адна з маіх самых любімых кніг — “Прыгоды Рабінзона Круза”. У ёй хапае ежы для розуму — і дзіцячага, і дарослага.

**— Калі ты перастаў чытаць кнігі, адрасаваныя дзецям?**

— Я ніколі не пераставаў і не перастаю чытаць кнігі, адрасаваныя дзецям. Вельмі радуюся, калі знаходжу ў іх сапраўдную, пазаўзроставую літаратуру.

**— Ведаю, што ў цябе ёсць дзіцячая кніга “Ястребёнок”… Ці будзе ў яе працяг?**

— Так, у свой час я выдаў кнігу дзіцячых апавяданняў “Ястребёнок”. Навошта ёй працяг? Няхай яна лётае ў сваіх аблоках, у яе ёсць уласнае жыццё. А сваё дзяцінства я нядаўна ўспамінаў у аповесці “Хлопчык і Палкан”.

**— Удмурцкі народ багаты на казкі, паданні, легенды. Ці заўсёды яны зразумелыя сучасным удмурцкім дзецям?**

— Сённяшнія ўдмурцкія школьнікі, мяркую, мала чым адрозніваюцца ад сваіх равеснікаў з іншых краін. На жаль, яны менш гуляюць у футбол і хакей, чытаюць без ахвоты, ды і то па мінімуме школьнай праграмы, і без таго данельга сціснутай. Але многія ўдмурцкія дзеці нядрэнна ведаюць свайго Лапшо Педуня. Ён стаў для іх нейкага роду камп’ютарным усепераможным героем — бах! Бах! Бах! Выключна мясцовым феноменам. Ну што ж, я думаю, што і гэта нядрэнна. Ёсць нейкі народнадухоўны грунт пад нагамі… А аўтарскіх дзіцячых кніг ва Удмурціі выдаецца зусім мізэр. Чаму? Не ведаю. Калі б яны былі патрэбныя, скажам, выхавальнікам, настаўнікам, бацькам, то выдаваліся б масава. Значыць, хм…

**— Дзякуй, Вячаслаў, за гутарку. Будзем жыць спадзяваннем, што і для ўдмурцкай дзіцячай літаратуры прыйдзе час новага адраджэння.**

— І я на гэта спадзяюся.

## У падтрымку чытання



*Сяргей БАБЧУК, палкоўнік, ваенна-медыцынскі факультэт БДМУ:*

### “Любімы аўтар — Эрых Марыя Рэмарк”

— Адной з першых кніг, якія прачытаў гадоў у восем, была “Я, бабушка, Илико и Илларион” Надара Думбадзэ. Перачытваў яе многа разоў. Захапляўся прыгодніцкай літаратурай. Калекцыяніраваў кнігі Аляксандра Дзюма.

Калі бацька служыў у Германіі, нам патрапілі на бабінах запісы Уладзіміра Высоцкага — спачатку гэта былі песні ваеннай тэматыкі. Потым адкрыў для сябе і іншыя творы. Ведаю на памяць амаль усе вершы Высоцкага. Дарэчы, у бацькі найбагацейшая калекцыя гістарычнай літаратуры.

З юнацтва палюбіў творы Рэмарка, галоўнымі тэмамі якіх былі сяброўства і каханне ў складаных умовах — на вайне, пасля вайны. Адкрыў яго ўжо будучы курсантам. Помню, зайшоў у пакой, дзе займаліся самападрыхтоўкай: усе хлопцы сядзяць з кнігамі Рэмарка. У каго “Триумфальная арка”, у каго “Тени в раю”, у каго “Жизнь взаймы”. Потым мяняліся кнігамі, так што бібліятэка доўга чакала іх. Творчасць Рэмарка вельмі моцна паўплывала на мае адносіны да людзей, да першага кахання. І дасюль творы гэтага аўтара са мной — праз шмат гадоў яго тэкст гучыць для мяне зусім па-іншаму. Моладзі прапанаваў бы прачытаць усяго Рэмарка — ніводнага дрэннага твора я ў яго не ведаю.

Вельмі люблю Булгакава: сама фабула рамана “Мастер и Маргарита” ненавязліва прымушае разважаць пра дабро і зло. Сярод любімых таксама апавяданні Шукшына і вершы Еўтушэнкі (перыяд 1960 — 1980-х гадоў).

Не так даўно адкрыў для сябе Людмілу Уліцкую. “Зелёный шатёр” — цудоўны твор, перакрыжаванне лёсаў і часу. Цяпер чытаю “Казус Кукоцкого”.

Асцярожна стаўлюся да новых імёнаў: калі з прачытаных 10 — 12 старонак нічога не закранула, значыць, гэта не мой аўтар.

З задавальненнем чытаю электронныя кнігі. А вось паэзію, канечне, у традыцыйным варыянце.

# Бітва за каханне

Міхась СЛІВА

Галоўныя героі новай гістарычнай аповесці Алеся Марціновіча “Нежность звёздного неба” (“Літаратура і Мастацва”, 2011) — вялікі князь літоўскі і кароль польскі Сігізмунд ІІ Аўгуст і Барбара Радзівіл, прадстаўніца роду славутых беларускіх князёў Радзівілаў, аднаго з самых багатых і ўплывовых родаў у Еўропе. Яны змагаюцца за сваё каханне, за магчымасць жыць разам. Моцнае пачуццё дапамагае пераадолець шматлікія цяжкасці і перашкоды.

Паводле галоўнага героя аповесці, каханне ўзвышае так, як не ўзвышае ні адна карона, ні адно каралеўства. І аўтар з уласцівым яму глыбокім псіхалагізмам здолеў выдатна перадаць высокія пачуцці сваіх герояў, моўнымі сродкамі яскрава намаляваў вобразы знакамітых гістарычных асоб, якія жылі і дзейнічалі на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў XVI стагоддзі.

Пісьменнік выявіў майстэрства дынамічна, захапляльна будаваць сюжэт твора. І чытач гэтай надзвычай цікавай кнігі мае магчымасць акунуцца ў глыбіню вякоў, пазнаёміцца з пэўным перыядам гісторыі нашай Бацькаўшчыны.



100 год кнізе

# Партал у паэтычны Сусвет

Магчымасць пастаянна публікавацца — вялікае шчасце для творцы. Яшчэ большая радасць — калі творы з'яўляюцца на старонках выдання, якое пададаецца асабіста аўтару. "Галоўнае — гэта шанц быць пачутымі са свайго месца, без абмежаванняў, якія накладаюцца папулярнымі часопісамі. Іншымі словамі, калі звычайныя часопісы павінны дагаджаць вялікай аўдыторыі, мала зацікаўленай паэзіяй, гэтае выданне будзе звяртацца і, ёсць спадзяванне, будзе развіваць чытачоў, зацікаўленых у асноўным паэзіяй як мастацтвам, як найвышэйшым, найбольш поўным спосабам выказвання прыгажосці і праўды", — так пісала ў звароце, што рассылаўся паэтам, Гарыета Манро, заснавальніца "маленькага часопіса" Poetry: A Magazine of Verse (Паэзія: Часопіс вершаў). Першы нумар гэтага сапраўды культавага выдання, якое і цяпер лічыцца адным з самых уплывовых паэтычных часопісаў у англамоўных краінах, пабачыў свет 100 год таму ў Чыкага.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Пачатак XX ст. — вельмі плённы перыяд у гісторыі амерыканскай паэзіі. Вялікая культурная хваля мадэрнізму, што паступова ўзнікла ў Еўропе і ЗША, адлюстравала адчуванне сучаснага жыцця ў мастацтве з дапамогай хуткага разрыву з мінулым, а таксама з класічнымі традыцыямі цывілізацыі Захаду, з паэтычнымі канонамі XIX ст. Таму не дзіўна, што "Паэзія: часопіс вершаў" стаў надзвычай уплывовым. Тут друкаваліся свабодныя вершы, імажысцкая і фармалістычная паэзія. Больш за тое, такую вольную мадэрнова-авангардна-элітарную скіраванасць заснавальніца падтрымлівала свядома. Яна пісала: "Палітыка "Адчыненых дзвярэй" будзе асноўнай у часопісе, і вялікі паэт, якога мы шукаем, ніколі не пабачыць гэтыя дзверы зачыненымі цалкам ці напалову перад багаццем яго геніяі! Выдаўцы спадзяюцца завязаць сувязі з прадстаўнікамі ўсіх школ. Яны жадаюць друкаваць самыя лепшыя вершы на англійскай мове, напісаныя сёння, не зважаючы на тое, хто іх напісаў і да якога мастацкага кірунку гэтыя творы належаць. У сваю чаргу часопіс абяцае не абмяжоўвацца вузкім падыходам да адбору вершаў для публікацыі". Трэба адзначыць, свае абяцанні спадарыня Манро цалкам выканала.

Магчыма, менавіта гэтая адкрытасць забяспечыла часопісу доўгае жыццё, стварыла кола пастаянных аўтараў і заўзятых прыхільнікаў. А гісторыя выдання стала атаясамлівацца з гісторыяй развіцця амерыканскай паэзіі ў цэлым. І гэта не дзіўна: на яго старонках штогод друкуецца больш як 300 вершаў, а ў ліку аўтараў-пачынальнікаў — такія зоркі сусветнай літаратуры, як Эзра Паўнд, Уільям Батлер Ейтс, Рабіндранат Тагор, Эмі Лоўэл, Дэвід Лоўрэнс, Рычард Олдынгтан. Менавіта кіруючыся схільнасцямі згаданых аўтараў, зорак свайго пакалення, многія крытыкі ў пачатку існавання "Паэзіі" лічылі часопіс інструментам для распаўсюджвання імажызму і суб'ектывізму.




*Часопіс Poetry: A Magazine of Verse, вокладка першага нумара, 1912 г.*

Натуральна, яны памыляліся.

Каб даказаць гэта, вернемся да самага першага нумара часопіса. Хоць, праглядаючы яго змест і чытаючы творы, апублікаваныя ў гэтым выданні цягам першых дзесяці год існавання, міжволі задумваешся, ці сапраўды можна назваць "Паэзію" часопісам, тым больш "маленькім". Гэта па сутнасці паэтычны зборнік, своеасаблівае "Выбранае", але не аднаго аўтара, а цэлага пакалення творцаў. Разнастайнасць тэм і жанраў таксама ўражвае. Тут і кароткія феміністыцкія вершы, што дзіўна, напісаныя мужчынам, і творы пра амерыканскую ды мексіканскую ідэнтычнасць, і доўгія драматычныя паэмы.

Заўважна і тое, што рэдакцыя часопіса сапраўды звяртала ўвагу на лепшыя творы, напісаныя на англійскай мове. У той час, калі амерыканская паэзія імкнулася пазбавіцца ўплыву еўрапейскай традыцыі, калі адмаўлялася значнасць рамантызму як мастацкага кірунку, у першым нумары "Паэзіі" выходзіць верш… *The Piper* (Дудар) ірландскага творцы Джозэфа Кэмпбэла. Песеннасць, амаль баладныя ўспаміны пра слаўнае мінулае Ірландыі, згадкі пра якое ажываюць у музыцы старога дудара і майстра інструментаў. "*Надзея, што Ірландыя, як ружа, / Заззяе скрозь расповеды пра клятвы; / Прайграныя бітвы, доўгі плач / Па крыві і духу, дарэмна растрачаных…*". І толькі "*…цуд мастацтва / Малюе песню з сэрца / Як вада з нябачнай крыніцы, / Што скача ці вуркоча, плача ці спявае*". Дудар памёр, але яго песня і вобраз усё яшчэ жывуць у памяці лірычнага героя.

Пагадзіцеся, неарамантызм у чыстым выглядзе, больш за тое… блізкі да беларускага. Варта толькі прыгадаць наступныя Купалавы радкі:

*На кургане на адвечным,*
*Пад асінай векавой,*
*Сеў дудар, сагнуўшы плечы,*
*З пасівелай галавой.*

Гэта верш "Дудар" (1910), прысвечаны Вацлаву Ластоўскаму. Тут усё як у Кэмпбэла (ці, наадварот, у ірландскага паэта ўсё як у Купалы) — той жа стары дудар з барадой і тая ж песня, што "*як жывая, пушчаю ляціць*" і "*з забыцця змятае плесню*", і ў ёй зноў жа "*чуваць нечувалае*", што можа "*толькі сэрца беларусава паняць*". Можна шмат разважаць і пра агульнасць гістарычных лёсаў нацый, і пра распаўсюджанне дуды ва ўсіх яе мадыфікацыях у еўрапейскіх краінах, але факт застаецца фактам: купалаўскі неарамантызм блізкі да кэмпбэлаўскага, хай і нетыповага для еўрапейскага і амерыканскага мадэрнізму пачатку XX ст.

Што да "Паэзіі", то часопіс усё яшчэ выдаецца ў Чыкага, хоць і за кошт прыватных унёскаў і грантаў. Час паказаў — палітыка "Адчыненых дзвярэй" працуе. Міхаэль Кругер, паэт і выдавец з Германіі, на заўвагу пра маленькія тыражы і слабую запатрабаванасць паэтычных кніг неяк адказаў: "Калі хаця б трыста чалавек прачытаюць мой верш, я буду шчаслівы". Дык вось тыраж сённяшняй "Паэзіі" складае 30 тысяч асобнікаў. Яшчэ больш людзей чытаюць інтэрнэт-версію выдання (http://www.poetryfoundation.org/poetrymagazine). У суме атрымліваецца не так і мала — цэлы горад аматараў вершавання слова. А калі ўлічыць, што тут друкуецца толькі 300 вершаў на год — са ста тысяч допісаў, якія праходзяць тры ступені адбору ў рэдакцыі, то з'яўляецца ўпэўненасць, што паэзія будзе жыць. А значыць, будзе жыць і "Паэзія".

# У ланцуговай працягласці дзён

**Юрась НЕРАТОК**

Чым больш укліньваешся ў сучасны літаратурны працэс, тым радзей здзіўляешся. Прачытанае ў перыёдыцы і кнігах звыкла ацэньваецца і нават з улікам асабістых дасягненняў аўтара і пэўнай долі камбінацыйнай, тэхнічнай або тэматычнай навізны трапляе ў сваю клетачку ў пэўнай сістэме, выпрацаванай і пацвердзіўшай жыццяздольнасць за гады.

Паэзія як творчы жанр мае шырокі спектр прызначэнняў. І па вялікім рахунку любое метафарычнае, пачуццёвае або зрыфмаванае выказванне можна лічыць паэтычным. І калі падлетак няўклюдна-шаблонна выказвае ўласнае адкрыццё жорсткага свету і безнадзейнасць першага кахання, і калі пенсіянер па-эпігонску збіта іранізуе з падзей жыцця або скардзіцца на хуткаплыннасць часу.

Тым не менш самі творцы любога ўзроўню інтуітыўна адчуваюць розніцу паміж вершамі і паэзіяй, як і ўласнае месца ў віртуальнай паэтычнай іерархіі.

Таму пры магчымасці асабіста азначыць рэалізацыю творчых набыткаў за пэўны перыяд нават прызнаныя паэты часцей указваюць "вершы", "зборнік вершаў", "лірыка", чымсьці "зборнік паэзіі".

Міхась Южык назваў кнігу "Сузор'е вокнаў", што пабачыла свет у выдавецтве "Галіяфы", зборнікам паэзіі. І гэта не з-за амбіцыйнасці, уласцівай творцу, а з дакладнага ведання законаў і магчымасцей паэзіі. Канцэнтрацыя *паэзійнасці* ў зборніку "Сузор'е вокнаў" уражвае. Пры амаль традыцыйным вершаскладанні і звыклай лексіцы паэт надае радкам духоўную моц і кранальную праніклівасць, якіх дасягнуць не ўсім творцам і дадзена.

*Кім мы станем пасля?*
*Не чакайце адказу,*
*без яго лёгка жыць*
*і сыходзіць лягчэй.*
*"Кім мы станем пасля?!" —*
*я гукаю шторазу*
*тым не менш у бязмоўную*
*вусціш начэй.*

Сапраўдная паэзія здараецца пры аголеных нервах і чыстым розуме — стане, у якім адэкватны чалавек вымушаны быць сам-насам з сабой і з вобразам свету, часам адлюстраваным амаль метафізічнай з'явай.

*Бегаў заяц па сцэнцы імкліва,*
*трывожна —*
*чорны заяц на бляклай сцяне.*
*Пазіраў на яго, страх*
*па клетачцы кожнай*
*звонкіх нерваў імчаў да мяне.*

Неардынарныя жыццёвыя праблемы падаравалі Міхаілу Юр'евічу амаль фатаграфічныя адбіткі мінулага, якія ў чалавека са "звычайным" лёсам спісваюцца ў архіў і могуць быць запатрабаваныя толькі ў выпадках адсутнасці волі над свядомасцю — у сне.

*Забываю свой дворык,*
*дзе трава ў дзьмухаўцах,*
*дзе на яблыні спорна*
*падаў снег і не чах.*

*Дзе вясною цявінкі*
*прарасталі на свет,*
*дзе гітараю брынькаў*
*неўгамонны сусед.*

Добра сказаў некалі Леанід Галубовіч: "Паэт — чалавек, якому на пэўны час стала падуладным слова". Менавіта нейкае слоўца ці вобраз робіць вершы паэзіяй.

*Пад снегам паснуць*
*застарэлыя крыўды,*
*каб змыцца вясновай вадой.*
*Пры снезе мякчэй*
*і танчэй краявіды*
*і тварык дзяўчынкі адной.*

Або:

*Вяз, рэдкі госць на вуліцах,*
*голле сваё раскінуў.*
*Стаіць пад дажджамі курыцай*
*гэты лясны асілак.*

І зноў:

*Між дамоў і наўсцяж доўгіх вуліц,*
*набіраючы хуткасць і спрыт,*
*калі людзі ў кватэрах паснулі,*
*завіруха нясецца ў нябыт.*

Мабыць, не варта прыводзіць шмат цытат з кнігі, у якой няма слабых радкоў, а моцныя не вытыркаюцца і не стаяць паасобку. Майстэрства ўкладання зборніка амаль цалкам ляжыць на аўтары, і гэта яшчэ адна грань калі не таленту, дык прафесійнасці пісьменніка.

Усё, што робіць Міхась Южык, пазначана метай дыхтоўнасці. Гэта не дзяжурная пахвала чалавеку, з якім даўно сябрую і якога добра ведаю, а аб'ектыўная ацэнка падыходу да любой творчай справы. Яго нельга назваць чыстым паэтам, празаікам, крытыкам, перакладчыкам: робіць тое, што можа і павінна рабіцца.

Непазбежным падаецца параўнанне "Сузор'я вокнаў" з папярэдняй кнігай "АнтыРЫФМАР", выдадзенай тры гады таму, да якой я сам пісаў прадмову.

Южык — не эпігон, таму нават сам флёр вершаванага асвятлення падзей жыцця і яго асэнсавання адрозніваецца: яўная філасафічнасць, часам — баявітая, "АнтыРЫФМАРА" адцяняецца судакранальнасцю мудрасці і шчымлівай спагады "Сузор'я вокнаў".

Цяпер у "ЖЖ" спадара Міхася, які добра ведаюць творцы-калегі, праскокваюць вершы з пазнакай (ці псеўданімам?)




"Татуся Барадуся". Нешта ж і з гэтага атрымаецца ўрэшце рэшт?

Маючы пэўную ўпартасць у "правільнасці лініі" або ў праве на рызыкоўны эксперымент, Южык заўсёды гатовы да кампрамісу між уласнай самабытнасцю і рэальным светам, у тым ліку — патрабаваннямі сучаснай літаратуры. Бо магчымасць застацца незразумелым не менш небяспечная для творцы, чым перспектыва быць элементарна "прэпарыраваным" і падэталёва прааналізаваным.

А месца кніжцы "Сузор'е вокнаў" Міхася Южыка ў бібліятэцы прадвызначана — унізе злева. Па алфавіце. Фармуляр не дзеліць творцаў па іх узроўні: галоўнае, каб лёгка было знайсці любога.

участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-004963-9 (АСТ). — ISBN 978-5-271-35891-3 (Астрель). — ISBN 978-985-16-0608-1 (Харвест) (в пер.).

### МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І ЮНАЦТВА

**Абгарян, Н.** Манюня, юбилей Ба и прочие треволнения / Наринэ Абгарян; [иллюстрации Елены Станиковой]. — Москва: Астрель; Санкт-Петербург: Астрель-СПб, 2012. — 314 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5100 экз. — ISBN 978-5-271-42-191-4 (Астрель). — ISBN 978-5-9725-2263-7 (Астрель-СПб). — ISBN 978-985-18-1375-5 (Харвест) (в пер.).

**Андерсен, Х. К.** Ах, мой милый Августин: [сказки: для младшего школьного возраста] / Х. К. Андерсен; рисунки А. Кокорина; [перевод с датского А. Ганзен; пересказ с датского А. Максимовой]. — Москва: Астрель, 2011. — 58 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-271-40965-3 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0949-9 (Харвест) (в пер.).

**Астафьев, В. П.** Фотография, на которой меня нет: [для старшего школьного возраста] / Виктор Астафьев; [составители: Т. Ф. Рослик, Т. А. Синькевич]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2012. — 415 с. — 21459 экз. — ISBN 978-985-11-0603-1 (в пер.).

**Бажов, П. П.** Серебряное копытце: сказы: [для младшего и среднего школьного возраста] / Павел Бажов; художник С. Бабюк. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 165 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3500 экз. — ISBN 978-5-17-067708-5 (АСТ). — ISBN 978-5-271-29679-6 (Астрель). — ISBN 978-985-16-8859-9 (Харвест) (в пер.).

**Бажов, П. П.** Серебряное копытце: сказы: [для младшего и среднего школьного возраста] / Павел Бажов; художник С. Бабюк. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 165 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3500 экз. — ISBN 978-5-17-076991-9 (АСТ). — ISBN 978-5-271-41262-2 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1213-0 (Харвест) (в пер.).

**Большая книга любимых сказок**: [для младшего школьного возраста / пересказали для детей М. Тарловский и др.; художник Тони Вульф]. — Москва: АСТ: Астрель, 2011. — 246 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-049955-7 (АСТ). — ISBN 978-5-271-20386-2 (Астрель). — ISBN 978-985-16-5092-3 (Харвест) (в пер.).

**Большая книга русских сказок**: [для младшего школьного возраста]. — Смоленск: Русич, 2012. — 304 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 15000 экз. — ISBN 978-5-8138-0837-1 (Русич). — ISBN 978-985-16-1984-5 (Харвест) (в пер.).

**Владимирский, Л. В.** Буратино в Изумрудном городе: сказочная повесть о новых приключениях Буратино и его друзей: [для младшего школьного возраста] / Леонид Владимирский; рисунки автора. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 133 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-073021-6 (АСТ). — ISBN 978-5-271-35126-6 (Астрель). — ISBN 978-985-16-9881-9 (Харвест) (в пер.).

**Волков, А. М.** Волшебник Изумрудного города: [для младшего школьного возраста] / А. Волков; художник Леонид Владимирский. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 175 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 10000 экз. — ISBN 978-5-17-007414-3 (АСТ). — ISBN 978-5-271-00646-3 (Астрель). — ISBN 978-985-16-4225-6 (Харвест) (в пер.).

**Волков, А. М.** Волшебник Изумрудного города: [сказочная повесть: пособие по внеклассному чтению] / А. Волков; художник Леонид Владимирский. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 159 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-015480-7 (АСТ). — ISBN 978-5-271-04716-9 (Астрель). — ISBN 978-985-16-0830-6 (Харвест) (в пер.).

**Волшебные сказки**: [для дошкольного и младшего школьного возраста / составитель Сергей Кузьмин]; иллюстрации Ирины и Владимира Пустоваловых. — Минск: Книжный Дом, 2012. — 221 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-17-0472-5 (в пер.).

**Все начиналось с колеса**: [стихи: для дошкольного возраста / составитель Р. Данкова; художник А. Артюх]. — Москва: Оникс, 2012. — 46 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-488-02957-6 (Оникс). — ISBN 978-985-16-0940-6 (ошибоч.).

**Все начиналось с колеса**: [стихи: для дошкольного возраста / составитель Р. Данкова ; художник А. Артюх]. — Москва: Оникс, 2012. — 46 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Содержит авторов: Алдонина Р., Белозеров Т., Варденга Г., Волкова Н., Грозовский М., Дядина Г., Мазнин И., Махотин С., Новицкая Г., Орлов В., Орлова А., Сапгир Г., Синявский П., Стариков А., Степанов В., Усачев А. — 4000 экз. — ISBN 978-5-488-02959-0 (Оникс). — ISBN 978-985-18-0939-0 (Харвест) (в пер.).

**Детям о дружбе**: [для младшего и среднего школьного возраста / составитель Старостина Ирина Анатольевна]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2012. — 53 с. — Издано при участии ООО «Спутник Христианина» (Москва). — Содержит авторов: Аким Я., Алексеев С., Барто А., Благинина Е., Бундур О., Гамзатов Р., Гофман Э. Т. А., Драгунский В., монах Варнава, Осеева В., Параскевин А., Пермяк Е., Пляцковский М., Хадасевич-Лисовая Е., Чарская Л., Шим Э. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-490-2.

*Прэзентацыя*

# Цудоўнае і дзіўнае

**У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа адбылася прэзентацыя кнігі “Акадэмік Пётр Прахарэнка” выдавецтва “Чатыры чвэрці”.**

**Ганна ПАЛЯКОВА**

Гэта кніга ўспамінаў і прызнанняў тых, хто добра ведаў Пятра Прахарэнку. Тых, хто яго любіў і паважаў. Людзей, з якімі вучоны працаваў і сябраваў. Прадстаўлены таксама старонкі з дзённіка Пятра Пятровіча, яго лісты, артыкулы, выступленні. Значны ўдзел у выданні гэтай кнігі ўзялі самыя блізкія людзі акадэміка — яго дочкі Марыя і Алена. “Сёння мне хацелася б сказаць пра любоў, — падзялілася Марыя Прахарэнка, — любоў бацькоў, якая нікуды не знікае, нават калі іх ўжо няма побач з намі. У прадмове да гэтай кнігі я невыпадкова напісала, што, прымаючы важнае рашэнне, заўсёды ўнутрана раюся з бацькам. Думаю, як бы ён паступіў на маім месцы. Яго любоў я адчуваю і цяпер”.

Арганізатары прэзентацыі падрыхтавалі фільм пра Пятра Прахарэнку. Пасля прагляду госці ўспаміналі Пятра Пятровіча цёплымі словамі. Узгадалі значныя моманты свайго жыцця, якія былі звязаны з ім. Гаварылі не толькі пра навуковыя дасягненні, але і пра чалавечыя вартасці. Асабліва адзначалі яго дабрыню, зычлівасць, шчырасць. Пётр Прахарэнка быў чалавекам светлым, на пытанне “Як жыццё?” заўсёды адказваў: “Цудоўнае і дзіўнае”. Пра гэта жыццё і распавядзе кніга “Акадэмік Пётр Прахарэнка”.

Пётр Пятровіч любіў навуку і сапраўды жыў ёю. Ён аўтар больш як 200 навуковых прац, у тым ліку 7 манаграфій і 64 вынаходстваў. Да мерапрыемства супрацоўнікамі бібліятэкі была падрыхтавана выстаўка “Жыццё ў навуцы. Памяці вучонага П. П. Прахарэнкі”. У экспазіцыі прадстаўлены навуковыя працы, манаграфіі, артыкулы ў перыёдыцы, тэзісы дакладаў на міжнародных канферэнцыях, а таксама выданні, якія выйшлі пад рэдакцыяй акадэміка.

**Детям о маме** / [составитель Велько Александр Владимирович; художник Л. О. Сидельникова]. — 2-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2012. — 45 с. — Издано при участии ООО «Спутник христианина» (Москва). — Содержит авторов: Баруздин С., Безымянная О., Голявкин В., Коротаев В., Косяков И., Надсон С., Осеева В., Параскевин А., Пермяк Е., Савицкая С., Чарская Л. — Содержит пересказы автора: протоиерей Дьяченко Г. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-474-2.

**Детям о Пасхе Христовой** / [составитель Куцаева Наталия Георгиевна; художник Т. Е. Кудина]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2012. — 60 с. — Издано при участии ООО «Спутник христианина» (Москва). — Содержит авторов: Блок А., Бунин И., Горчакова Е., Ишимова А., К. Р., Куломзина С., Лукашевич К., Львова М., Никифоров-Волгин В., Победоносцев К., Роше К., Чарская Л., Шмелев И. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-473-5.

**Детям о Святой Троице** / [составитель Велько Александр Владимирович; художник Т. Е. Кудина]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2012. — 53 с. : ил. ; 20 см. — Содержит авторов: Андреев Л., протоиерей Архангельский Л., Афанасьев В., Бунин И., Куломзина С., Кумов Р., Липецкий А., Победоносцев К., Пономарев С., митрополит Вениамин (Федченков), священник Флоренский П., Шмелев И. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-484-1.

**Диккенс, Ч.** Дэвид Копперфильд / Чарльз Диккенс; [сокращенный перевод А. Архангельской в обработке Т. Ю. Пинталь; подготовка иллюстраций: А. П. Копай-Гора, Н. И. Петров, А. Н. Самусевич]. — Москва: Астрель, 2012. — 79 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-40700-0 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1160-7 (Харвест) (в пер.).

**ДиТерлицци, Т.** Спайдервик. Хроники: полная версия / Тони ДиТерлицци, Холли Блэк; [перевод с английского Т. Белоновской, Е. Кушнаревой, И. Павловой; художники: Питер Браун и др.]. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 580 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Художники также: Гарни Д., Гримли Г., Густафсон С., Дзуг М., Дэвис Э., Кросочка Д. Д., Ли Йень Фам, Лонг Л., Маккарти П., Сантат Д., Уайт Э., Уиллемс М., Фишер С. М., Хаг М., Эринг Т. Б., Яккарино Д. — 5100 экз. — ISBN 978-5-17-074189-2 (АСТ). — ISBN 978-5-271-35568-4 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0363-3 (Харвест) (в пер.).

**Как волк теленочку мамой был**: [для чтения родителями детям / М. Липскеров]; художники: И. Кострина [и др.]. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 58 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Содержит авторов: Карганова Е., Хитрук Ф., Цыферов Г. — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-014621-5 (АСТ). — ISBN 978-5-271-04578-3 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1199-7 (Харвест) (в пер.).

**Линдгрен, А.** Малыш и Карлсон, который живет на крыше: сказочные повести: [для младшего школьного возраста] / Астрид Линдгрен; [перевод со шведского Л. Лунгиной; художник А. Савченко]. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 439 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1500 экз. — ISBN 978-5-17-050078-9 (АСТ). — ISBN 978-5-271-19988-2 (Астрель). — ISBN 978-985-16-4780-0 (Харвест) (в пер.).

**Липскеров, М. Ф.** Самый маленький гном: [сказка-мультфильм: для дошкольного возраста / М. Липскеров]. — Москва: Астрель, 2012. — 45 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 10000 экз. — ISBN 978-5-271-41891-4 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1263-5 (Харвест) (в пер.).

**Лучшие сказки для маленьких принцесс**: [для дошкольного возраста / в пересказе Е. Каргановой и др.]; художник: Тони Вульф. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 28 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-07-5485-4 (АСТ). — ISBN 978-985-16-7643-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0297-1 (Харвест) (в пер.).

**Малышам про все на свете**: [стихи: для дошкольного возраста / составитель Р. Данкова; художники: А. Артюх и др.]. — Москва: Оникс, 2012. — 190 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Содержит авторов: Барто А., Берестов В., Викторов В., Высотская О., Грозовский М., Кушак Ю., Левин В., Мошковская Э., Новицкая Г., Орлов В., Пивоварова И., Приходько В., Садовский М., Синявский П., Степанов В., Токмакова И., Трутнева Е., Уланова Л., Усачев А., Шибаев А., Яснов М. — 10000 экз. — ISBN 978-5-488-03055-8 (Оникс). — ISBN 978-985-18-0792-1 (Харвест) (в пер.).

**Маршак, С. Я.** Сказки / С. Маршак; художники М. Бондаренко, А Чурсин. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 62 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 10000 экз. — ISBN 978-5-17-071018-8 (АСТ). — ISBN 978-5-271-32044-6 (Астрель). — ISBN 978-985-16-9190-2 (Харвест) (в пер.).

**Маршак, С. Я.** Сказки: [сказки, рассказы, стихи: для чтения взрослыми детям] / С. Маршак; художники: М. Бондаренко и А. Чурсин. — Москва: АСТ: Астрель, 2011. — 60 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-011640-9 (АСТ). — ISBN 978-5-271-03312-4 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0945-1 (Харвест) (в пер.).

**Милн, А. А.** Винни-Пух и день забот: [для дошкольного возраста] / сказку А. Милна рассказал Борис Заходер; [авторы сценария: Борис Заходер, Федор Хитрук; художники: Владимир Зуйков, Эдуард Назаров]. — Москва: Астрель, 2012. — 42 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-271-43141-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1321-2 (Харвест) (в пер.).

**Милн, А. А.** Винни-Пух и день забот: [для дошкольного возраста] / сказку А. Милна рассказал Борис Заходер; [авторы сценария: Борис Заходер, Федор Хитрук; художники: Владимир Зуйков, Эдуард Назаров]. — Москва: Астрель, 2012. — 42 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-271-43209-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1320-5 (Харвест) (в пер.).

**Милн, А. А.** Винни-Пух идет в гости: [для дошкольного возраста] / сказку А. Милна рассказал Борис Заходер; [авторы сценария: Борис Заходер, Федор Хитрук; художники: Владимир Зуйков, Эдуард Назаров]. — Москва: Астрель, 2012. — 43 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-271-43140-1 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1324-3 (Харвест) (в пер.).

**Милн, А. А.** Винни-Пух идет в гости: [для дошкольного возраста] / сказку А. Милна рассказал Борис Заходер; [авторы сценария: Борис Заходер, Федор Хитрук; художники: Владимир Зуйков, Эдуард Назаров]. — Москва: Астрель, 2012. — 43 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-271-43-208-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1323-6 (Харвест) (в пер.).

**Михалков, С. В.** Дядя Степа – милиционер: [(из поэмы «Дядя Степа»): для дошкольного возраста] / Сергей Михалков; рисунки Ю. Коровина. — Москва: Астрель, 2011. — 30 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-271-42118-1 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1351-9 (Харвест) (в пер.).

**Остер, Г. Б.** Котенок по имени Гав: сказочные истории: [для дошкольного возраста] / Григорий Остер ; художники: Г. Алимов [и др.]. — Москва: Астрель, 2012. — 59 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-271-42-459-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1202-4 (Харвест) (в пер.).

**Перро, Ш.** Кот в сапогах: самые любимые сказки: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Шарль Перро; художники Виктор Чайчук и Александр Ткачук; [составление и обработка Сергея Кузьмина]. — Минск: Книжный Дом, 2012. — 62 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-17-0450-3 (в пер.).

**Перро, Ш.** Кот в сапогах: [сказка: для младшего школьного возраста] / Шарль Перро; перевод с французского В. Берестова; рисунки А. Кокорина. — Москва: Астрель, 2011. — 31 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-271-40070-4 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0786-0 (Харвест) (в пер.).

**Перро, Ш.** Кот в сапогах: [сказка: для младшего школьного возраста] / Шарль Перро; перевод с французского В. Берестова; рисунки А. Кокорина. — Москва: Астрель, 2011. — 33 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-271-40071-1 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1128-7 (Харвест).

**Перро, Ш.** Кот в сапогах: [сказка: для младшего школьного возраста] / Шарль Перро; перевод с французского В. Берестова; рисунки А. Кокорина. — Москва: Астрель, 2011. — 33 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 10000 экз. — ISBN 978-5-271-41444-2 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1127-0 (Харвест) (в пер.).

**Сказки детям о зверятах**: [для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина]; иллюстрации Ирины и Владимира Пустоваловых. — Минск: Книжный Дом, 2012. — 223 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-17-0473-2 (в пер.).

**Сказки о животных**: [для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина]; иллюстрации Ирины и Владимира Пустоваловых. — Минск: Книжный Дом, 2012. — 223 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-17-0471-8 (в пер.).

**Сказки о чудесных волшебниках** / [составление, обработка и пересказ: Сергей Кузьмин]; иллюстрации Ирины и Владимира Пустоваловых. — Минск: Книжный Дом, 2012. — 221 с. — Содержит авторов: Андерсен Х. К., братья Гримм, Перро Ш., Уайльд О. — Содержит переводчиков: Ганзен А., Ликиардопуло М., Полевой П. — 3050 экз. — ISBN 978-985-17-0474-9 (в пер.).




## “Кніжны салон”, г. Мінск

### Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Зміцер Сасноўскі. Гісторыя беларускай музычнай культуры XIX — XX стст. — Мінск: Харвест, 2012.

*У 2010 г. убачыла свет кніга “Гісторыя беларускай музычнай культуры: Ад старажытнасці да канца XVIII ст.”, гэта — другая частка даследавання З. Сасноўскага. Некаторыя тэмы ўпершыню ўздымаюцца ў беларускай музычнай літаратуры, а многія крыніцы ўпершыню ўведзены ў навуковы ўжытак.*

2. Першая беларуская гаспадарча-кулінарная энцыклапедыя: Літоўская гаспадыня. — Мінск: Беларусь, 2012.
3. Дзяніс Лісейчыкаў. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх земляў 1720 — 1839 гг. — Мінск: Медысонт, 2011.
4. Васіль Быкаў. Гарадзенскі архіў: Невядомыя творы (1957 — 1972). Незавершанае. — Гародня — Wroclaw, 2012.
5. Наталья Батракова. Миг бесконечности. — Минск: Регистр, 2012.
6. Оксана Котович, Янка Крук. Золотые правила народной культуры. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2012.
7. Минск. Старый и новый. — Минск: Харвест, 2010.
8. Алесь Бадак. Насякомыя. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011.
9. Витовт Чаропко. Великие князья Великого Княжества Литовского. — Минск: Беларусь, 2012.
10. Леанід Дайнека. Назаві сына Канстанцінам. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010.

### Кнігі расійскіх выдавецтваў

1. Пола Маклейн. Парижская жена. — Москва: АСТ; Астрель, 2012.
2. Екатерина Вильмонт. Девочка с перчиками. — Москва: Астрель; АСТ, 2012.
3. Габриэль Гарсиа Маркес. Любовь во время чумы. — Москва: АСТ; Астрель, 2012.
4. Пауло Коэльо. Мактуб. — Москва: АСТ; Астрель, 2012.
5. Дмитрий Правдин. Записки из арабской тюрьмы. — Москва: Астрель, 2012.
6. Терри Гудкайнд. Закон девяток. — Москва: АСТ; Астрель, 2012.
7. Алан Бредли. Сорняк, обвивший сумку палача. — Москва: АСТ; Астрель, 2011.
8. Полина Дашкова. Золотой песок. — Москва: Астрель: АСТ, 2011.
9. Людмила Петрушевская. Котёнок Господа Бога: Рождественские истории. — Москва: Астрель, 2012.
10. Николай Носов. Большая книга Незнайки. — Москва: Махаон, 2011.

ДОРОГИЕ ЧИТАТЕЛИ!
Если вы хотите продать книгу из вашей домашней библиотеки или купить нужное вам издание, приложение "Кніжны свет" — к вашим услугам.
Заполните купон для бесплатного частного объявления о продаже или желании покупки книг, печатных периодических изданий.
ПРИМЕЧАНИЕ: *объявления принимаются только при наличии вырезанного купона, а не его ксерокопии.*

Штрыхі жыцця

# «Адно радзімым словам жыў…»



*Іраклій Андронікаў і Алесь Есакоў (злева) падчас экскурсіі ў Літаратурным музеі Янкі Купалы. 1971 г.*

Алесь Есакоў, які амаль паўтара дзесяцігоддзя (з 1960 па 1974 год) займаў пасаду вучонага сакратара Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, нарадзіўся пры канцы 1911 года ў Кастрамской воласці Расіі. Голад выгнаў іх з маці з берагоў Волгі, і ў 20-х гадах яны апынуліся ў Беларусі. У Мінску хлопчык трапіў у дзіцячы дом. І менавіта там першы раз сустрэў Уладзіславу Луцэвіч — жонку Янкі Купалы. Як супрацоўнік Наркамасветы яна наведвала школы, дзіцячыя дамы, садкі.

**Фаіна ВАДАНОСАВА**

У свой час Алесь Аляксандравіч працаваў рабочым, вучыўся ў маскоўскім Дзяржаўным інстытуце тэатральнага мастацтва імя Луначарскага, служыў у арміі, у 1936 — 1938 і 1945 — 1951 гадах працаваў загадчыкам аддзела мастацтва рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва", быў начальнікам Галоўрэперткама пры Саўнаркаме БССР, літаратурным кансультантам Саюза пісьменнікаў БССР, членам якога стаў у 1947 годзе.

За скупымі сухімі біяграфічнымі звесткамі — цяжкое дзяцінства без бацькі, юнацтва, фінская кампанія, Вялікая Айчынная вайна (спачатку ваяваў на фронце, потым — у партызанах). Алесь Аляксандравіч браў удзел у вызваленні Мінска, партызанскім парадзе ў ліпені 1944 года, аднаўленні беларускай сталіцы.

Падчас вучобы ў Маскве ён не раз сустракаўся з рускім рэжысёрам Мікалаем Паповым, які ў 1926 годзе ставіў у Мінску "Тутэйшых" Янкі Купалы. Калі рэжысёр даведаўся, што Аляксандр — студэнт з Беларусі, то расказаў яму пра сустрэчы з Янкам Купалам, узгадаў, што народны паэт падараваў яму том са свайго збору твораў, дзе была апублікавана гэтая п'еса, як, працуючы над пастаноў-кай "Тутэйшых", уносіў у тэкст свае рэжысёрскія праўкі.

У 7-м томе Поўнага збору твораў Янкі Купалы, выдадзеным ужо ў нашым стагоддзі, у каментарыі да п'есы "Тутэйшыя" згадваецца, што Алесь Есакоў перанёс гэтыя праўкі з той самай кнігі Янкі Купалы ў такі ж том пісьменніка. Кніга з перанесенымі праўкамі захоўваецца ў фондах музея, ёю карысталіся тэкстолагі, калі працавалі над Поўным зборам твораў паэта, даследчыкі драматургіі беларускага класіка. А ўвесь архіў рэжысёра М. Папова, як і кніга з Купалавымі праўкамі, знаходзіцца з 50-х гадоў у архіве літаратуры і мастацтва ў Маскве.

У 1945 годзе Алесь Есакоў — начальнік Галоўрэперткама. Ім падпісаны дакумент, які дазваляў экспанаваць матэрыялы першай экспазіцыі 1945 года, прысвечанай Янку Купалу, у музеі паэта, які ў той час размяшчаўся ў будынку на плошчы Свабоды.

Менавіта ў той час, калі Алесь Аляксандравіч працаваў у Саюзе пісьменнікаў, у будынку па вуліцы Энгельса, куды і пераехаў купалаўскі музей, у 5 залах размяшчалася экспазіцыя, па якой праводзіла экскурсіі цёця Уладзя. Стасункі з ёй працягваліся, і, нарэшце, калі паўстаў будынак сучаснага музея ў 1959 годзе, амаль на месцы папялішча дома паэта, ад Уладзіславы Францаўны паступіла яму прапанова заняць пасаду вучонага сакратара. Тут і прайшлі апошнія гады яго працоўнай дзейнасці. Алесь Есакоў у 1958 годзе разам з Уладзіславай Францаўнай уклаў зборнік "Янка Купала ў беларускім мастацтве", дзе змешчаны і яго артыкул.

Вучоны сакратар кіраваў работай і рэдагаваннем III і IV тамоў бібліяграфіі твораў Янкі Купалы, браў удзел у стварэнні экспазіцыі 1960 года пасля смерці Уладзіславы Францаўны, ажыццяўляў навуковае кіраўніцтва і стварэнне экспазіцыі ў філіяле "Вязынка" ў 1972 годзе, навуковае кіраўніцтва стварэння плана экспазіцыі 1976 года, якая існуе і сёння. Захавалася вялікая колькасць лістоў выдатных пісьменнікаў, дзеячаў культуры і мастацтва, накіраваных на імя вучонага сакратара А. Есакова, адказы на яго запыты аб успамінах пра Янку Купалу. Ішла інтэнсіўная работа па зборы ўспамінаў, многія з якіх потым склалі зборнікі "Такі ён быў" і "Успаміны пра Янку Купалу".

Алесь Есакоў — аўтар манаграфіі "Уладзімір Крыловіч" (1956), адзін з аўтараў зборнікаў "Мастацтва Савецкай Беларусі", "Янка Купала ў беларускім мастацтве", "Майстры беларускай сцэны", "Народны паэт Беларусі" і інш. Адзін са складальнікаў даведніка "Пісьменнікі Савецкай Беларусі" (1970).

Важныя экскурсіі заўсёды вёў вучоны сакратар: распавядаў пра асяроддзе пісьменніка і многія невядомыя на той час факты з жыцця Купалы. Акрамя гэтага, музей арганізоўваў навуковыя экспедыцыі для збору экспанатаў у купалаўскіх мясцінах. У выніку з'яўляліся публікацыі, тэле- і радыёперадачы. Фотаздымкі і запісы ўспамінаў захоўваюцца ў фондах музея, выкарыстоўваюцца ў розных напрамках музейнай дзейнасці. Асабліва запамінальнымі былі вечары "Тры пакаленні выканаўцаў ролі Паўлінкі", лекторый "Цыкл сустрэч з беларускімі кампазітарамі", "Янка Купала ў выяўленчым мастацтве", сустрэчы з мастакамі — сучаснікамі Янкі Купалы, стваральнікамі "Мастацкай Купаліяны" і г.д. Дарэчы, дакументы і матэрыялы пра жыццё і дзейнасць Янкі Купалы ў Смаленску ў 1919 годзе былі перададзены ў музей народнага паэта пасля запыту вучонага сакратара.

А. Есакоў быў першым біёграфам рускага мастака Дзмітрыя Полазава, стваральніка трох прыжыццёвых партрэтаў Янкі Купалы. Перапіску з мастаком пачала Уладзіслава Францаўна.

Па адукацыі Алесь Аляксандравіч — тэатразнаўца. Яго інтарэсы, тэматыка артыкулаў, рэцэнзій на пачатку творчай дзейнасці, у 40 — 50-я гады ХХ ст. — тэатр. У 60-я галоўнай тэмай даследаванняў Алеся Есакова стала таленавітая драматургія Янкі Купалы. Як вынік, у 1972 годзе выйшла манаграфія "Янка Купала і беларускі тэатр", у якой аўтар вывучэнне гэтай важнай тэмы пачынае ад драматычных паэм Песняра да выканання яго п'ес на самадзейнай і прафесійнай сцэне. Такога роду манаграфія выйшла ўпершыню, яна выклікала і станоўчыя, і крытычныя водгукі, але першы крок быў зроблены.

Не спыняў сваю творчую дзейнасць Алесь Есакоў і калі пайшоў на пенсію. У 1977 годзе выйшла яшчэ адна яго кніга "Зерне да зерня" (абразкі з жыцця Янкі Купалы). Як і раней, яго артыкулы, успаміны друкаваліся на старонках часопісаў "Полымя", "Нёман", "Беларусь", у газетах, гучалі ў радыёперадачах. Алесь Есакоў удзельнічаў у напісанні артыкулаў для энцыклапедычнага даведніка "Янка Купала", які выйшаў у 1986 годзе, праз год пасля яго смерці.


**Алесь Карлюкевіч**
**Далёкія і блізкія суродзічы**
З дзённіка краязнаўцы




*Блукаюць, вандруюць нашы землякі… Хто лепшай долі шукае. А хто — найбольшага выяўлення ўласных талентаў чакае ў далёкім ад Беларусі свеце.*

*Алесь Карлюкевіч*

Можна купіць без нацэнкі:
г. Мінск, вул Захарава, 19, пакой 17.
Тэлефоны для даведак: (017)288-12-94, 284-79-85.
Іншыя кнігі РВУ «Літаратура і Мастацтва»: www.lim.by

## Мастацтва без межаў

# Тры падзеі ў адным пасольстве

Мова мастацтва, як вядома, перакладу не патрабуе. І таму менавіта з яе дапамогай пачынаецца пранікненне ў культуру іншага народа: пра характво краіны, уласны светапогляд і лепшыя памкненні чалавечай душы расказваюць мастацкія творы, сцвярджаючы агульныя для розных народаў свету маральныя каштоўнасці, набліжаючы іх адзін да аднаго.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА, фота Алега Барашкі**

Гэты лейтматыў стаў галоўнай тэмай мерапрыемства, што нядаўна прайшло ў пасольстве Чэхіі ў Рэспубліцы Беларусь. Увазе яго наведвальнікаў прапанавалася выстаўка графічных работ Валерыя Славука, на ўрачыстым адкрыцці якой прысутнічалі прыхільнікі мастацтва, калегі і сябры мастака. На пытанне, чым яго прывабіла творчасць вядомага кніжнага графіка, спадар пасол адказаў: “Валерый Славук адкрыў мне свет казак, свет фантазіі. Яго незвычайнае мастацтва можна параўнаць з небам. Калі чалавек хоча адпачыць, можа бясконца глядзець на яго карціны”.



*Злева направа: Уладзімір Зінкевіч, Уладзімір Савіч, Валерый Славук, Іржы Карас.*

Ад імя Саюза мастакоў Беларусі выстаўку Валерыя Славука прадставіў старшыня Уладзімір Савіч, роля якога ў культурным дыялогу нашых краін таксама была высока ацэнена чэшскім бокам. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Чэхіі ў Рэспубліцы Беларусь Іржы Карас уручыў У. Савічу ўзнагароду Міністэрства замежных спраў за супрацоўніцтва з чэшскім народам і адзначыў: “Уладзімір Савіч адкрывае свет чэшскага мастацтва для Беларусі, і дзякуючы яго намаганням мы адкрываем свет беларускага мастацтва ў Чэхіі”.

Даўнія сяброўскія сувязі з чэшскім пасольствам у галіне культурнага супрацоўніцтва і ў Беларускай Праваслаўнай Царквы. Як паведаміў протаіерэй Аляксандр Шымбалёў: “Мы шмат гадоў цікавімся выставачным праектам чэшскага пасольства, супрацоўнічаем і з Іржы Карасам, які падтрымлівае беларускае мастацтва, беларускую культуру. Ён вельмі духоўны чалавек. Мастакі, якія выстаўляюць свае творы ў межах праекта, працуюць над тым, каб узняць узровень духоўнасці нашага народа. Яны бачаць прыгожы свет, якім яго стварыў Гасподзь, адлюстроўваюць яго прыгажосць і даносяць людзям. Мы падтрымліваем гэту плённую працу”.

Айцец Аляксандр уручыў грамату ад мітрапаліта Філарэта мастачцы Аксане Аракчэевай, куратару выставачных праектаў чэшскага пасольства на працягу апошніх паўтара гадоў, – яе выстаўка кніжных ілюстрацый “Маленькая страна” спачатку адбылася менавіта тут, потым дэманстравалася ў галерэі “Інстытут культуры”, мастачка згадзілася на прапанову правесці яе і ў мастацкай галерэі Інстытута тэалогіі БДУ. Аксана Аракчэева падкрэсліла, што такая актыўная дзейнасць у гэтым напрамку ідзе дзякуючы асабістай зацікаўленасці спадара Караса.

Спадар пасол прызнаўся: “Для мяне заўсёды было важна мастацтва. У нашай сям’і шмат калекцыянераў, аматараў жывапісу, пейзажаў. Таму калі атрымаў назначэнне ў Беларусь, пачаў шукаць мастакоў, карціны якіх мне падабаюцца, арганізоўваць іх выстаўкі ў пасольстве, Празе і, адпаведна, чэшскіх мастакоў — тут, у вас. У лістападзе, спадзяюся, запросім вас на выстаўку фотаработ майго сына, прысвечаную гораду, дзе я жыў. Візітка Чэхіі не толькі Прага і Карлавы Вары, а яшчэ і Маравія, і шмат невялікіх гарадоў і вёсак, якія могуць быць цікавымі тым, хто хоча бліжэй пазнаёміцца з нашай краінай. Фотавыстаўка дасць магчымасць уявіць жыццё сярэднестатыстычнага горада, штодзённыя клопаты яго жыхароў”.

# Апладысменты ілюстратару

**Вольга НОРЫНА**

На V Усерасійскім конкурсе кніжнай ілюстрацыі “Образ книги”, заснавальнікамі якога з’яўляюцца Федэральнае агенцтва па друку і масавых камунікацыях Расійскай Федэрацыі разам з Генеральнай дырэкцыяй міжнародных кніжных выставак і кірмашоў і аддзяленнем “Кніжная графіка” Асацыяцыі мастакоў графічных мастацтваў Маскоўскага саюза мастакоў, дыплом у намінацыі за “Лепшую ілюстрацыю да твораў для дзяцей і падлеткаў” атрымалі адразу два ўдзельнікі: Вера Паўлава (О. Мандэльштам “Сонные трамваи”) і Павел Татарнікаў (“Принцесса в подземном царстве”).

Кніга ў цвёрдай вокладцы і ў футарале на мелаванай паперы “Принцесса в подземном царстве. Белорусские народные сказки” ў пераказе Уладзіміра Ягоўдзіка з ілюстрацыямі Паўла Татарнікава ўбачыла свет сёлета ў выдавецтве “Издательский Дом Мещерякова” ў серыі “Перо Жар-птицы” тыражом 3000 экзэмпляраў.

“Прыемным сюрпрызам, — расказвае Павел Татарнікаў, — было тое, што зборнік на конкурс прапанавала само расійскае прыватнае выдавецтва”. Уладзімір Ягоўдзік таксама ўзрушаны: “Кніга не планавалася як камерцыйны праект, але тыраж з паліц расійскіх кнігарань знік імгненна”.




“Образ книги” — конкурс для ілюстратараў і дызайнераў — даволі дэмакратычны: у ім удзельнічаюць і вядомыя майстры, і тыя, хто толькі спрабуе сябе ў кніжнай графіцы. Мэта — падтрымаць высокамастацкія ілюстрацыі і самы цікавы кніжны дызайн у процівагу масавай рыначнай прадукцыі, пазнаёміць выдавецтвы з новымі таленавітымі мастакамі. Цырымонія ўзнагароджання традыцыйна адбываецца ў рамках Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

Сярод 132 заяўленых у гэтым годзе на конкурс кніг былі не толькі тыя, што ўбачылі свет у выдавецтвах Масквы, Санкт-Пецярбурга, Омска ды іншых гарадоў Расіі, але і беларускія і ўкраінскія.

## Анкета “ЛіМа”

# Прафесія і прызванне

Мала ў каго з нашых літаратараў пісьменніцкая праца становіцца асноўнай крыніцай матэрыяльнага здабытку. І нават такія прафесіі, як рэдактар, выдавец і выкладчык літаратуры, не назавеш у поўнай меры “пісьменніцкімі” — гэта толькі сутыкненне з чыёйсьці творчасцю. Мэта нашай рубрыкі — пазнаёміць чытачоў з тымі, у каго ёсць сталая работа, часцяком быццам бы маласумяшчальная са стварэннем літаратурных тэкстаў. Прапануем расказаць пра сябе і тых, у каго заняткаў па жыцці было шмат, — пэўна, і нешта запаветнае засталося або ёсць.

Некалькі пытанняў, якія дапамогуць сарыентавацца:

1. Ваша асноўная спецыяльнасць і яе сумяшчэнне з творчасцю?
2. Перашкаджае ці дапамагае работа творчасці?
3. Што першаснае ў агульнажыццёвым?
4. Як распараджаецеся ганарарамі?
5. Якую б прафесію выбралі, каб не жыццёвыя абставіны?
6. Стаўленне сваякоў, сяброў, знаёмых да работы і да творчасці?
7. Дзе больш паспяхова рэалізуецеся?

Чакаем вашых адказаў — у тым ліку і на пошту “ЛіМа”: *lim_new@mail.ru*

## Падвокладкай




**Блінец, А. У. Клецк. Старонкі даўняй гісторыі / Андрэй Блінец. — Мінск: Рэдакцыя газеты “Звязда”, 2012. — 112 с.**

Андрэя Блінца, маладога аўтара з Клецка, таленавітага гісторыка, жаданага госця на старонках “ЛіМа”, можна павіншаваць з удалым кніжным дэбютам. У гэтым даследаванні яго праца па вывучэнні гісторыі роднага горада стала цэласнай. А значыць, больш каштоўнай як для аўтара, так і для чытачоў. Аўтар закранае асноўныя падзеі з жыцця Клецка пачынаючы з яго ўзнікнення і ранняй гісторыі горада, асаблівасцей знаходжання зямель Клеччыны ў складзе ВКЛ і заканчваючы падзеямі, што адбыліся тут перад Першай сусветнай вайной.




**Слоўнік лексікаграфічных варыянтаў у мове твораў Якуба Коласа / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы; уклад. А. М. Астапчук. — Мінск: Беларуская навука, 2012. — 653 с.**

Гэты слоўнік прысвечаны лексікаграфічнаму апісанню моўнага багацця твораў Якуба Коласа. З дапамогай коласаўскага кантэксту ў ім раскрываецца сэнсавае значэнне слоў, выкарыстаных пісьменнікам у мастацкіх і публіцыстычных творах, дзённіках і лістах. Рэестр слоўніка, які налічвае каля 7 тысяч артыкулаў (загалоўныя з’яўляюцца каля 2500 лексем), максімальна поўна прадстаўляе лексічныя варыянты твораў класіка. Лексічная варыянтнасць у выніку паказвае: працэс выпрацоўкі літаратурных норм праходзіў праз творчасць Я. Коласа ў некалькіх кірунках: засваенне лексічнага багацця народнай мовы, выбар найбольш актыўных, тыповых для беларускай мовы элементаў, устанаўленне сістэм слова.



**Неизвестные страницы истории Белой Руси в документах и исследованиях (с древнейших времён до 1569 года) / сост. Н. Н. Малишевский. — Минск: Ильин В. П., 2012. — 736 с.**

Гэта кніга не толькі ўключае цікавыя, амаль невядомыя матэрыялы, але і з’яўляецца своеасаблівым даведнікам па крыніцах старажытнай беларускай гісторыі, ахопліваючы перыяд да заключэння Люблінскай уніі. Кніга створана на аснове фундаментальных работ айчынных гісторыкаў і навукоўцаў. Гэтыя работы дзясяткі год праляжалі ў савецкіх спецыяльных сховішчах. Значна і тое, што тэкст суправаджаецца адпаведнымі па храналогіі дакументамі і матэрыяламі, многія з якіх не перавыдаваліся стагоддзямі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам “Кніжны салон”. Тэл.: 385-60-89.**

**Уладзімір НАВУМОВІЧ**



# Ліцэй

## *Урывак з апавядання*

Марыя ішла на сустрэчу з выпускнікамі ў ліцэй не проста з глыбокім унутраным хваляваннем, трымценнем у душы, але і з нейкай незразумелай і надакучлівай боязззю, нават болем, які працінаў наскрозь, што халадзела і захлыналася ўнутры, стыла пад лыжачкай. Жыло прадчуванне нечага такога, што магло здарыцца ці ўжо здарылася ў яе жыцці, пра што яна яшчэ не ведала і не магла ўвогуле здагадвацца, але што павінна было адбыцца.

Душа Марыі разрывалася; вырывалася на свабоду, як "голуб дзікі", што рвецца-мкнецца на "прастор". Хацелася многага. Але спыніцца немагчыма было ні на чым, сэрца заходзілася ад любові да ўсіх і кожнага, хацелася хутчэй убачыць аднакласнікаў. Ад чаго? Марыя ішла і не ведала, як сустрэнуцца.

У класе жыла свая таямніца. І вырашылі яны ўсе разам і адметна. Таямніча і хвалююча. Хто ў класе з'явіцца бяс-спрэчным лідарам? Каму можна аддаць "пальму першынства"?

З самага пачатку станавілася зразумелым, хто чаго варты і хто чаго дамагаецца. Яшчэ паглядзім, дзе каго пасадзім. Сяброўства перамагала, ад гэтага Маша была асабліва радасная. Не было, як часамі ў звычайнай школе: двоечнік з двоечнікамі, выдатнік з выдатнікамі.

…Маша ішла, а прыступкі пад нагамі спявалі. "Summa cum laude"*. Краснадубскі "навучыў" хістацца ў такт хадзьбе. Так рабіла Наташа Растова, калі, пераступаючы з пяткі на насок, адчыняла адны філёнчатыя, з пазалотай дзверы, другія, трэція, уваходзіла ў велізарную залу, прыгаворваючы:

— Вось яна — я!

— Summa cum laude!

Спявалі прыступкі.

Косцік у класе — самы вясёлы. Ігар — маўчун, але галаваты. Лёнька — раструханец, сыпле словамі, быццам гарохам з мяшка. Ладны Грунтоў Вадзім — скажа як звяжа. Толік Беланожка "Тлумачальны слоўнік жывой велікарускай мовы" ў 4-х тамах Уладзіміра Даля на памяць вывучыў, якое слова ні спытайся. Зміцрок Цiханчук палітычную мапу як рэпу грызе, сталіцы дзяржаў, палітычны лад, краіны-суседзі. Геапалітычнае становішча любой дзяржавы ведае: тэласакра-тыя — магутнасць праз мора, тэлуракратыя — магутнасць праз сушу, — усё без запінкі. Цывілізацыі гор, стэпу, пустыні. Беларусь — цывілізацыя лесу.

Ліцэіст — карыфей эпохі і на паўстаўкі геній. Айкю не менш як 137, як у Нобелеўскіх лаўрэатаў. Зухаватых нямала і сярод дзяўчатак. Час дыктаваў свае ўмовы. "Блажен, кто смолоду был молод!" — усклікаў А. С. Пушкін. Юнацтва — шматабяцаючае.

Марыя Венска радавалася вучобе, ёй тут падабалася ўсё. Хацелася адпавядаць стандарту ліцэя. Першым сцвярджэннем сябе ў класе стаў для Марыі конкурс на лепшы каляндарык-візітку да 20-годдзя заснавання ўніверсітэцкай школы XXI стагоддзя. На летніку ў бабулі і дзядулі пад Радашковічамі пайшло ў ход усё: кветкі, малюнкі, трава каля дома. На зялёненькай мураўцы "прымасціліся"-прыжыліся рознакаляровыя кветачкі, якія нібы прараслі з зямлі альбо плылі па зялёным моры ўдалячынь на ветразях нашых мар. Мы не можам кіраваць ветрам, але мы можам разгарнуць насустрач ім ветразі нашых "Брыганцін". Віктар Аркадзьевіч Святагорскі, выхавацель ліцэя, "прыладзіў" зверху эмблему ўстановы. І запаветныя словы лацінкай: "Summa cum laude".

— Цёплы каляндарык, — вырашылі ліцэісты.

Маша расла ў сям'і сціплай, спакойнай, але дзяўчынка мела развітую фантазію. Яе любімым заняткам стала маляванне.

Цяпер ужо і яна, і мала хто іншы прыгадае той Новы год, калі дзеўчанё, чарнявае, ласкавае, з кудзеркамі, прыгожае, як іконка, паверыла ў існаванне дзеда Мароза. А што? Вам, дарослым, дазволена верыць у існаванне знешніх сіл, якія сочаць за намі зверху, кіруюць усім, што дзеецца на зямлі. Вы, дарослыя, называеце гэта верай, выпадакам, інтуіцыяй.

Села дзеўчанятка аднойчы за столік, напісала ліст Дзеду Марозу, паклала на падаконнік, адчыніла фортку, выйшла з бацькамі ў госці, вярнулася — ліста не было. Ну як тут не паверыць! Папрасіла ў дзеда Мароза ляльку Барбі — з'явілася прыгажуня, пажадала "Дом для Барбі", як у казцы, — збылося, адзенне для лялькі — "Дом мод" вырас. Лялька з фарфоравым тварыкам. Прынцэса з распушчанымі валасамі. Канькі-ролікі ўжо сама падбірала. З Бельгіі, з Антверпена, дзед з бабуляй прывезлі вавёрачку з дзіцячым фарфоравым тварыкам. У малодшым школьным узросце, прыціскаючы да грудзей падарунак — школьны рукзачок, — радавалася, як цаццы-забаўлянцы, хоць той заплечнік не быў першым. Сядзела, прыціснуўшыся ў куточак, пера-пёлачка, ластавачка берагавая, абдымала абедзвюма школьную абноўку і неймаверна радавалася, што выйшла так, як яна задумала, што ўсё ж такі казка існуе, чары працуюць.

Вера не проста ў цудадзейныя, але найперш у свае ўласныя сілы прыйшла да дзяўчыны Марыі Венска ў пазнейшыя гады, на выхадзе са школы-адзінаццацігодкі. Здавалася б, лёгка вучылася і спасцігла ўсе прадметы, другая ў класе па паспяховасці, "дзявяткі" і "дзясяткі" роўненька стаялі ў дзённіку. І маці-доктарцы няма чаго браць у галаву, думаць пра новыя турботы. Але заірдзела новая прыступка, хоць і шкада было пакідаць старых школьных сябровак. Для Марыі Венска такім новым трамплінам стаў ліцэй БДУ на Ульянаўскай, 29. Ліцэй, як высвятлілася, дапамог ёй паверыць у свае ўласныя сілы, фізічныя, разумовыя, больш яшчэ маральныя, што давала трывучасць упэўнена стаяць на нагах, цвёрда крочыць па жыццёвай сцяжынцы, павод-зіць сябе смела, гожа, рашуча. Верыць у праўду ўласнага розуму, у праўду нашых душ, у справядлівасць біцця сэрцаў, у шчырасць, цяпло душы, у духоўнасць і прыгажосць. Зрабіў дабро ("кінеш за сабою — знойдзеш перад сабою") — гэта відаць, "здабыў" для сябе "ісціну" — ад цябе ніхто не адбярэ. Прыгажосць — яна навідавоку, неаспрэчная ў нашым лёсе. Дабро, Ісціна, Прыгажосць — абсалюты, якія вялі Марыю па жыцці. Чарадзейства ў ліцэі хапала. Нямала сустрэнеш чараў Боскіх і адкрыццяў. І зорак не палічыць. Марыйцы ад душы хацелася, каб у яе паверылі, узялі адкрываць адвечныя цуды Прыроды і Чалавека: "Summa cum laude". Дэвіз ліцэя БДУ. Школы XXI стагоддзя.

Ліцэй — як універсітэт-феномен цывілізацыі, адметнае асяроддзе, самастойная карпарацыя духу, культурнае пасяленне, яднанне розуму і маралі.

…Удваіх, пара на пару, Маша гуляла ў настольны тэніс, клас на клас — "А" і "Б". Выйгравала з Вадзімам Гарнастаевым, але ў кульмінацыйны момант Ромка Салаўянчык, які гуляў з Соняй Галаванскай, закрычаў: "Сетка". Вадзім даказваў: "Не было". Малаток, Вадзька. Сцвярджай верхавенства! Марыя зацята маўчала. Перападалі падачу. Злаўчылася, выгнулася вясёлкай-дугой, зачэрпнула чарпаком пластмасавы мячык ці не ад самой цэментавай падлогі, "загарнула"-"закаціла" і мёртвым паклала на баку сапернікаў. "Не было", — цвёрда прамовіла. Вось так. І толькі так сцвярджаць. У дзень апошняга званка ў ліцэі дачка сваіх бацькоў Марыя, турчанка, егіпцянка, персіяначка, танцавала свой іскрысты танец "Сафары". Шматлікія дзеткі сёння "вывінчваюцца" ў індыйскіх танцах. Думала Маша і "турэцкага султана" на падушкі ўкленчыць, пяскі ды дзюны, барханы, вятры з пустэльнікам Серапіонам "паклікаць" на дапамогу — усё адкідвалася прэч. Не тое. Вось ён, крэатыў ліцэя. Даць мажлівасць раскрыцца асобе ў паўнаце сваіх навуковых, творчых, спартыўных памкненняў. Выбеглі выпускніцы-ліцэісткі на сцэну — "клас Б" — велічна выйшла за імі настаўніца ліцэя-філалагіня ("філалагіні — усе багіні") Алёна Закрэўская. Развязала банты на вучнёўскіх пярэдніках, у валасах, з надзеяй услед іхнім крокам пагля дзела: "Пара дарасцець!" Дзе так даўмеюцца? У ліцэі. Зладзіла тады дачка Марыя танец адмысловы. Зроблены з любімым выкладчыкам Святагорскім гліняны посуд: ваза візантыйская. Схавалася туды. Нечакана разваліўся жбан ("выпусцілі джына"), выскачыла адтуль, паўстала з нябыту цудоўная Шахеразада. Дзева раю пусцілася ў скокі, закруцілася-засвяцілася падсветка, захісталіся ленты над агменем. Языкі полымя, пустыя рукавы агню, феерычны ўсплёск. Рытм, энергія разняволенага пачуцця, надоўга затоенае парыванне, усёпаглынаючая страсць, адточанасць малюнка, выверанасць маланкавых зломаў рук, хістанне плячэй, дынаміка шамачэння ног па драўлянай падлозе — ходырам хадзіла дзяўчо з магутнай хваляй чорных доўгіх валасоў, хваляй набрыньвалі, як цунамі, над галавой, над спіной, ля падэшваў босых ног, калі Маша ледзь не наступала на хісткае вароніна крыло. Трапіўшы ў асяроддзе дыпламаваных зорак-ліцэістаў, працавала на поўную сілу. І поспех прыйшоў адтуль, адкуль менш за ўсё яго чакалі. Руская мова на ЦТ — 80 "з хвосцікам", улічваючы, што сярэдні бал па краіне ў той год быў намнога ніжэйшы. Набрала з запасам балаў, магла выбіраць, куды паступаць. Праз іголькавае вушка не прабраццa вярблюду. Марыя зрабіла магчымае з немагчымага. Гэта была яе другая Жаўтыкоўская алімпіяда, пераможцы якой так часта прыгадаліся ў сцэнах ліцэя. "Гэта ў Канадзе?" — ляпнуў Косцік Трублін. "Казахстан, Алматы", — папраўіла Марыя Косціка, усміхнуўшыся куточкамі выразных губ на прадаўгаватым, як у Ніферціці, тварыку ("як ні вярціце, не круціце, усё ж існуе, як існавала Ніферціці"). Усміхалася яна ад шчасця і радасці таго, што сябры поруч, што яны цяпер, праз цэлы год, не адкінулі прэч праўду душэўнага шчасця. Людзі тут, у ліцэі БДУ, валодаюць сінкрэтычным Боскім дарам — інтуітыўнага правільнага рашэння. Пра тое, памяталася Марыі Венска, распавядалася ў працы "Аб вялікім сіндэрсісе". Сіндэрсіс — дар нябёсаў, дар жаданы. Сапраўдны разумны чалавечы стан, двуадзінства, як чаша шаляў, добрага і дрэннага, натхнення — захаплення, злосці — спакою, натуры — культуры. Тое ж, што і густ. "Просты чалавек" Рабінзон Крузэ ад прыроды надзелены "сіндэрсісам", існаванне якога без дыдактыкі застаецца па сённяшні час павучальным, як старадаўня міфы.

І вось ён, ліцэй!

Адсюль, з выспы, калі ісці ад ГУМа, ногі самі нясуць наўтрунь уніз і ўніз. Ліцэісты збягаюць у двор, як збягаюць ручаіны ў раку, асыпаецца пераспелая квецень вішань на падворак, у траву-мураву, як сее руплівая далонь селяніна-сейбіта жменю за жменяй на ўрадлівую зямлю набрынялае ўвесну зерне. Высяцца зубчатыя "крамлёўскія" сцены, прыцягваюць вока апсіды, нефы, порцікі. Падобна каледжам Оксфарда і Кембрыджа, ліцэй жыве сваім аўтаномным жыццём, разложыста і горда заняўшы прастору. З вострымі вугламі бесстаўповы храм са стрэшкай карынфскага ордэра фасадам звернуты да ракі, як і належыць каралеўскім палацам, прынцам на крыві. Універсітэцкім паселішчам, якія бяруць свой пачатак ад Адама. Сцены аздоблены пілястрамі карынфскага ордэра, ляпнымі карнізамі, разеткамі. Марыя ўбачвідкі бачыла статуі ў адзеннях, рымскіх палкаводцаў, чугунныя балюстрады, мармуровыя калоны. Высотнай дамінантай ансамбля сталі ліцэйскія лесвіцы, якія надаюць будынку яшчэ больш рамантычны флёр, вабяць сваімі таямніцамі, напоўненыя загадкавасцю, чароўнасцю, уражваюць прыгажосцю інтэр'ераў.

На ліцэйскіх лесвічных маршах і здарылася іх першае спатканне, пра якое Маша Венска не змагла, каб і хацела, забыцца. Вадзім Гарнастаеў, тонкі, шыракаплечы, ястрабам зляцеў уніз, а яна пташачкай легкакрылай успырхнула на плато другога паверха. Сутыкнуліся незнарок. І апынуліся ў абдымках адно аднаго. Вадзім ухапіў Марыю, прыўзняў над мармуровай падлогай і закружыў вакол сябе. "Куды цябе нялёгкая нясе?" "Пусці, галава закружыцца". "А я такога і дабіваюся". "Чорт лазаты". З тае самае таемнае часіны Марыя запавольвае крок на той самай прыступцы лесвічнага марша. "Эх, каб вярнуцца". Але ён ужо каменем упаў на першы паверх, яна ўзляцела на трэці, так і не паспеўшы сказаць адно аднаму пра свае пачуцці — ні слова, ні паўслова. Відаць, нейкая магутная сіла цягнула і яго на тое ж месца іх першай стрэчы між другім і трэцім паверхамі. Колькі разоў яны там перамігваліся. Ды, мусіць, не адной Машы прыглянуўся Вадзім. У той раз Марыя бакавым зрокам згледзела, як дастала пенальчык хітрая і вынаходлівая Лізка Верхаўцова, нагнулася, каб сыпануць пад ногі Кацьцы Камашэнкавай, якая ў чэшках спяшалася на "фізру". Марыя Венска кінулася напярэрэз, выбіла круглякі ў прорву лесвічнага праёма. "Лесвіцы вядуць уверх, але па іх можна спусціцца і ўніз". Вадзім ўсё бачыў, несумненна, ён усё бачыў. Пры сустрэчы ўдакладніў яе афарызм. "Дык, кажаш, можна ўзыходзіць уверх па лесвіцы, а можна ступіць на лесвіцу, якая вядзе цябе ўніз". Рэзюмаваў: "Балерына атрымала сваё. Ад яйка адап'е і ніхто не заўважыць". Толькі аднойчы Марыя не на жарт спалохалася за Вадзіма. Ліцэй як вулей. Праз каторы дзень гудзелі пра паркураўскі рэкорд Гарнастаева. "Падумаць, экстрыму захацелася". З Колькам Ружачкіным праз ноч у суцэльнай цемені, хоць вока выкалі, абследавалі закінутую заржавелую электрастанцыю. "Яе можна яшчэ запусціць". Лідар рок-групы Мікіта Усікаў вёў іх праз лес, асвятляючы шлях мабільнікам. Лятала і скуголіла савяня, назаляла піскляваракрыўджаным кугіканнем — яго пазбавілі дома. Прыгадалася прытча, як каток ішоў на паляванне ў лес, стрэў на ўзлеску саву: "Глядзі, маіх не еш". — "А якія твае?" — "Самыя прыгожанькія". Назад вяртаецца: "З'еў нейкіх лупавокіх". "Электрастанцыя дасць ток". Перапонваў: "Дзецюкі! Адродзім станцыю". "Вадзім, больш не рызыкуй". Як маці папрасіла. "Я, раўпджампер" Гарнастаеў стаў ініцыятарам эсэ "Што я магу зрабіць для Беларусі". Пад настрой Марыя Венска напісала трэк хіп-хоп у стылі арэн-бі на паўстаронкі. Сонечна! Для людзей сонечна! "Збяры ў адну ўсю Беларусь сям'ю", — маліў Купала. "Будзем мы самі гаспадарамі", — дакляраваў Колас. Вякамі ішлі да самастойнасці беларусы. Усім удлубаць не біруся: пасіянарнасць лёсаў — роднай Беларусі!

Самапазнанне. Самавызначэнне. Самасцвярджэнне. Белая — свабодная. Сабарнасць — наш шлях. Эсэ здала пад псеўданімам "Свеце ясны". Вадзім перастрэў. "Казка — гульня жыцця. Дзе чалавек можа і павінен заставацца самім сабой". Талстой дзеля жыцця адмовіўся ад усяго.

…Марыя трымцела ад хвалявання, ідучы на сустрэчу. Жаўтыкоўскую алімпіяду. Была ў іхнім класе большая таямніца, якую яны павінны "рассакрэціць" сёння. Ніводзін вечар не абыходзіўся ў alma mater ("маці-карміліцы") без іхняга ўдзелу. Але вось адно існавала пытанне, якое задалі самі сабе пры выпуску ліцэісты, адказалі і паклалі ў гаршчочкі з кветкамі пад спод, скотчам да дна прыляпілі паперкі з імёнамі.

— Скажы мне, хто твой сябра? "Summa cum laude".

Аддзіралі ліпучку і чыталі. Маша сумелася. Адзін, другі, трэці… Яшчэ адна візантыйская ваза. "Summa cum laude".

Што бянтэжыла і зачароўвала? У дзяўчат і хлопцаў адказы аднолькавыя. Яны пакляліся, што ліцэйскае сяброўства захаваюць на ўсё жыццё. Зберагуць. Маці Боска! Няўжо так? Ці не яе ўдача? "Марыя Венска". Так 22 разы, колькі выпускнікоў. "Венска". "Венска", "Марыя Венска", "Маша", "Марыя". Лідар не той, хто першы, а хто для людзей лепшы. Гэта была яе галоўная Жаўтыкоўская алімпіяда.

Сярод запісачак адна, тоненька скачаная ў спацелых далонях. Почырк Марыя вывучыла дасканала.

— Люблю Цябе, мой свеце ясны.

---

* "З найвялікшай пахвалой". Лацінская адзнака для выпускнікоў школ, ліцэяў. Уведзена ў 1881 годзе ў Англіі, пазней распаўсюджана ў ЗША. Ужываецца і ў значэнні адзначаць, узвялічваць, рабіць шчаслівым.

# Пад знакам Кіно

Восень — самы час пагутарыць пра кіно. Тым болей што адбылося нямала падзей, з ім звязаных: поўныя залы збірала “Анімаёўка”, наша кіно глядзелі ў Кане, выпрабоўвалі сябе ў кінашколе-конкурсе рэжысёры-пачаткоўцы, цікавым стаўся зварот беларускіх мастакоў да нямецкай кінакласікі. Раскажам пра ўсё па парадку.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

### ВОСЕНЬСКІ КАЛЯНДАР

Аматарам кіно час пазначыць у календары, што на экранах з 2 па 9 лістапада будзе панаваць Мінскі міжнародны кінафестываль “Лістапад-2012”, а ва ўласны спіс абавязковага прагляду з багатага пераліку створанага за апошні час варта ўключыць фільм “У тумане”. Работа рэжысёра Сяргея Лазніцы паводле твора Васіля Быкава, якая прэтэндуе на ўзнагароду Еўрапейскай кінаакадэміі “European Film Awards”. Сярод узнагарод, ужо атрыманых гэтай стужкай, ёсць прыз журы Міжнароднай федэрацыі кінапрэсы “FIPRESCI” на 65-м канскім фестывалі. Прыемна, што ў гэтым міжнародным праекце ўдзельнічала і Нацыянальная кінастудыя “Беларусьфільм”.

Аргкамітэт ММКФ “Лістапад” ужо разаслаў паведамленне: сёлета фэст пройдзе пад слоганам “Мы любім кіно. We love cinema (у мінулым годзе, нагадаю, быў дэвіз “Шырока расплюшчыўшы вочы”). Так, людзей, абыякавых да кіно, проста не існуе. Іншая справа — што менавіта мы ў кіно любім. Напрыклад, у большасці маіх знаёмых тэма клопатаў сексуальных меншасцей, якім была прысвечана значная частка праграмы аднаго з мінулых “Лістападаў”, паменшыла ахвоту да візітаў у кіназалы. Што прапануюць арганізатары гэтым разам?

### ВУЧЫЦЦА... І ЯШЧЭ РАЗ ВУЧЫЦЦА

Яркая падзея пачатку восені — магілёўская “Анімаёўка” — збірала гасцей 15-ы раз. Сярод тых, хто прайшоў па “чырвоным дыванку”, сёлета былі Аксана Сташэнка (яе голасам размаўляюць маманцяняты ў апошнім “Ледавіковым перыядзе”) і народны артыст СССР Леў Дураў.

Праграма парадавала павелічэннем колькасці паказаных работ — 82 супраць 46 у мінулым годзе, пашырэннем геаграфіі стужак-канкурсантаў — удзельнічалі не толькі расійскія юныя аніматары, але і тыя, хто робіць першыя крокі ў мультыплікацыі ў Эстоніі, Украіне, Партугаліі. Узначальваў журы рэжысёр Марэк Хадачыньскі. Прыемна было даведацца, што ў Магілёве плануецца стварыць дзіцячую анімацыйную студыю — на базе кінатэатра “Ветразь”. Кінастудыя “Беларусьфільм” абяцае дапамагчы абсталяваннем.

Вучыць ствараць кіно — гэта вучыць культуры, гісторыі, удумліваму падыходу і безлічы неабходных дробязей і істотных момантаў. Менавіта так падышлі да работы з маладымі рэжысёрамі ў міжнароднай кінашколе-конкурсе, што працавала ў Мінску. Выпускнікі шчыра прызнаваліся, што і падумаць не маглі, наколькі гэта карпатлівая праца: прафесійна стварыць нават кароткаметражную стужку. Тэмы, якія хвалююць моладзь, разнастайныя. Вельмі розныя і героі. Разнапланавыя вобразы. Рэжысёр Алена Алексане прапануе падумаць над тым, як пачувае сябе ў штодзённым побыце чалавек, абавязак якога — пазбаўляць жыцця прысуджаных да найвышэйшай меры пакарання (“В траве сидел кузнечик”). Аляксандр Шупянько разважае ў фільме “Механізм” наконт таго, да чаго вядзе бязглуздае адмаўленне законаў жыцця. Пра тых, хто прысвяціў жыццё бясконцаму паляванню на “зорак”, расказвае Яўген Ісачэнка ў фільме “Фанатка”. “Любіць Беларусь нашу мілую” герой стужкі “Вандроўнік не вернецца” рэжысёра Алеся Лапо навучыўся, прайшоўшы ўвесь свет. Таму, што ён пабачыў, пазайздросціць многія. Але сэрца паклікала яго на радзіму. Закінутая беларуская вёсачка, экзотыкі ў якой не менш за далёкую Амазонку і Афрыку, стала яго прытулкам. Яго госці — музыкі і мастакі — небеспаспяхова шукаюць тут натхненне. І ёго адзіная пагадзіцца кінуць выгоды гарадскога жыцця.

Крамольную думку — калі вельмі хочацца, кіно можна здымаць і без кінашколы — выказаў Максім Багдановіч. Свой фільм “Пераход”, героі якога сустракаюцца ў падземным пераходзе, ён зняў за ўласныя грошы. Тры дзівакі — выкінуты з багемнага клуба саксафаніст, нефармал-гітарыст і хлопец, які з дапамогай апаратуры піша гукі горада — выпадковая сустракаюцца, і менавіта таму, што ёсць ахвотны паслухаць, з індывідуальных імправізацый нараджаецца зладжаная мелодыя. За ўласны кошт знятая і “Пясочніца” Алесі Пагарэлавай. Двое малых, што гуляюць у дворы шматпавярховікаў, аказваецца, дзеці аднаго таты-п’яніцы…

Творчае спалучэнне досведу старэйшага пакалення, майстэрства сярэдняга і ідэй маладога, спадзяюся, дасць новы штуршок беларускаму кінематографу.

### НЕВЫЧЭРПНАЯ КРЫНІЦА НАТХНЕННЯ

Мастацкае прачытанне кінатэкстаў нямецкага экспрэсіянізму XX стагоддзя сталася адпраўным пунктам праекта “Exit II” (“Выйсце ІІ”), увасабленню якога паспрыялі Інстытут імя Гётэ ў Мінску, Музей сучаснага выяўленчага мастацтва і Гісторыка-культурны музей-запаведнік “Заслаўе”. Стартаваў праект у Заслаўі, адкрыццё другой яго часткі адбылося ў Мінску на пачатку верасня, а ў Дзень горада мінчане і госці сталіцы маглі не толькі падзівіцца на жывапісныя і аб’ектныя інсталяцыі Аляксандра Барташэвіча, Міхаіла Гуліна, Таццяны Кандраценкі, Зоі Луцэвіч, Вольгі Сазыкінай і Антаніны Слабодчыкавай, але і паглядзець культавыя стужкі з агучваннем сучасных беларускіх музыкаў Насты Лабады, Уладзіслава Бубна, “Князя Мышкіна”.

Дырэктар інстытута імя Гётэ ў Мінску Франк Бауман адзначыў: “Мы маглі проста прадэманстраваць «Метрапаліс», «Рукі Орлака», «Голем, як ён прыйшоў у свет», «Кабінет доктара Калігары», «Насферату. Сімфонія жаху» і пагутарыць з аўдыторыяй, скажам, студэнцкай, на тэму, як адчувае сябе чалавек у тэхнакратычным грамадстве, пра яго страх адзіноты і да т. п. Але вырашылі зрабіць зусім новае”.

Узаемадзеянню публічнага і “ценевага” бакоў у жыцці асобы прысвечана інсталяцыя Вольгі Сазыкінай, штуршком да якой стаў “Кабінет доктара Калігары”, растыражаваны апошні кадр гэтай стужкі ў творы Таццяны Кандраценкі нясе ідэю не проста дачынення, а непасрэднага саўдзелу кожнага з нас у тым, што адбываецца. Рэфлексію на сутыкненне з жахам адлюстроўвае трыпціх Зоі Луцэвіч.

У выніку — немагчыма не пагадзіцца з мастацтвазнаўцай Ларысай Фінкельштэйн: “Адчуванне, што нямецкі экспрэсіянізм XX стагоддзя — вельмі адметная з’ява ў сусветным мастацтве — нікуды не сышоў. Дасюль уплывае на наша разуменне. І ў творах самых вядомых канцэптуалістаў нашага часу мы бачым, як арганічна спалучаюцца мінулае і сучаснае”.

# Нашы там жывуць — з песнямі!

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Гасцяваў нядаўна мой сябра ў расійскіх беларусаў і прывёз ад іх унікальны прэзент: нотныя зборнікі “Белорусский рушничок” і “Корни родства вековые в музыке Белой Руси”. Пра іх выданне парупілася Новасібірская гарадская грамадская арганізацыя “Беларускі культурна-асветніцкі цэнтр у імя святой Еўфрасінні Полацкай”. Дзіву даешся! Пакуль нашы кампазітары пакутуюць ад непераадольнай праблемы — адсутнасці дзяржаўнага нотнага выдавецтва (пра гэта яны цягам некалькіх дзесяцігоддзяў гавораць на кожным сваім з’ездзе, на пленумах творчага саюза), землякі ў далёкай Сібіры пераадольваюць недаступнае пачуццё настальгіі, наталяючыся песнямі роднай зямлі, ноты і тэксты якіх дзякуючы выданню зборнікаў цяпер заўсёды пад рукой.

Пра тое, што змест гэтых натадрукаў варты сур’ёзнай грамадскай увагі, напісаў старшыня Беларускага саюза кампазітараў І. Лучанок (аўтограф яго водгуку змешчаны ў якасці ўводзін да зборніка “Корни...”). У прадмове да “Белорусского рушничка” дырэктар БКАЦ, заслужаны дзеяч Усерасійскага музычнага таварыства А. Лагуценка зазначае, што адным з напрамкаў у прапагандзе беларускай культурнай спадчыны, якую актыўна вядзе Цэнтр, з’яўляецца складанне і выпуск зборнікаў вершаў ды песень: “Гэтыя кнігі дапамагаюць сібіракам бліжэй пазнаёміцца з духоўнымі каштоўнасцямі беларускага народа, а многім — ацаніць напоўніцу талент сваіх землякоў, бо толькі ў Новасібірскай вобласці жыве некалькі тысяч этнічных беларусаў, і для іх у першую чаргу мы стараемся данесці ўзоры роднай культуры”. Больш за тое, па ініцыятыве БКАЦ у імя святой Еўфрасінні Полацкай і пры падтрымцы калектыву ДМШ імя А. Новікава ў школе працуе творчая майстэрня па вывучэнні беларускай музычнай культуры.

Пад маляўнічымі вокладкамі, унутраны бок якіх аздоблены здымкамі з нацыянальных культурных імпрэз, творчых сустрэч, знамянальных для жыцця Цэнтра, — лепшыя




ўзоры беларускай народнай і аўтарскай песеннай творчасці, здатныя ўпрыгожыць рэпертуар харавых суполак, дзіцячых спеўных гуртоў, салістаў, аздобіць сямейнае свята, сяброўскую бяседу. У адным нотным сшытачку — 30 твораў, у другім — 42: “Радзіма мая дарагая” У. Алоўнікава і А. Бачылы, “Жураўлі на Палессе ляцяць” І. Лучанка і А. Ставера, Зорка Венера” С. Рак-Міхайлоўскага і М. Багдановіча, “Александрына” У. Мулявіна і П. Броўкі, “Не трэба слоў” Л. Счасліўенкі і І. Карэнды, лірычная “Рэчанька”, жартоўная “Полька-Янка”, тужлівая “Ой, сівы конь бяжыць”, гарэзлівая “Лявоніха”, калядная “А ўчора з вячора”, класічная “Чаму ж мне не пець”... А рыхтавалі ўвесь гэты песенны скарб да друку аўтар праекта А. Лагуценка ды музычны рэдактар Л. Счасліўенка.

## ART-пацеркі

Семдзесят гадоў таму ў амерыканскай кінастудыі “Атэль на свяце” ўпершыню прагучала музычная кампазіцыя “Белыя Каляды” (“White Christmas”). Экранны дэбют песні, сцвярджаюць даследчыкі, не прынёс поспеху ні ёй самой, ні яе аўтару. Затое сёння гэтая балада — у ліку калядных хітоў “на ўсе часы”. А стварыў яе наш зямляк Ірвінг Берлін (сапраўднае імя Ізраіль Ісідар Балін), адзін з найвядомых амерыканскіх кампазітараў і паэтаў. Нарадзіўся ён у яўрэйскай сям’і ў Талачыне. Бацька быў кантарам у магілёўскай сінагозе, захапленне спевамі перадалося і сыну. Пяцігадовым хлопчыкам Берлін эмігрыраваў з сям’ёю ў Амерыку, дзе далейшыя жыццёвыя акалічнасці змусілі яго дзеля заробку выконваць песні на вуліцах, затым — у рэстаране. Талент дазваляў яму складаць і музыку, і тэксты песень, якіх за сваё жыццё Ірвінг Берлін стварыў больш як тры тысячы. Ён таксама аўтар музыкі 17 фільмаў і 21 брадвейскага мюзікла. Неафіцыйны гімн ЗША “Божа, благаславі Амерыку” напісаў таксама ён.



*Ірвінг Берлін.*

Падарунак сваім прыхільнікам зрабіў Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі. У мінулую нядзелю тут адбыўся паказ дадатковага спектакля “Іяланта”, білеты на які прадаваліся па г. зв. сацыяльных цэнах: ад 6 да 35 тысяч рублёў. Паглядзець прыгожую рамантычную “казку для дарослых”, паслухаць у жывым гучанні пранікнёную музыку П. Чайкоўскага прыйшлі шматлікія аматары опернага мастацтва.

Над спектаклем “Местачковае кабарэ” працуе Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. Аўтар ідэі і рэжысёр новай пастаноўкі Мікалай Пінігін звярнуўся да творчасці М. Хемара, Ю. Тувіма, Л. Дэнца, Дж. Расіні, В. Шалкевіча і разам з Ігарам Скрыпкам напісаў лібрэта. На сцэне ўвасобіцца фантазія пра той астравок буржуазнага жыцця, які мог існаваць у Баранавічах, Слоніме або іншых колішніх мястэчках Заходняй Беларусі. Сцэнограф — А. Ігруша, аранжыроўкі робіць кампазітар У. Кур’ян; балетмайстар Н. Карчэўская і педагог па вакале Л. Налбандзян працуюць з артыстамі, сярод якіх Віктар Манаеў, Сяргей Журавель, Зоя Белахвосцік, Святлана Зелянкоўская, Павел Харланчук ды іншыя. Прэм’еру чакаем 31 кастрычніка.

Выдатны жывапісец-пейзажыст Аляксандр Грышкевіч адзначае свой юбілей новай выстаўкай — “Зямля”. Адкрылася яна ў сталічнай “Галерэі мастацтва” і прабудзе тут да 11 кастрычніка. Аўтар канцэптуальных пейзажаў, у якіх праз вобразы прыроды ён выяўляе ўласны светапогляд і прачыняе свой складаны ўнутраны свет, А. Грышкевіч гэтым разам прапануе “прэм’еру” новай маштабнай кампазіцыі, якая дала назву ўсёй выстаўцы. Таксама ўпершыню экспануецца маляўнічая падборка яго эцюдаў, зробленых з натуры.

# Мсціслаўскія матывы

Чарада асветніцкіх праектаў, якія ладзіць у невялікіх беларускіх гарадах Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі, працягваецца. Тыдзень таму заслужаны калектыў пад кіраўніцтвам маэстра Міхаіла Фінберга завітаў у старажытны куток Магілёўшчыны, дзе наладзіў ХІ Фестываль мастацтваў імя народнага артыста Беларусі Мікалая Чуркіна — "Мсціслаў-2012".

**Арцём КУМЕЛЬСКІХ,**
**фота аўтара**

"Мсціслаў — кропля, люстэрка, асколак, у якім адбіваюцца сонца і зоры, уся няпростая гісторыя Беларусі. Горад, які, здаецца, нічым асаблівым не вызначаецца перад іншымі гарадкамі, якіх на Беларусі сотні. Але паглядзіце на яго — і нібы ў фокусе адаб'ецца ў ягонай гісторыі ўвесь наш гонар і наша слава". Слушныя словы Уладзіміра Караткевіча! Прынамсі, у люстэрку гісторыі Мсціслава адбіваюцца гонар і слава нашай музычнай культуры. Як вядома, менавіта гэтая зямля дала Мікалаю Чуркіну — ураджэнцу Каўказа і спадкаемцу традыцый рускай культуры, — той творчы імпульс, які дазволіў яму стаць сапраўдным класікам беларускага музычнага мастацтва, адным з пачынальнікаў нашай нацыянальнай кампазітарскай школы. Акурат 90 гадоў таму, калі М. Чуркін працаваў у Мсціславе настаўнікам і кіраўніком мастацкай самадзейнасці, ён стварыў першую айчынную оперу савецкага часу — "Вызваленне працы". А яшчэ пад уражаннем ад мсціслаўскіх фальклорных скарбаў кампазітар напісаў нямала зіхоткіх самабытных старонак, якія ўвайшлі ў "залаты запас" нашай нацыянальнай музыкі: сімфаньету "Беларускія малюнкі", партытуры для аркестра беларускіх народных інструментаў, камерныя інструментальныя і вакальныя творы, заснаваныя на беларускім фальклорным матэрыяле. Нездарма тамтэйшая Цэнтралізаваная дзіцячая школа мастацтваў носіць імя Мікалая Чуркіна і мае ў сваіх сценах невялікую мемарыяльную экспазіцыю, прысвечаную яму.

Навуковы кіраўнік і заўсёдны каментатар канцэртных праграм фестывалю, музыколаг Вольга Дадзіёмава падкрэслівае, што менавіта падчас працы ў Мсціславе кампазітар атрымаў першыя беларускія ўражанні. Яны і зрабіліся тым падмуркам, на якім потым узрос дыхтоўны "будынак нацыянальнай музычнай школы, заснаванай Мікалаем Чуркіным, яго аднадумцамі і паслядоўнікамі на невычэрпных ідэях фальклярызму, духоўнасці, гуманізму, што з'яўляюцца існасцю беларускага мастацтва і культуры". І зусім лагічна, што імпрэзы сёлетняга фестывалю мастацтваў імя народнага артыста Беларусі М.Чуркіна (творчыя сустрэчы, майстар-класы, мастацкая выстаўка, кірмаш народных умельцаў, канцэрты акадэмічнай і эстраднай музыкі) паяднала ідэя жыватворнай місіі беларускага фальклору. Для нашай прафесійнай культуры, у тым ліку музычнай, беларускі фальклор і дагэтуль застаецца галоўнай і незаменнай крыніцай натхнення, адкуль айчынныя аўтары чэрпаюць для сваіх твораў нацыянальную самасць, пазнавальнасць, унікальную духоўную адметнасць.

Такім чынам, імпрэза "Беларускі фальклор — крыніца натхнення. Да 120-годдзя Рыгора Шырмы" апынулася ў цэнтры свята "Мсціслаў-2012". Прысвячэнне гэтага канцэрта юбілею слыннага фалькларыста, харавога дырыжора, музычнага дзеяча, які рупіўся пра самабытнасць, непаўторнасць беларускага прафесійнага мастацтва, у свой час узначальваў не толькі створаную ім акадэмічную капэлу, а і Саюз кампазітараў БССР, дазволіла ўключыць у праграму разнастайныя творы айчынных аўтараў, прадстаўнікоў розных эпох і стыляў. Музыка гучала ў выкананні даўніх сяброў мсціслаўскай публікі — камерных калектываў, што працуюць у складзе Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі: ансамбляў флейтыстаў (кіраўнік У. Скараходаў), салістаў на драўляных духавых інструментах (кіраўнік І. Брычыкаў), кларнетыстаў (кіраўнік Г. Забара), трубачоў ансамбля "Інтрада" (кіраўнік М. Волкаў), вакальнай суполкі (кіраўнік Н. Міхайлава), струннага квартэта (кіраўнік Т. Вайлапава) і струннага аркестра (ім цяпер кіруе дырыжор П. Вандзілоўскі).

На развітанне са старажытным горадам сталічныя музыканты парадавалі самую шырокую публіку лепшымі песнямі са свайго рэпертуару: фестываль завяршыўся гала-канцэртам "Шансон у Мсціславе". За дырыжорскім пультам быў народны артыст Беларусі, мастацкі кіраўнік аркестра і фестывальнага праекта Міхаіл Фінберг.



*Мсціслаў: старасвецкі спакой.*



*Маэстра Міхаіл Фінберг і навуковы кіраўнік фестывалю Вольга Дадзіёмава ў цэнтры Мсціслава.*

Сярод шматлікіх праектаў Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі фестываль у Мсціславе — адзіны, які прысвечаны выключна беларускай музычнай класіцы ХХ стагоддзя і нават носіць імя аднаго з яе прадстаўнікоў.

# Шчаслівая выпадковасць

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Якаў Зяньковіч — наш зямляк. Аднак творчасць яго не даследавана ў спецыяльнай літаратуры. Артыкулаў пра яго асобу не знойдзеш у беларускіх энцыклапедычных выданнях. Што ж, тым цікавей чытаць навукова-папулярны манаграфічны нарыс "Мастак Якаў Аўксенцьевіч Зяньковіч. 1818 — 1888(?)", напісаны Любоўю Зорынай і выдадзены ў Гродне ТАА "ЮрСаПрынт" накладам 50 экзэмпляраў.

Пачалася даследчая праца Любові Міхайлаўны з выпадковасці. У 1982 годзе ў праваслаўнай царкве вёскі Азёры яна ўбачыла дзве карціны на рэлігійныя сюжэты. Чым жа заінтрыгавала знаходка? Подпісамі на палотнах: "Писал художник Академии Я. Зенькович. 1878 г." Як вядома, падпісаныя работы мастакоў у храмах сустракаюцца рэдка. Ды і сярод беларускіх творцаў, якія вучыліся ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, прозвішча "Зяньковіч" не згадваецца. Любоў Зорына занялася пошукамі звестак пра жывапісца. Звярнулася да рэдкаснага і на той час маладаступнага "Спісу рускіх мастакоў да юбілейнага даведніка Імператарскай Акадэміі мастацтваў" С. Кандакова. Там знайшла кароткую даведку пра Якава Аўксенцьевіча Зянковіча (Зяньковіча) 1818 года нараджэння, які скончыў курс у 1850 г. Значную інфармацыю далі "Памятныя кніжкі Гродзенскай губерні": дзякуючы гэтым выданням даследчыца даведалася, напрыклад, што Я. Зяньковіч з 1860 па 1880 год служыў настаўнікам малявання, чарчэння і чыстапісання ў Гродзенскай мужчынскай гімназіі.

> "Няма сумніву, краязнаўцы і гісторыкі розных рэгіёнаў Беларусі знойдуць у гэтым выданні спажыву для цікавай уласнай працы.

Не варта пераказваць гісторыю далейшых пошукаў, якія ўрэшце завяршыліся для Любові Зорынай выданнем яе ўнікальнай работы і, думаю, вялікай удзячнасцю чытачоў — самых розных, але паяднаных у сваёй неабыякавасці да гісторыі беларускай культуры і выяўленчага мастацтва. Важна звярнуць увагу на тое, што сціплая на першы погляд кніжачка грунтуецца на салідным падмурку даследаваных дакументаў, навуковых работ, літаратурных крыніц. (Ёсць у тым ліку і спасылка на кнігі беларускага мастацтвазнаўцы Леаніда Дробава, які аднойчы згадвае імя гродзенскага выкладчыка, "выхаванца Пецярбургскай акадэміі, потым яе пенсіянера" Зяньковіча, праўда, чамусьці з ініцыялам "І" — мабыць, гэта проста карэктарская памылка).

Любові Зорынай удалося скласці спіс асноўных дат жыцця Якава Зяньковіча, а пералік яго жывапісных твораў дапоўніць некалькімі каляровымі рэпрадукцыямі (першая старонка вокладкі аздоблена архіўным фотаздымкам Гродзенскай класічнай гімназіі пачатку ХХ ст., на апошняй старонцы змешчаны подпіс героя гэтага нарыса). Няма сумніву, краязнаўцы і гісторыкі розных рэгіёнаў Беларусі знойдуць у гэтым выданні спажыву для цікавай уласнай працы. Мяркуйце самі — вось некалькі фактаў: Якаў Зяньковіч быў ахрышчаны 22 сакавіка (3 красавіка) 1818 г. у Свята-тацкай царкве Аршанскага павета Магілёўскай губерні; 1854 г. — настаўнік малявання, чарчэння і чыстапісання ў Лепельскім павятовым дваранскім вучылішчы; узнагароджаны медалём "В память Восточной (Крымской) войны 1853 — 1856 годов"; 10 красавіка 1858 г. пераведзены ў Полацкае павятовае дваранскае вучылішча, а праз два гады — у Гродзенскую гімназію; 15 сакавіка 1866 г. яго ўзводзяць у тытулярныя саветнікі, узнагароджваюць медалём "За подавление польского мятежа"... Дата і месца смерці мастака застаецца пад пытаннем. Як мяркуе аўтар нарыса, здарылася гэта ў Вільні ў 1888 годзе.

> "Сціплая на першы погляд кніжачка грунтуецца на салідным падмурку даследаваных дакументаў, навуковых работ, літаратурных крыніц.

У ліку твораў жывапісца, згаданых даследчыцай, — "Партрэт Даўкантаса" з надпісам "1850 r. S. Pet. Burg malewal J. Zienkiewicz", таксама падпісаны папольску "Партрэт біскупа Валанчуса" (абодва знаходзяцца ў Літве); "Святы Ёзафат Кунцэвіч" (знаходзіцца ў гродзенскім фарным касцёле); "Партрэт Аляксандра ІІ", "Хрыстос, які благаслаўляе дзяцей" (абодва палотны знаходзіліся ў актавай зале Гродзенскай гімназіі, далейшы іх лёс не высветлены). Пагадзіцеся, нават гэтыя некалькі назваў ды і фактаў біяграфіі сведчаць пра талерантнасць і ні з чым не параўнальны, унікальны, памяркоўны беларускі менталітэт Якава Зяньковіча.

# Жнівень у Давыд-Гарадку

## Эсэ-хроніка

Георгій МАРЧУК

### ДАРОГА

Нарэшце выправіліся на радзіму: я, мая жонка, мая дачка і ўнучка Маруся, якая ехала на Палессе ўпершыню.

На пачатку новага тысячагоддзя я напісаў свае "Давыд-Гарадоцкія каноны", год таму малады рэжысёр Аляксандра Шпартава зняла на іх аснове мастацка-дакументальны фільм, і вось гэты фільм мы і вязём на прэм'еру ў родны горад.

У хаце сястры не спіць яе чаловек і яе маці — мая цётка, васьмідзесяцігадовая Оля, якая і даглядала мяне, калі я ў дванаццацігадовым узросце застаўся сіратой. "Слава табе Божа, мы ужо думалі, шчо я й помру, не зобачыўшы цабе, Жорык". Для цёткі я, шасцідзесяціпяцігадовы, па-ранейшаму Жорык. Надоўга так стаімо на ганку ў абдымках. Мае рукі гладзяць яе худыя плечы і прыгорбленую ад працы спіну, на якой можна палічыць пазванкі. А шчо зробіш. Гады, гады. Усыхае цела ды твар жаўцее. Але ж вочы паранейшаму не губляюць прагі цікаўнасці. Яны, вочы, гоняць ад сябе жах смерці. "А я, Жорык, дык і не баюся памерці, як у маладыя гады. Не… спакойна. Што ўжо Бог адмераў".

### НОЧ

— У нас лямпачку на стаўбе тушаць а палове другой. Па ўсяму гарадку толькі там-сям застаецца свет, — папярэджвае нас Таня.

Не спіцца. Цемра падобная на колер галавешкі. Ні гуку, ні шораху. Хоць бы дождж. Весялей було б. Так тут у нас заўсёды. У горадзе як… ён не заціхае і ўначы. А тут — як у космасе. Нябачны ўладар энергетыкі патушыў лямпачку на слупе і хоць стой, хоць прыгай. Круцішся. То на адзін бок, то на другі. Не ідзе, халера, сон, а пад раніцу, калі адным вокам прыснулі, певень суседа ўжо кукарэкае, будзіць і кур сваіх, і нас. Каб сказаць, што першая ноч жахлівая, дык не. Хутчэй за ўсё яна таямніча-казачная. Калі ты чакаеш, шчо нешта па-за рэальнасцю дзеецца. Можа, лятаюць цені продкаў? Ці ідзе нейкі сігнал ад іх? А можа, нам так і падаецца. Мы, гарадскія жыхары, не прывыклі да татальнага начнога спакою, калі нават конікі не цвіркочуць. Супакойваю сябе, шчо ў наступнай ночы сон будзе больш спакойны, тым больш шчо плануем закацiць хоць і вузкаму колу сваякоў ды знаёмых банкет пасля прэм'еры. Бакалы ж шампанскага дапамогуць сну.

Будуць яшчэ зазовіны да сваякоў, каб і ў їхняй хаце пасядзець. Аж сорам, дванаццаць гадоў не сустракаліся. Ат, яшчэ й падушкі з натуральным пухам высокія Таня дала. Галава высока ляжыць. Але назаўтра прылаўчымся і ўсэ будзэ гарно, як любіць казаць мой сусед па вуліцы бабыль Вася. Бог не даў яму сям'і.

— Але глядзіць сябе як пан, — кажа мне цётка Оля, — гладкі такі, культурны, заўсёды ў чыстай сарочцы ходзіць.

З Васем яшчэ сустрэнемся, бо з раніцы планую з унучкай пайсці на Аселіцу, квартал Гарадка, дзе я нарадзіўся і пражыў поўных дванаццаць гадоў.

— А ці перахрысціліся наноч? — раніцай спытала цётка Оля.

— Цяпер яна занно перад ядою моліцца, — кажа нам яе дачка.

Адказваю ім, шчо на ноч перахрысціліся.

— Той добрэ.

Ласкава абняла сонейка вуліцу нашу і ўвесь Гарадок. Шчэ няма духоты. Збіраемся з Марусяй на Аселіцу.

### РОДНАЯ ВУЛІЦА

Яна сустрэла нас новым цагляным будынкам — маліцвенным домам баптыстаў з гатычным разрэзам вокнаў і вялікім пяньком ад спілаванай ліпы ля Дома культуры, былога касцёла. На вуліцы, акрамя адной хаціны, новых пабудоў няма. Уся як у маім юнацтве, тыя ж яміны ды калдобіны — у гарадку заасфальтаваныя толькі цэнтральныя вуліцы і, здаецца, тыя ж самыя на платах вераб'і ды ля травы плiскі. Не чутно толькі горліц. Мо зніклі ці рана так не гарлычуць. Бязлюдно. Дзіва шчо. Каму трэбо — той на службе, нехто на сотках, а нехто ў гародзе. Паўсюдна на самай маленькай плошчы Аселіцы сучасныя, вялікія хаты, вокны з еўрапакетаў, круглыя тарэлкі антэн тэлевізійных. Гукаю жанчыну, якая стаіць на ганку дома маёй ужо траюраднай сястры Тасі, яе маці Ганна даводзілася стрыечнай сястрой маёй маці. Карацей: Тасін дзед і мая баба — родныя брат і сястра.

Пытаюся, а ці дома Тася Фёдараўна. Жанчына мяне папраўляе — Тася Васільеўна. Праз хвіліну з форткі на вуліцу выходзіць у фартушку Тася. Ёй семдзесят, а на від, дзякаваць Богу, мо толькі пяцьдзясят і дасі. Па-ранейшаму жвавая, энергічная, абаяльная.

— Божа мой, Жора?! Так і знала, так і знала, — такімі ўсхваляванымі словамі вітае мяне, абдымаючы.

— Вось мая Маруся, унучка, — кажу я.

— Назвалі як тваю маці. Дай жа я цябе абдыму, харошая мая.

— Маруся, сфатаграфіруй нас.

— Не, не… я не для фота адзета, — пярэчыць Тася. — У мяне ў хаце рамонт. На колькі дзён прыехалі?

— На тры.

— Мало. Зробі так, каб хоць час, другі побуў у мяне.

— Буду, — адказваю я і запрашаю яе на прэм'еру фільма.

— Буду, — абяцае і Тася.

Крочым далей. У канцы Аселіцы, на раздарожжы весь у сонечных промнях як ахоўнік хрысціянства, стаіць сасновы крыж, абнесены нізенькім штакетнікам. З верху крыжа да штакетніка цягнуцца каляровыя ленты — гэта ўжо новая традыцыя, як на вянку ў дзяўчынак з Украіны. І так яны, гэтыя стужкі, пералівающа ў сонечных промнях, нібы вясёлка з неба спусцілася. Ля калодзежа, якому мо семдзесят гадоў, стаіць яшчэ адзін мой сусед Коля, бярэ ваду.

— Жора. Я цябе пазнаў. Прывет. Я тобе перайду з поўным вядром. На ўдачу. Калодзеж той самы, стары ўжо, вядро мяняем, а журавель стары і дубовая рогаціца мо старэй за цябе.

— Коля, скажы Васі, шчо сто грам за прыезд вып'ем.

— Ото красота. Мане, Жора, у Пінску вэсь живот парэзалі. Казалі, колькі працягнеш пасля аперацыі, дык малі Бога. О шчо со мной було. Але ж грам сто пяцьдзясят магу прыняць.

На тым і развітваемся. Каля нашага калодзежа стаіць хата і маёй другой стрыечнай сястры Лены. Ведаю, шчо вона і яе чоловек на рабоце. Рухаемся да чайной, ці цяпер кажуць рэстарана, на сустрэчу з мэрам гарадка Валодзем Галавачом, будзем дамаўляцца наконт банкета.

Мікалаевіч пайшоў на кухню да кухараў, а мы з Марусяй рушылі да Гарыні. Ёй вельмі хочацца павудзіць рыбу, як вудзіў у дзяцінстве яе дзед. Напачатку амылі вадой гарынскай твары. Нанізалі галушачкі з батона на кручок і закінулі… і шчо б вы думалі, праз пяць мінутак клюнула. Хватка засталася, але рука не прынаравілася да чужой вудачкі. Аднак яшчэ праз некалькі мінут усё ж падманулі адну з гаспадынь ракі і выхапілі з вады маленькую — з палец — верхаводку. Я вызваліў яе ад кручка, узяў яе, трапяткую, і прытуліў да далоні. Мне падалося, што рыбінка, напалохаўшыся, зацікаўленым вокам паглядзела на мяне, як малое дзіця. Пацалаваў я яе за смеласць у срэбны жывоцік і выпусціў назад у раку. Унучка здзівілася:



— Нам жа не паверацъ, што мы паймалі.

— Паверацъ. Хаця трэба було чыкнуць на фоцік, не здагадаліся. Прыйдзе калі час — будзе яшчэ раз.

— Ай, давай павудзім яшчэ.

— Дык збірацца ж трэба на прэм'еру. Сарочку пагладзіць ды брюкі, ды туфлі наваксаваць.

Унучка згаджаецца. Вельмі шчаслівыя, з вудамі мы вяртаемся да хаты Тані. Да прэм'еры застаецца яшчэ гадзіна паўтары.

### ПРЭМ'ЕРА

Зала паўнюткая. Яшчэ чалавек трыццаць сядзяць ля дзвярэй. Мэр Галавач загадзя даў каманду хлебазаводу выпячы святочны каравай. Пад музыку баяна жанчыны ў беларускіх строях у прысутнасці нашых родных сустрэлі нас хлебам-соллю. А яшчэ шчымлівая вітальная песня. Ледзь стрымалі слёзы, ад цеплыні землякоў, ад роднасці, павагі… Такая, браце, атмасфера выпадае раз на дзесяць гадоў. Паўтарыць ой як цяжка. Запусцілі фільм. Можа, упершыню гарадчукі як бы збоку глядзелі, як рэжысёр і аўтар апавядаюць пра іх штодзённае жыццё, побыт, працу, веру, каханне. З дзесяці канонаў рэжысёр выбраў пакуль чатыры: "Канон агароду", "Канон Богу", "Канон Гарыні" і "Канон маці". У благадатнай цішы і замілаванасці яны далучыліся да звычайнага, якое рэжысёр змагла ўзняць да вышынь філасофскага асэнсавання жыцця чалавека на яго зямлі. Пасля прагляду паўза, у якой, здаецца, лётаюць думкі і эмоцыі ўдзячных гледачоў. Коратка сфармуляваў свае апінія да фільма намеснік мэра Кавалец:

— Мяне і ўсіх, каго апытваў, фільм патрэс і даў новы магутны духоўны імпульс, падмацаваў аптымізм і прагу жыцця. Пасля прагляду немажліва гаварыць, трэбо памаўчаць, прыгадаць і сваё жыццё, і сваіх продкаў.

А вось што пасля паведала нам Тася, праўда яе самой на экране не было, знялі толькі яе маці, цётку Ганку.

— Нас з маёй сястрой Оляй прывёз да школы № 1 зяць. Прыехаў, каб забраць. Дык паверыш, не хацелася ехаць. Пайшлі мы з сястрою праз мост, каля Царкоўнай гары пешкі. Пастаялі на масту і зусім, здаецца, па-другому глянулі на ваду. І гаманілі, гаманілі… Божа, як жа нам было хораша на душы, як адчулі мы, што ўсё наўкола такое роднае, блізкае, як хораша любіць і шкадаваць кожнага гарадчука і ўсіх людзей.

### БАНКЕТ

Першае, што сказаў мне мой аднакласнік Іван Свірыдчук, калі пераступіў парог утульнай залы чайной, гэто:

— Ну ты і даў жару. Як на вяселлі. Першы клас.

— Ваня, апошні раз мы з табой за святочным сталом сядзелі аж у 1965 годзе на выпускным у школе. Так шчо маем права сорак пяць бакалаў шампанскага шухнуць за кожны год пасля школы.

Іван толькі ўсміхнуўся. А між тым ён герой. Было тое ў дзясятым класе. Я якраз лячыўся ў санаторыі. Аб гэтым выпадку мо то год толькі таму мне сказала мінская аднакласніца Ларыса. Узімку ў нас такая забаўка — з Царкоўнай гары ляцець уніз на санках ці лыжах да самай ракі. Гэта метраў шэсцьдзясят. Перакацілa адна дзяўчынка да тонкага лёду і правалілася. Іван на каньках катаўся недалёка. Адразу, не клікаючы нікога на помач, кінуўся ратаваць. Было цяжка. Апранутыя па-зімнаму. Ды Іван спрытны. Ён быў добрым спартсменам. Уратаваў. Самога з запаленнем лёгкіх у бальніцы трымалі мо два тыдні. Дык чым не герой наш Іван Андрэевіч. Селі да стала. Памянулі тых, хто не дажыў да гэтай шчаслівай хвіліны. За сталом сваякі, настаўнікі, госці, артысты. Пазней, калі разагрэліся, калі пакацілася свята, я шкадаваў, чаму не запрасіў больш гасцей.

Мэр кажа: "Гэто прыстрэлка. Булі б грошы і жаданне прыязджаць, а такія святы можам хоць кожныя паўгода ладзіць. А то! Мо якую новую прэм'еру ці о, кніжку новую прывязі паказаць". "Вкусно, однако, готовят. Не ожидала, — ціха сказала мне жонка, — опытные повара?"

— Ды не. Маладыя дзяўчаты.

Гарадок як умее працаваць, так і ўмее весяліцца. Вера з Марыйкай натхнялі ўсіх беларускімі, рускімі, украінскімі песнямі, прыпеўкам дык не было канца. Жарылі без перапынку. Не ўдалося мне з гарадчукамі адсвяткаваць сваё вяселле, вяселле дачкі, народзіны ўнучкі, ды ўсё ж шасцідзесяціпяцігоддзе хоць трошкі са спазненнем, а адсвяткавалі на славу, як і марыў. Збегласа ўсё: прэм'ера, цудоўнае надвор'е, цудоўны настрой і цудоўныя людзі.

Недзе пасля апоўначы неахвотна, з прыемнай натомленасцю разыходзіліся. Але ж з калідора зноў вярталіся да стала, бралі па сто грам на пасашок і так некалькі разоў. І зноў спявалі. Калісь я вельмі марыў — прайсці ўвечары вось так па вуліцы гарадка з музыкай. І Бог ажыццявіў маю мару. Надта ж таленавіты баяніст — як унучка сказала, "супер" — пайшоў праводзіць нас па цёмнай вуліцы

ад чайной да бібліятэкі. Гэта нейкі цуд. Калі пад яркімі зорамі гучаць “Прощание славянки”, “Амурские волны” альбо “Ландыши”, “Бывайце здаровы, жывіце багата”.

Унучка Маруся раптам пытае:

— А заўтра такое яшчэ будзе?

— Будзе. Бо тут шчо ні хата, то свой талент.

Развітваючыся, мой Ваня трохі панурыў галаву дый кажа:

— Ой, Васільевіч, багато мы ўжо пражылі. Мне шэсцьдзесят шэсць. Па нашым меркам стары дзед. Ты гэто… там, у Мінску… калі нашых побачыш аднакласнікаў, знаёмых, абязательно прывет перадай і пацалуй, коб не забывалі городок. Мы ўсіх помнім і чакаем.

— Канечне, Ваня. Перадам. — Гучыць пад зорамі музыка баяна. Здаецца, што сам Давыд, заснавальнік гарадка, з памятніка павярнуў галаву, каб паслухаць бадзёрую песню “Маруся раз, два, тры каліна”. Як хораша жыць. Выпадаюць такія мінуты, што сабою спісваюць з тваёй душы ўсё негатыўнае, якое мазоліць свядомасць. Яны ж, гэтыя мінуты, мацуюць светлыя душэўныя сілы.

## У ЛЕНЫ

Хата стрыечнай сястры Лены і яе чоловека Лёні стаіць на старым пляцы нашага продка Якава Калько, у якога было чатыры сыны і адна дачка. Мая баба Насця. Я памятаю, як бурыў старую і як будаваў новую мой хросны, бацька Лёні. У Лены XXI стагоддзе. Плазменны тэлевізар, новая мэбля, камп’ютар, піяніна, тэлевізійная талерка, газ, вада, парнікі, машына, сотавыя тэлефоны ў кожнага і… індыкі. Гэтымі індыкамі нас і здзівілі.

— Ай, думаю, няма мо ў гарадку індыкаў, дык няхай у мяне будуць, — кажа нам Лёня, — за імі наблюдаць адно удовольствие. Малыя індычаняты жывуць з маці сярод агуркоў у парніку. Як зайцы, мяне пазнаюць і бягуць насустрач. А яшчэ кошка акацілася… дык гора. Каму кацянятак аддаць. Я не таплю сляпых ды малых. Шкада. А кошка ў нас вегетарыянка. Есць гуркі, грыбы ды кукурузу. На, о пабач, — і Лёня кінуў кавалак кіяха.

Кошка пачала нетаропка так грызці. Дзіва нейкае. На стале ў гаспадарлівай Лены прысмакі, а галоўнае — пірагі — з яблыкамі ды карыцай. З печы нясуць тамлёную курыцу ды каўбаскі з бульбай,



Калодзеж дзеда і прадзеда.

а да іх жоўтыя памідоры — тут і язвеннік не ўтрымаўся б. Даведаўшыся, што я буду ў Гарадку, трэцяя мая стрыечная сястра Маша з Пінска пасадзіла ў машыну сваю дачку і сваю паўтарагадовую ўнучку — і ў Гарадок. Я люблю малых кацянят, куранятак, а болей люблю малых дзетак. Песень за сталом не спявалі, больш гаманілі пра наш род. Сашка, сын Лены, сядзеў ціха і быў нечым занепакоены. Яму дванаццаць гадкоў, як і маёй Марусі.

— Шчо здарылася, Сашка?

За яго адказала маці:

— Гэто ж дадумаўся. Учора пераплыў сам Гарынь.

— І шчо?

— Я трошкі насварылася, але ж не біла. І бацька, калі ўведаў, насварыўся, але не біў. Сашка даў пры нас слова, шчо больш ніколі таке робіць не будэ без дазволу бацькоў.

Неяк неўпрыкмет сцямнела. Мо з таго, што не гараць на слупах лямпачкі. І вось раптам маленькая ўнучка Машы з Пінска падбегла да мяне са словамі “дзядзя, дзядзя”, папрасілася на рукі. Як гэтыя маленькія ручкі абхапілі мяне за шыю… вось табе і царыца нашае вячэры. Панёс яе аж да форткі. Няхай будзе блаславён свет, які дарує нам працяг нас гэткім дзівам — дзецьмі. Ціха, каб не пабудзіць нашых, улегліся мы спаць. Заўтра ж да царквы на свята.

## СПАС

У жніўні ў Гарадку, як па ўсёй праваслаўнай Беларусі, тры святы. Макавей — 14, Спас — 19 і Успенне — 28 жніўня. На Макавей даводзілася колісь быць, а на Спаса — не. У кошык наклалі груш, яблык, сліў, вінаград. Жанчыны пайшлі ў храм. Якраз сягоння бацькі прынеслі сваіх малых дзетак упершыню да царквы. Каля царкоўнай аграды падышоў хударлявы, як ёг, Іван Яфімавіч, сямідзесяці двух гадоў. Яго я пазнаў адразу. Колісь ён вярнуўся з флоту ў бесказырцы і цельніку, завітаў да нас у клуб ды так і пацягнуўся да самадзейнасці. Цяперака кажа, Жора, усе аркестранты паўміралі, застаўся ён адзін. А маладыя не ідуць, лянуюцца. Пакуль чакалі асвячэння пладоў ды фруктаў, гаманілі.

Раптам пачуўся страшэнны лямант. Гэта дзве цыганкі, амаль аднаго ўзросту, распачалі сварку ды якую, маці родная, так гарлапанілі, шчо мо было чутно ў суседняй весцы Хорск. Яны сварыліся насупраць царкоўнай брамы на тратуары ля парка.

— От так заўсёды. Як у нас свято, воны горлопаняць, — сказаў нехта ўслых.

Адна з іх упала на калені, і скрыжаваўшы рукі на грудзях, нібыта ірвала свае косы і ўсё моцна крычала з надрывам. Людзі ля царквы і каля брамы пачувалі сябе нібыта апляванымі.

— І дзе міліцыя? Свято ж. Тры сотні людзей каля храма і ніводнага міліцыянта.

Знайшоўся адзін высокі гарадчук гадоў пяцідзесяці і прысароміў цыганак. Яны, адышоўшы да бібліятэкі, яшчэ да самага выхаду з царквы свяшчэнніка з пеўчымі, дасылалі адна другой праклёны. Праз хвіліну-другую і гэтая сварка далучылася да гісторыі. Пайшоў вакол царквы з крыжам і квачом у руках свяшчэннік ойцец Грыгорый і пачаў свяціць дары. Тут і Тася знайшла мяне сярод людзей і кажа, шчо цётка Ганна ў царкве і не ведае, шчо ты тут. А мяне чакалі на вуліцы ля кінатэатра “Зара” мае суседзі Вася ды Коля, з якімі абяцаў шахнуць па сто грам за прыезд. Падбеглі да магазіна, купіў я бутэльку гарэлкі і бутэльку шампанскага і кажу: чакайце, хлопцы, ля кінатэатра, я хутка буду.

— Пачакаем, — адказаў спакойна Вася.

— Ай, давай зразу, — прасіў халерык Коля.

Адным словам, людцы мае, я загаварыўся з Ганнай і забыўся на іх. От ёлуп дык ёлуп, сказаў бы хто.

Трэбо було сказаць: пі, хлопцы, без мяне, а я падбягу пазней. Мы ж спяшаемся да Тасі. Да ад’езда застаецца пару гадзін. Цырк, яйбогу. Казала пазней Тася, што Вася з Колем стаялі мо дзве гадзіны, усё чакалі. Во, такія ў мяне надзейныя суседзі. Мало, мало ўсё ж ехаць на тры дні.



Давыд-Гарадок. Царква Казанскай іконы Божай Маці.

## У ТАСІ

Мая траюрадная сястра Тася з роду маёй бабы Калько. Яна рана засталася без чоловека. Ён памёр. І яна, маючы магутную сілу волі, энергічны характар, прыродную хватку гандляра, жаночую абаяльнасць, розум не саступіла “пані лідара” нікому на Аселіцы і ў Гарадку. Нехта ставіцца да яе жыццялюбства, працавітасці з прыхаванай зайздрасцю і насцярогай, а большасць ухваляюць яе нораў і жаданне быць лепшай і незалежнай. Васьмідзесяцівасьмігадовая яе маці, стрыечная сястра маёй маці, цётка Ганна, калі мы ўжо сядзелі вялікай кампаніяй з раднёй за сталом, дала трапную характарыстыку нашаму роду Калько:

— Не толькі гостроносыя. Усе заканчаныя артысты. Цягнуцца да скокаў, песень. Усе паджарыя, культурныя, любяць жартаваць, але без язвы, гадзіну не могуць пражыць, каб не ўсміхнуцца… да таго ж працавітыя і ганарлівыя, аднак па натуры добрыя, але крыўды нікому не даруюць.

Святочны спасаўскі стол у Тасі не горшы за наш з мэрам у чайной. Тут табе і французскае віно, і сёмга, і кавун, і катлеткі давыд-гарадоцкія, і мяса па-французску, і да кавы цукеркі піцерскія, варшаўскія і кіеўскія. На любы густ. І ўсё таке смачнэ, шчо і піць віно не трэбо, усё само просіцца ў рот. Адно слова, сваю марку Тася трымаць умее. У хаце, кажа, не прыбрана, бо ідзе рамонт. Сядзелі ў летняй кухні.

— Побач, Жора, дзеці, унукі, сястра Оля, яе дзеці, усім рады, а ля варот дарагія машыны. Але ж не гэто галоўнае, хоць і гэто трэбо. Добра, шчо збіраемся разом ды дапамагаем адзін аднаму. Ніколі не сварымся, — яна прыгожым жэстам рэзка паправіла свае сівыя валасы.

— Але от паслухай, Жора, шчо було за тыдзень да твойго прыезду, —працягвае яна, калі мы добра пад’елі і смачна закусілі, — ляжу ўвечары, не спіцца, хоць і нагаравалася і так мне раптам захацелася цябе пабачыць, аж страх. Раненько прачнулася… сонека ўстае… яшчэ больш хачу цябе зобачыць. А я ж не знала, шчо едзэш. І тут у пятніцу ля хорткі ты з унучкай стаіш. Аж вачам не паверыла.

— Давайце за наш род, за цябе, Жора, вып’ем шампанскага і зараз мы з сястрою Олей проспяваем тобе любімую песню тваёй маці. Ну, якая ў яе була любімая?

— Можа гэто “Ой, рябина кудрявая”, — кажу я.

— Не. Гэту яна спявала. А любімай была вось гэта.

І яны хораша так, пранікнёна, нібы побач сядзела мая маці і таксама слухала, заспявалі “Ох, ох недаром славится русская красавица”. Я не стрымаўся, заплакаў. Да дочак далучылася і цётка Ганна. Адбылося нешта неверагоднае. Хораша, на поўныя грудзі, спявала васьмідзесяцівасьмігадовая Ганна. У гэтую хвіліну яе твар нібыта рэзка змяніўся, зніклі зморшчыны, вочы яшчэ больш засвяціліся жаночым унутраным святлом. Побач з намі сядзела саракагадовая жанчына! І якой жа асалодай яны спяваюць! І тады я, выцершы слёзы, выдаю экспромтам тост: “Дай Божа, каб у вас ва ўсіх былі слёзы на вачах толькі ад радасці. Салодкія слёзы!” Цётцы Ганне гэто спадабалася. Яшчэ былі песні. Багата песень. Галасістыя мае сваячніцы. А на развітанне Оля выканала і раманс “Эта тёмно-вишнёвая шаль”. Так, усе мы з роду Калько артыстычны, праўду сказала цётка Ганна. На дарогу далі і падарункаў. А Марусі ад бабы Тасі асобны — грашыма. Такая завядзёнка ў Гарадку. Тася ўсё прадугледзіць. Слёзы на развітанні ўжо на вуліцы былі ў яе шчырымі. “Жорык, я ж і выразкі з газетаў, дзе пра цябе пішуць, збіраю і па тэлевізары гляджу. Не думай нішчо. Ты наш, а мы твае. Я цябе моцна люблю”.

## ВЯРТАННЕ

Праляцелі тры дні, як ластаўкі перад вачыма на вуліцы. Нібыта ўсё і спраўдзілася. Праведалі сваіх, хто ў вечнай цішы і цемры чакае на могілках. Таня абяцала сусальным золатам на помніку маёй маці падмаладзіць надпіс. На ўсіх астатніх сціплых помніках-крыжах дзеда, бабы, бацькі тані, цёткі Олены, яе сына Аляксандра надпісы не паблеклі і не асыпалася фарба.

— Два разы, Жора, прыходзім на год да магіл. На Юр’я і на Пакровы. Даглядаем.

Пазваніў мэр Галавач. Пытае, ці патрэбен транспарт, каб давезці да станцыі Гарынь, што кіламетраў пяцьдзясят. Адказваем, што павязе чоловек Тані на сваёй старэнькай “Волге”. Вярнуліся мы ад Тасі, а на парозе сям’я майго стрыечнага брата Аляксея, які быў гэтыя дні заняты працай — здаваў агуркі Ахмеду ў Альшанах. Прынеслі нам для знаёмства самае малое дзіцятка з нашага роду па дзеду Асколкаў. Неяк вельмі боязна такую, пяцімесячную, браць на рукі. Пацалаваў я ёй ножанькі і парадаваўся. Жонка кажа:

— Только не заплачь. Ты тут стал слаб на слёзы.

Дык, адказваю ёй, слёзы ж радасці. Бывай, мая малая і вялікая радзіма, адсюль пачынаецца і мацнее пачуццё патрыятызму. Хочацца да цябе прыязджаць часцей, канечне, не адзін раз на дванаццаць гадоў. Яшчэ ж будуць стаяць ля кінатэатра “Зара” суседзі Вася і Коля з бутэлькай гарэлкі і бутэлькай шампанскага. Таня зноў будзе тэлефанаваць і ўшчуваць: “Колі ўжэ прыедзэш?” Лена будзэ пякці пірогі, Тася глядзець на Месяц, мэр будзе дамагацца, каб гарэлі лямпачкі на слупах у вуліцах. Але лямпачкам цяжка спрачацца са святлом душы кожнага давыдгарадчука.

Бывай, мой родны кут. Да сустрэчы. І табе, дарагі чытач, пажадаю таго, шчо я жадаю сваім землякам. Шануйце радзіму, не давайце яе ў крыўду нікому. Няхай у вас будуць часцей слёзы толькі ад радасці.

*У тэксце часткова захавана мясцовая гаворка.

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

Слова краязнаўцы



**Кацярына АЛЕКСАНДРОВІЧ, старшы навуковы супрацоўнік Германавіцкага музея культуры і побыту (Шаркоўшчынскі раён), дзеліцца сваімі думкамі наконт падыходаў да вывучэння роднага краю:**

— З чаго ж пачаць вывучэнне? З чытання апублікаваных работ гісторыкаў? З паходу ў музей? З расповедаў нашых бабуль і дзядуль? На мой погляд, усё пачынаецца з жадання ведаць. А без дбайнай, глыбокай любові да ўсяго, што нас акружае, не бывае адкрыццяў. Калі ў мясцовасці, дзе жыве чалавек, ён бачыць толькі пасрэднае, не знаходзіць нічога прывабнага, то слова "краязнаўства" так і застанецца для яго пустым гукам. Жаданне ведаць узнікае са здзіўлення, усведамлення непаўторнасці і ўнікальнасці таго, з чым штодня сутыкаешся.

Не бывае вёсак і гарадоў, забытых Богам. Яны — забытыя людзьмі! І часцей за ўсё тымі, хто ў іх жыве. Чамусьці прынята лічыць, што краязнаўства — гэта нешта маштабнае, што яно патрабуе ад чалавека шырокіх ведаў і неймаверных высілкаў. На самай справе пачатковай шырокай адукаванасці тут і не патрэбна. Неабходныя навуковыя веды краязнаўца атрымлівае толькі ў працэсе працы, па меры ўзнікнення неабходнасці. І цяжкасцей тут не прадбачыцца — крыніц інфармацыі мноства. Трэба толькі навучыцца з імі працаваць. А атрыманне ведаў — адзін з найцікавейшых працэсаў. Усё астатняе залежыць толькі ад мэты, задачы, якую чалавек ставіць перад сабой.

Напрамкаў краязнаўства шмат. Яно можа быць літаратурным, геаграфічным, гістарычным, этнаграфічным, царкоўным, прыродазнаўчым. Гісторыя стварэння або ўзнікнення чаго б там ні было — вось прадмет даследавання энтузіяста. І для яго не існуе рэчаў пасрэдных і празаічных. Тысячы пройдуць міма і нічога не заўважаць, а ўсяго толькі і трэба — зірнуць крыху больш уважліва, чуйна прыслухацца, даверыцца сваім адчуванням. Вялікае, вядома ж, складаецца з дробязяў. Душа краю, дзе ты жывеш, захоўваецца ў прыродзе, архітэктуры, абрадах, гісторыі. Варта толькі ўважліва прыглядзецца да ўсяго гэтага!

## НАБЫЛІ СТАТУС

Выстаўка "Экспануецца ўпершыню" ладзілася нядаўна ў Ганцавіцкім раённым краязнаўчым музеі. Наведвальнікі змаглі пазнаёміцца з новымі паступленнямі. Летась фонды музея папоўніліся больш як на 230 прадметаў. Багацейшымі сталі калекцыі рэчаў, фотаздымкаў, дакументаў, нумізматыкі. Дэманстраваліся аўсвайсы (пасведчанні асобы) часу Вялікай Айчыннай вайны, рэйхсмаркі 1940 — 1945 гадоў, фотаздымкі жыхароў тутэйшых мясцін пачатку XX стагоддзя, кіраўнікоў Ганцавіцкага раёна 1970 — 1980 гадоў, рукапісы вядомых творцаў Віктара Гардзея і Міколы Купрэева, калекцыя ручнікоў знакамітых майстрых Ніны Казак, Зоі Зарэцкай, Яўгеніі Станкевіч і Вольгі Дзічко, прадметы побыту і іншыя цікавыя знаходкі. Дарэчы, многія матэрыялы набылі статус музейных прадметаў толькі дзякуючы актыўнаму ўдзелу гараджан і жыхароў раёна.

**Бажэна СТРОК**

Музейны ўнікат

# Рарытэты Салігоршчыны

Салігорскі краязнаўчы музей адметны тым, што яго памяшканне падобнае да штрэкаў у шахце: столя нізкая, аранжава-чырвоны колер закругленых бакавых вітрын нагадвае пра каменную соль.

**Дар'я ШОЦІК, фота аўтара**

Сярод унікальных экспанатаў музея — рарытэтныя "Церковные ведомости" (1903). Гэты штотыднёвы часопіс выдаваўся ў Сінадальнай друкарні (пры Святым Кіруючым Сінодзе) у Санкт-Пецярбургу і, паводле галоўнага захавальніка фондаў Салігорскага краязнаўчага музея Алены Міхнавец, змяшчаў самыя розныя раздзелы: рэлігія, медыцына, прамовы і павучанні святароў, царкоўная гісторыя, розныя аспекты з жыцця духоўна-асветніцкіх устаноў.

Магчыма, такія царкоўныя выданні, галоўнай мэтай якіх было дакладнае азнаямленне з усімі духоўна-царкоўнымі матэрыяламі, сталі добрым падмуркам для разумення царкоўных канонаў. Трэба заўважыць, што невялікую частку часопіса складаў агляд багаслоўнай літаратуры. Рэдактарам "Ведомостей" з 1888 па 1906 год быў протаіерэй, старшыня вучэбнага камітэта пры Святым Сінодзе Пётр Смірноў.

У салігорскім музеі асаблівая ўвага надаецца калекцыі "Дакументы", дзе нямала цікавых гістарычных выданняў. Напрыклад, у "Кнізе запісаў" на трохстах старонках змешчаны ўсе дадзеныя пра людзей, якія ўступалі ў шлюб (з 1857 па 1881 гг.).

У пачатку "Брачного обыска" змяшчаецца інфармацыя пра саслоўную прыналежнасць жаніха і нявесты, іх месцы жыхарства, род заняткаў, узрост. Вынікі праведзенага шлюбнага вобыску занатоўваліся царкоўнымі служкамі. Кніга прашнуравана, на яе форзацы пастаўлена пячатка, якая мае выяву двухгаловага арла з каронай і надпіс: "Минский консисторий".

Вялікую цікавасць у наведвальнікаў выклікае выстаўка з фондаў музея "Гісторыя аднаго прадмета", дзе прадстаўлены ўнікальны экспанат — Ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР № 173.

— Гэты ордэн быў уручаны нашаму земляку Трафіму Рудэні ў 1930 годзе, — распавяла Алена Міхнавец. — Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны Трафім Яўхімавіч адзінаццаць год працаваў старшынёй калгаса ў Старобінскім раёне Мінскай вобласці. З 1941-га ваяваў у партызанскім атрадзе пад кіраўніцтвам Героя Савецкага Саюза Васіля Каржа. Ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга ўручылі яму за ахову дзяржаўнай савецка-польскай мяжы.


ОБЫСКЪ БРАЧНЫЙ.

*"Брачный обыск" 1857 — 1881 гг.*

Імя ў гісторыі

# Невядомы генерал

Знамянальная падзея нядаўна адбылася ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь: тут адкрылася выстаўка "Сяргей Вайцахоўскі. Генерал двух войскаў". Экспазіцыя арганізавана, прытым упершыню, сумесна з Пасольствамі Чэшскай Рэспублікі і Славацкай Рэспублікі ў нашай краіне.

**Раіса МАРЧУК, фота Кастуся Дробава**

Імя генерала Сяргея Вайцахоўскага (1883 — 1951) многім, за выключэннем невялікага кола гісторыкаў, у сілу розных акалічнасцей было невядома. І гэтая гістарычная несправядлівасць нарэшце выпраўлена.

— Сяргей Вайцахоўскі — унікальная асоба, якой могуць ганарыцца як Чэхія, Славакія, так і Беларусь, — падкрэсліў падчас адкрыцця выстаўкі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Іржы Карас. — Гэта чалавек, які не ішоў на здзелку з сумленнем і заставаўся верным сваім прынцыпам да канца жыцця.

Выдатны лёс, высокія ўзнагароды, рэгаліі і званні на радзіме і на службе ў чэхаславацкай арміі, якімі генерал быў ушанаваны пры жыцці і пасля смерці, трагічная гібель у ссылцы — уся драматычная стужка яго жыцця разгорнута на выстаўцы. Экспазіцыя якраз і дае адказ на пытанне "Хто такі генерал Вайцахоўскі?"

— Існуюць асобы, якія належаць некальным нацыям, напрыклад, сусветна вядомыя мастакі, — зазначыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Марыян Сэрватка. — Але каб генерал служыў у дзвюх арміях — такое бывае вельмі рэдка. Такім чынам, ліквідавана яшчэ адна "белая" пляма ў нашай гісторыі.

Сяргей Мікалаевіч нарадзіўся ў 1883 годзе ў дваранскай сям'і ў Віцебску. Вучыўся ў рэальным вучылішчы, з адзнакай скончыў артылерыйскае вучылішча ў Санкт-Пецярбургу, працягнуў навучанне ў Акадэміі Генеральнага штаба. У 1913 годзе скончыў паветраплавальную школу. Служыў на Каўказе, Далёкім Усходзе і ў польскім горадзе Беластоку, у Маскоўскай ваеннай акрузе.

З самага пачатку Першай сусветнай вайны праявіў сябе адважным і адукаваным афіцэрам. У 1917-м прызначаны начальнікам штаба 1-й чэхаславацкай стралковай дывізіі. Кастрычніцкі пераварот 1917 года не прыняў і працягнуў службу ў чэхаславацкім легіёне. Быў вярхоўнакамандуючым узброенымі сіламі на Усходзе, потым — камандуючым Далёкаўсходняй арміяй. У кастрычніку 1918-га рашэннем Чэхаславацкага нацыянальнага савета 35-гадовы Вайцахоўскі ўзве-дзены ў генералы. Праз тры гады, калі генерал знаходзіўся ў эміграцыі, чэхаславацкі ўрад запрасіў яго на ваенную службу. Сяргей Мікалаевіч атрымаў чэхаславацкае грамадзянства.




*Падчас адкрыцця выстаўкі.*

Падчас Мюнхенскага крызісу 1938 года выступаў актыўным прыхільнікам узброенага супрацьстаяння германскай агрэсіі, што паслужыла нагодай для яго адстаўкі. У 1943-м не прыняў прапанову немцаў узначаліць Рускую вызваленчую армію замест генерала Уласава. У маі 1945-га арыштаваны органамі савецкай контрразведкі і асуджаны на дзесяць гадоў зняволення. Памёр у красавіку 1951 года. У 1996-м рэабілітаваны, а ў наступным годзе ўказам прэзідэнта Чэхіі Вацлава Гавела ўганараваны вышэйшай узнагародай Чэшскай Рэспублікі — ордэнам Белага Льва III ступені.

— У Чэхіі і Славакіі імя Сяргея Вайцахоўскага больш вядомае, чым на яго радзіме — у Беларусі, — зазначыў куратар выстаўкі Аляксандр Радаеў. — У Сяргея Мікалаевіча — самая бліскучая кар'ера рускага афіцэра за мяжой пасля рэвалюцыі: у іерархіі чэхаславацкай арміі ён быў чацвёртым. Толькі паходжанне не дазволіла яму падняцца вышэй. У працэсе падрыхтоўкі выстаўкі мы наладзілі стасункі з прамымі нашчадкамі генерала, якія жывуць у ЗША. Гэта тры яго ўнучкі і два ўнукі. Сёння мы гаворым праўду пра генерала Вайцахоўскага.



*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Іржы Карас.*

Радзіннае

# Захоўвае дух вёскі

Колькасць “беларускіх дамкоў у вёсцы” ў апошні час значна вырасла: сёлета свае паслугі прапаноўвала больш як 1800 аграэкасядзіб. Адпачынак на ўлонні прыроды стаў вельмі паспяховай і запатрабаванай галіной нашага турызму: у вёску кіруюцца як беларусы, так і замежныя госці.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

Шмат хто спяшаецца і ў Валодзькава Глыбоцкага раёна на адпачынак да Юліі Букі, гаспадарка якой перамагла ў рэспубліканскім конкурсе “Найлепшая аграэкасядзіба 2010 года” ў намінацыі “Зялёная сядзіба”. Дарэчы, пачынала Юлія сваю нялёгкую справу, можна сказаць, з нуля і крэдытаў ні ў кога не брала.

— Мая сядзіба — гэта звычайная вёска, дзе я выкупіла некалькі дамоў, — распавяла Юлія. — Давялося іх крыху падправіць і дабавіць “цывілізацыі”. Хаця заўсёды шкада руйнаваць тое, што ўжо ёсць у хатах. Таму па магчымасці стараемся захаваць стыль дамоў, бо мы запрашаем людзей не адпачываць, а пажыць, дакладней, акунуцца ў сапраўднае вясковае жыццё, дзесьці нават патрыярхальнае. Госці бачаць, што ў побыце тутэйшых насельнікаў шмат што захавалася з сямідзясятых, васьмідзясятых гадоў (калі я была маленькаю, бачыла многае з гэтага). Адных гэтая акалічнасць вельмі здзіўляе, а другіх — прываблівае і захапляе.

Юлія нарадзілася тут і вярнулася на Глыбоччыну пасля заканчэння Віцебскага ветэрынарнага інстытута. Потым выйшла замуж, у сям’і з’явілася дзіця, а жыць не было дзе. У вёсцы ад бацькоў засталася хата. Вырашылі ў ёй і пасяліцца. Потым куплялі хаты па суседстве, каб заняцца агратурызмам. А яшчэ не хацелі, каб у іх засяліліся “чужынцы”. Ужо тады, напрыканцы мінулага стагоддзя, стала модным прыязджаць з вясёлай кампаніяй з горада на выхадныя.


Аўтэнтычная хата прываблівае і захапляе турыстаў.

— Мне вельмі не падабалася, што нехта “чужы” будзе гаспадарыць на зямлі маіх продкаў, — горача зазначае гаспадыня “Роднага кутка”. — Сёння я жыву ў хаце, якая пабудавана больш як сто гадоў таму. Гэта дом маёй маці, яе дзеда. Па суседстве — хата старой пабудовы, якую ў 50-я гады перавезлі з хутара. Выкупіла будыніну ў бабулі, якая з’ехала жыць да дзяцей у горад. Зразумела, што патрэбна было яе падрамантаваць. Захавалі амаль усю мэблю. Госці заўсёды з цікавасцю разглядаюць шафу, зробленую без адзінага цвіка!

Юлія разам з дзецьмі — малодшым сынам Данатам і дачкою Алесяй — збірае аўтэнтычныя рэчы. Навошта ім гэта? І так штодзённых клопатаў хапае, толькі паспявай: адны госці ад’язджаюць — другія ўжо на парозе.

— Не хацелася б, каб гэтыя каштоўнасці бясследна зніклі, — тлумачыць Юлія. — Ёсць у нас дыван Язэпа Драздовіча. Купілі яго ў бабулі з суседняй вёскі. Ложкі гасцей засцілаем саматканымі дыванамі, якія і сёння ткуць мясцовыя майстрыхі. Маем і калаўроты. А яшчэ дзіўную рэч пад назваю “арфа” — гэта спецыяльная прылада для адсейвання смецця, прасейвання зерня і падзелу яго на буйнейшае і драбнейшае. І сёння вяскоўцы карыстаюцца арфай, але ўжо ўдасканалілі яе: прыладзілі для паскарэння працэсу маторчык.


Гаспадыня “Роднага кута” Юлія Бука.

У пакоях шмат вышыванак. На жаль, многія рэчы не можам у хатах павесіць ці паставіць, бо госці бываюць розныя. Аднойчы хтосьці скраў старадаўнюю ікону, знік і тканы дыван з ложка.

Неяк купіла Юлія ў адной бабулі адмысловыя дыванкі на падлогу, вытканыя з нітак і... саломы. Ніхто і не здагадваецца, што гэта за палавічок. Магчыма, калісьці ткалі іх так з-за беднасці — ніткі каштавалі дорага, а саломы ў гаспадарцы звычайна хапала.

— Бачыла на фотаздымках, як унутры катэджа расстаўлены, дзе трэба і не трэба, калаўроты, іншыя прылады сялянскай працы — маўляў, модна, — зазначае гаспадыня аграсядзібы. — Мне ж усё гэта падаецца ненатуральным. Мару стварыць этнаграфічны кут, але пакуль няма дастатковых сродкаў.

Беларускамоўным турыстам гаспадыня прадстаўляе скідкі на пражыванне ў памеры 20 працэнтаў.

— Я не патрабую, каб госці размаўлялі са мною толькі па-беларуску, — тлумачыць Юлія. — Але паважаю тых, хто трымаецца роднай мовы, і ўдзячна тым, хто паважае мяне за тое, што я размаўляю па-беларуску.

“Родны кут” мае пастаянных кліентаў, з якімі вельмі проста, бо яны ведаюць, куды едуць і што іх чакае. Гэта нашмат спрашчае працу гаспадарам. Не трэба тлумачыць, што гэта не санаторый, не “еўрарамонт”, а асобнае жыллё ў звычайнай вясковай хаце.

— У нас былі такія госці, якія казалі: шкада, што нам трэба плаціць, каб паглядзець, як жылі нашы бацькі, — заўважае Юлія. — Улетку прыязджалі палякі — амаль 20 дзяцей і дзесяць дарослых. Пасля адпачынку хлопчыкі і дзяўчынкі напісалі ў інтэрнэце, што так прыемна, як адпачывалі ў нас, яны нідзе і ніколі не бавілі час. Палякі з’ездзілі на экскурсію ў Полацк і Глыбокае, пакупаліся ў нашым возеры.

Мне таксама вельмі спадабалася ў Юліі, якая захоўвае дух сваёй вёскі, як можа і разумее, дбае пра яе аўтэнтыку. Толькі хацелася б, каб мясцовыя ўлады паклапаціліся пра лепшую дарогу да Валодзькава.

Далёкіяіблізкіясуродзічы

# «Я ўсё сказаў...»

Некалькі гадоў таму пазваніў у Бешанковічы, што на Віцебшчыне. Спярша — у аддзел культуры райвыканкама, затым — у мясцовы краязнаўчы музей. Хацеў быў запытацца, што збіраюцца зрабіць у раёне дзеля ўшанавання памяці пра мастака-земляка Гаўрыіла Глікмана, які нарадзіўся ў Бешанковічах 14 ліпеня 1913 года, а памёр не так і даўно — у 2003-м, не дажыўшы некалькі месяцаў да свайго 90-годдзя. “Юдовіна ведаем, Ткачэнку ведаем, а вось Глікмана…” — з некаторым непаразуменнем успрынялі мой зварот. Зразумела, што на далейшыя роспыты бессэнсоўна было час губляць.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

І ўсё ж на постсавецкай прасторы пра скульптара і мастака-графіка Гаўрыіла Давыдавіча, які ў 1980 годзе эміграваў з Ленінграда ў Мюнхен, помняць. Хаця і выстаўка, напалову афіцыйная, была пры жыцці ўсяго адна. У Ленінградскім аддзяленні Саюза кампазітараў. Тады ўлады “ўсіх сабак” на Гаўрыіла Глікмана павесілі. “Касмапаліт” было самым мяккім словам, кінутым у адрас безабароннага мастака. Канечне ж, сам падбор герояў скульптуры і жывапісу, графікі Глікмана выклікаў раздражненне афіцыйных асоб: Пастэрнак, Еўтушэнка, Ахматава, Цвятаева, Міхаэлс, Кафка — вось абраныя ўраджэнцам Бешанковіч персанажы сусветнага Храма Мастацтва. Відаць, агрэсіўна настроеных афіцыйных працэнзентаў і ацэншчыкі жыцця адразу выцягвалі з цянётаў памяці і такія радкі Ахматавай: “И если зажмут мой измученный рот, / которым кричит стомильонный народ...”

У Санкт-Пецярбургскім музеі Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага знаходзіцца цэлая галерэя глікманаўскіх работ. У прыватнасці, аўталітаграфія “Ф. М. Дастаеўскі” (створана ў 1969 годзе), партрэт “Ф. М. Дастаеўскі — аўтар «Бесаў»” (таксама 1969), карціна “Ф. М. Дастаеўскі” (1966). Высокую адзнаку гэтым работам даў у свой час кампазітар Дзмітрый Шастаковіч.

Помняць ураджэнца Беларусі і ў Саратаве. У гэтым горадзе некалькі гадоў таму на традыцыйным Собінаўскім фестывалі быў разгорнуты вернісаж Гаўрыіла Давыдавіча. А яшчэ тады ж правялі першую персанальную выстаўку Глікмана пад назваю “Я ўсё сказаў...” у саратаўскім мастацкім музеі імя А. М. Радзішчава. Увазе гледачоў прадставілі каля 100 карцін выдатнага мастака.

Мне тады ўдалося звязацца з арганізатарамі выстаўкі нашага земляка. Расіяне зазначылі, што гатовыя паспрыяць ушанаванню памяці Гаўрыіла Глікмана і на яго радзіме — у Бешанковічах, Віцебску. Добра было б арганізаваць выстаўку Гаўрыіла Давыдавіча і ў Мінску. Прынамсі, у 2014 ці ў 2015 годзе — да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці 70-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Гэта будзе напамінам пра тое, што мастак, пайшоўшы на фронт добраахвотнікам, закончыў вайну камандзірам артылерыйскай батарэі ў Берліне, ля сцен рэйхстага. І так здарылася, што апошнія 23 гады свайго жыцця савецкі салдат Гаўрыіл Глікман правёў у Германіі. У Мюнхене прайшло некалькі яго выставак. А ў Расіі — толькі адна, ды яшчэ вернісаж пасля смерці... Выдадзены ў Германіі і альбом рэпрадукцый работ таленавітага жывапісца і графіка.

Выстаўкі

# Знойдзены падчас раскопак

На выстаўцы “Кастарэзнае рамяство Полацка X — XVIII стст.”, якая будзе працаваць да канца года ў Музеі гісторыі архітэктуры Сафійскага сабора, прадстаўлены касцяныя прадметы,выяўленыя падчас раскопак на тэрыторыі Полацка.

**Міра ІЎКОВІЧ**

Сярод іх — прылады працы, прадметы побыту і культу, упрыгажэнні, зброя, цацкі і інш. Помнікі матэрыяльнай культуры, своеасаблівыя сведкі сваёй эпохі. Кожны прадмет здольны расказаць пра той ці іншы бок жыцця былых уласнікаў і зрабіць свой унёсак у вывучэнне гісторыі самага старажытнага на беларускай зямлі горада. У Полацку апрацоўка косці спачатку была хатнім промыслам, а ў X — XVIII стагоддзях існавала як асобная галіна вытворчасці, найбольш росквіт якой прыйшоўся на XII — XIII стст.

У музейным зборы Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка захоўваецца значная колькасць прадметаў, якія звязаны з кастарэзным рамяством X — XVIII стст. У іх ліку сыравінны матэрыял і адходы вытворчасці, бракаваныя рэчы і гатовыя вырабы. Дарэчы, у двары былога Полацкага езуіцкага калегіума знойдзены рэшткі дзвюх кастарэзных майстэрань, адна з якіх існавала ў першай палове XIII, а другая — у перыяд першай паловы XV — XVI стст. (раскопкі 2002 — 2003 гадоў).

Сярэднявечныя полацкія кастарэзы выкарыстоўвалі косці хатняй і дзікай жывёлы, птушак і рыб — трывалы, эластычны і заўсёды даступны матэрыял. Тэхнічныя прыёмы апрацоўкі косці блізкія да спосабаў апрацоўкі дрэва. Старажытныя майстры карысталіся разнастайным і, галоўным чынам, універсальным інструментам: сякерай, нажом, пілой, напільнікам, долатам, малатком… Вырабы прызначаліся ў першую чаргу для задавальнення штодзённых патрэб. Паводле ўзроўню тэхнічнага выканання і якасці апрацоўкі, рэчы значна адрозніваюцца. Выраб большасці з іх не патрабаваў вялікага тэхнічнага майстэрства. Між іншым, некаторыя прадметы выкананы з мастацкім густам і з’яўляюцца творамі дробнай пластыкі.

# Адчуць сябе патрэбнымі

Капыльскі раённы краязнаўчы музей стаў адным з пераможцаў адукацыйнага праекта "TOLLAS — да актыўнага грамадства ў любым узросце", якое праводзіла таварыства "Deutscher Volkshochschul-Verband e. V." (ФРГ) сумесна з міжнароднай грамадскай арганізацыяй "Адукацыя без межаў".



Сувенірныя куфэркі.

**Раіса МАРЧУК,**
**фотаздымкі прадастаўлены Капыльскім раённым краязнаўчым музеем**

Усе праекты-пераможцы, а іх у Беларусі чатырнаццаць, скіраваны на прыцягненне ўвагі да праблем людзей сталага ўзросту, на магчымасць іх актыўнага ўдзелу ў жыцці грамадства. Капыльскі музей прапанаваў на конкурс распрацоўку пад назвай "Апекуны шчасця".

— Мы хацелі не проста чымсьці заняць прадстаўнікоў так званага трэцяга ўзросту. Перш за ўсё думалі пра тое, каб яны адчулі сябе патрэбнымі, не выкінутымі за борт жыцця, — распавяла старшы навуковы супрацоўнік Капыльскага краязнаўчага музея Таццяна Варанцова. — Некалькі гадоў таму ў нас праходзіла выстаўка "Лялькі-чараўніцы" — яны карысталіся вялікай папулярнасцю ў нашых продкаў, найперш у жанчын. З таго часу ў супрацоўнікаў музея з'явіўся інтарэс да такіх вырабаў, мы пачалі вывучаць іх, а з часам выйшлі на вясельную ляльку-куватку.

Была арганізавана група з пажылых людзей, якія спачатку вывучалі згубленыя элементы побытавай славянскай культуры пры правядзенні вясельных абрадаў, а потым прыступілі да вырабу лялек-куватак і сувенірных вясельных куфэркаў. Пасля ужо ўпадабаных капылянамі вясельных абрадаў (яны праводзяцца ў музеі кожны тыдзень) пажылым людзям і спатрэбяцца атрыманыя веды. Справа ў тым, што ўжо на працягу некалькіх гадоў у музеі праводзіцца вясельны абрад "Апекуны шчасця" для маладых, якія завітваюць сюды пасля цырымоніі ў ЗАГСе. Адзін з элементаў гэтага дзейства — уручэнне лялекнеразлучніц.



Лялькі-неразлучніцы.

— Выраб лялек у нашых продкаў меў асаблівае, сакральнае, значэнне, — заўважае Таццяна Варанцова. — Лялькі перш за ўсё служылі абярэгамі, а не выкарыстоўваліся для гульні. Куватак майстравалі сяброўкі нявесты перад самым вяселлем. Гэта дзве простыя лялькі з тканіны, злучаныя адной рукою, — сімвалізуюць мужа і жонку. Лічылася, што пасля заключэння шлюбу муж і жонка — адно цэлае і ісці па жыцці павінны разам. Раней людзі верылі: калі рука ў лялькі надламілася, то шчасця ў сям'і больш не будзе. Жанчына павінна была беражліва захоўваць куватку ўсё жыццё. У даўнія часы такія лялькі шылі з чырвонай тканіны (цяпер — з розных), паколькі чырвоны колер, з аднаго боку, сімвалізуе шчасце, свята, а з другога — абараняе ад сурокаў. Калі ж у сям'і з'яўляліся дзеці, то на гэтую адну-адзіную руку прывязвалі маленькія лялечкі-куваткі, каб і дзеткі аберагаліся.

У рамках падрыхтоўкі праекта правялі і некалькі майстар-класаў па вырабе міні-куфэрачкаў. Цяпер, на жаль, традыцыя страчана, а калісьці куфэрак меў вялікае значэнне. Вось і вырашылі ў Капылі падчас вясельнай цырымоніі дарыць маладым і гэты сувенір для захоўвання ўпрыгажэнняў, іншых каштоўнасцей, каб не перарывалася сувязь са спадчынай продкаў. А яшчэ гэта напамін пра вялікі куфар, у які нявеста калісь збірала пасаг.

— Мы нават не чакалі, што гэтая справа будзе настолькі цікавай пажылым людзям, — дадала Таццяна Аляксандраўна.

Дарэчы, да канца года ў рамках праекта павінна быць знята відэастужка і выпушчаны буклет.

## Творчая майстэрня

# Нагадвае пра колішнюю веліч




Дыхтоўны ўязны знак з'явіўся на пачатку верасня ў Мядзеле Мінскай вобласці. Выканаў яго майстар з курортнага пасёлка Нарач Юрась Камандзірчык.

**Алесь ВЫСОЦКІ,**
**фота аўтара**

— Як з'явілася такая ідэя? — запытаў у разьбяра.

— На свяце рыбы, што праходзіла летам мінулага года, падышоў да стэнда з маімі работамі старшыня Мядзельскага райвыканкама Аляксандр Даніленка. Ён прапанаваў зрабіць цікавы знак, які б адлюстраваў гісторыю жыцця і побыту людзей Нарачанскага краю. З таго часу загарэўся гэтай ідэяй. Аднойчы праязджаў міма гэтага месца — і нібы азарыла: раптам наяве ўбачыў, што трэба зрабіць.

Але ад ідэі да яе ўвасаблення прайшло больш як год. Затое знак на ўездзе ў горад з боку Нарачы атрымаўся прыгожы. На ім — дата заснавання Мядзела, рыбак, лодка з ветразем, сетка з рыбай. А ў ёй шчупак, акунь, сом, ёрш і, вядома ж, галоўнае рыбнае багацце рэгіёна — вугор. На версе знака — замак, які нагадвае і пра герб, і пра колішнюю веліч Мядзела.

— Галоўнае, што праца ішла не пад прымусам — лёгка, ад душы, — дзеліцца майстар. — Самому было цікава, таму хацелася зрабіць нешта адметнае.

І гэта ўдалося. Радуецца творца, слухаючы, як людзі ацэньваюць яго работу:

— Прыемна, што водгукі добразычлівыя. Нават пачуў: "Гэта, Юрась, не знак, а песня!"

## Афарызм

*У кожнага чалавека сваё жыццё, свой талент і сваё шчасце.*

**Якуб КОЛАС**

## З глыбінкі

### АД «ВЫТОКУ» — ДА НАТХНЕННЯ

У Брэсцкай абласной арганізацыі "Беларускага таварыства інвалідаў па зроку" адбылася літаратурна-музычная імпрэза "У свет праз кнігу". Яе ўдзельнікамі сталі сябры клуба "Выток", што існуе пры спецбібліятэцы, і ўдзельнікі абласнога інтэрактыўнага літаратурнага конкурсу "Душы цудоўныя парывы", аб'яўленага абласным праўленнем БелТІЗ.

На вечарыне выступілі паэтэса Надзея Парчук, айцец Аляксандр з брэсцкай Свята-Мікалаеўскай царквы ды інш.

На працягу ўсёй сустрэчы гучалі песні на словы і музыку М. Якімук. І выконваліся яны калектывам мастацкай самадзейнасці гарадской арганізацыі ГА "БелТІЗ" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Лабковіча.

Перад чытачамі выступілі ўдзельнікі абласнога інтэрактыўнага конкурсу, пісьменнік-ветэран Анатоль Авакумаў і старшыня Брэсцкага абласнога праўлення ГА "БелТІЗ" Ірына Юрэня.

**Надзея ЛАДАРАЖАНКА,**
**г. Брэст**

### ЗОРКА НАТАЛЛІ

Вечар памяці спявачкі Наталлі Мурко адбыўся ў Лунінецкім ДК чыгуначнікаў.

Імя гэтае ведае не толькі кожны лунінчанін — яе голасам было зачаравана нямала слухачоў. Выкладчык вакалу Лунінецкай дзіцячай школы мастацтваў выступала ў Расіі і Украіне, Германіі і Ірландыі. Наталлю Іванаўну неаднаразова запрашалі і ў Мінск: яна спявала ў Доме літаратара, гасцёўні Галубка ў Траецкім прадмесці, у залах бібліятэкі Дома афіцэраў, музеяў Беларускай музычнай і тэатральнай культуры, мемарыяльным доме-музеі Якуба Коласа, найчасцей — сядзібе XIX стагоддзя Ваньковічаў.

Падчас імпрэзы слова ўзяў кампазітар, заслужаны работнік культуры Украіны Віктар Торчык: шматгадовае супрацоўніцтва звязвала творцаў Лунінца і Сарнаў. Ён выказаў сваё захапленне лунінецкай спявачкай, роўных якой, на яго думку, не было ні на ўкраінскай Ровеншчыне, ні на беларускай Брэстчыне. Шчырыя пачуцці занатавала вершам яшчэ адна госця з Сарнаў — выкладчык музыкі ў педагагічным каледжы Валянціна Пятрэнка.

Цудоўнымі спевамі Наталля Мурко зачароўвала нават вядомых артыстаў. Даведаліся пра гэта ад прадзюсара Прадстаўніцтва міждзяржаўнай ТРК "Мір" у Беларусі Людмілы Палкоўнікавай, якая на здымках тэлепраграмы "Землякі" паспрыяла запісам лунінчанкі ў прафесійнай студыі.

Дарэчы, вучнямі Наталлі Іванаўны называюць сябе не толькі выхаванцы ДШМ. Яе ўрокам спеваў удзячны Сяргей Трахімёнак — вядомы пісьменнік, доктар юрыдычных навук.

Відэафрагменты адлюстравалі спявачку ў той атмасферы прыгажосці і духоўнасці, увасабленнем якой яна была. Не дзіўна, што выдатныя беларускія паэты далучылі лунінчанку да пантэона палескіх мадон. Яна адноўлькава шчыра дарыла свой талент людзям як у прэстыжных сталічных залах, так і на святах вёсак.

З намі назаўсёды застануцца яе чароўны голас, яе любоў да людзей.

**Таццяна КАНАПАЦКАЯ,**
**г. Лунінец**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ

Рэдакцыйная калегія:
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Святлана Берасцень
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікола Станкевіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Кошт у розніцу — 2700 рублёў

Наклад — 2715.
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 04.10.2012 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 4552

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686